# *ПРОСТА НОЧ НА ДВАРЭ*

***Людміла АНДЗІЛЕЎКА** нарадзілася ў 1958 годзе ў г. Глыбокім Віцебскай вобласці.
Скончыла Наваполацкае музвучылішча і Беларускі універсітэт культуры. Працуе дырэктарам Падсвільскай музычнай школы Глыбоцкага раёна.Друкавалася ў "Маладосці", "ЛіМе", "Вожыку" і абласным друку.*

Ці заўважыў ты, дарагі наш чытач, адну цікавую акалічнасць “маладосцеўскіх" кніжак: не толькі ў паэзію, але і ў прозу актыўна рушылі жанчыны?

Гэтае выданне — ужо чацвёртая “жаночая” празаічная кніга ў 1998 годзе, і адразу ж трэба паведаміць чытачу: і гэтая аўтарка — вельмі цікавы чалавек. І не толькі таму, што яна жанчына (хіба бываюць нецікавыя жанчыны?!), а найперш з-за таго, што яна, Людміла Андзілеўка, шчодра і багата надзеленая ад прыроды як жаноцкасцю, так і талентамі. Не, тут няма агаворкі — талентамі... Яна — і музыкант, і мастак, і празаік.

Прызнаюся, уведаўшы пра толькі што сказанае, асабіста я, грэшны, засумняваўся: а ці можна дабіцца высокага ўзроўню адразу ў трох такіх розных і глыбока арыгінальных відах творчасці, як музыка, мастацтва і літаратура? Не так ужо і шмат прыкладаў такіх дасягненняў. Але, паверце, Людміла Андзілеўка здолела стаць асобаю ўва ўсіх відах сваёй творчай дзейнасці, што, сапраўды, сведчыць пра яе і адоранасць, і працавітасць (яна яшчэ і педагог, што, само па сабе зразумела, таксама падразумявае яшчэ адзін талент). Пазнаёмцеся з гэтай кніжкай — у нечым традыцыйнай, пра тое, што з намі побач, але і ў той жа час з менавіта аўтарскім светам бачання ці пунктам погляду, менавіта з аўтарскім творчым выяўленнем, — і вы самі ўбачыце: у нашу літаратуру прыйшоў таленавіты празаік. Урэшце нельга не падкрэсліць яшчэ адну рэч, што робіць гонар Людміле Андзілеўка: цяпер на Глыбоччыне сабралася і хораша працуе таленавітая суполка паэтаў і драматургаў, а вось яна, Андзілеўка, смела і плённа падалася ў прозу! Поспеху табе, Людміла, Фёдарава дачка!

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

# *СТРАЧАНАЕ ЛЕТА*

## *Мамчына дачушка*

Што да мяне асабіста, то я на атлетычна накачаных мужчын і глядзець не хачу.

Выбачайце, калі каго абразіла – не трэба звяртаць увагі – куды больш жанчын, якія зусім у іншым ракурсе ставяцца да гэтай праблемы... Хоць бы і тая самая Леська. У яе жыцці Жорка першым мужчынам быў. Яна гарадская, адна ў бацькоў, мамчына дачушка, у інстытуце вучылася... На практыку ў вёску прыехала – усе інгэлектуальныя нагрувашчванні бацькоўскага выхавання тут і былі ўшчэнт парушаны прыродным інстынктам. Як убачыла ЯГО, так і абамлела: “Якія біцэпсы, якія трыцэпсы! Вось гэта – мужык!” А ён і праўда – мужык: трактарыст, пагляд тупы, нахабны, бровы зрасліся на пераноссі, лоб вузкі, азызлыя вусны адтапыраныя, чыста бугай перад прафесійным абавязкам. Леську ўзяў у той жа вечар у лесе, на пні.

Прывезла яго ў горад. Інстытут заканчвала замужняй дамай. Па накіраванні зноў жа ў горад павезла бугая свайго, там і сына яму прэзентавала.

Помню Лесю таго часу – ідэальнай жонкай была! Усе на педсавет, а ёй – Жору карміць трэба, іншым выкладчыкам – бацькоўскі сход да цёмнай ночы, а Леся крухмаліць, падсіньвае бялізну:

— Мой муж привередливый...

Ага! У адной яе муж! Дзік з хутара – не паспеў свіное рыла з пушчы высунуць, як пераборлівы стаў: у ранішні боршч вечарам лыча не паторкне! Сам стравы на пліту падагрэць не паставіць.

Загуляў бугай! Ды такіх пачвар узамен Леські знаходзіў, што... Пішы партрэт любой – даю тыповую характарыстыку – абавязковы фінгал на паўшчакі, няма пары-тройкі пярэдніх зубоў, павыскубаныя валасы і сінюшныя вузлы вен на рахітных нагах — дзе якія шызкі-алкагалічкі не падабраныя валяліся, усе пад яго траплялі. Нейкае адхіленне ў чалавека... Развялася яна з ім. Ну, развод, канечне, атрымаўся адмысловы: бугай яе яшчэ гады тры перастракаў, падпільноўваў з апошніх урокаў і гвалтоўна “плюшчыў”, прыціснуўшы да жалезабетоннай вінзаводскай сцяны. А што яна зробіць? У каго паратунку папросіць? Ды і хто жонку ад мужа, няхай сабе і былога, у такой далікатнай сітуацыі абароніць? Перастаў паляваць на яе толькі тады, калі акруціла яго адна разводная жанчына з дзіцём. Вось той ён да пары – аднаго інтэлекту, лепш сказаць, без яго. У Леські бацькі сына да сябе забралі, яе пакінулі адпачыць і акрыяць пасля душэўных пакут...

Ёсць жанчыны, якім і наканавана жыць у адзіноце, але ёй – барані бог! Леська проста шалець стала ад "недастаніі". Бывала, стаім у чарзе па хлеб –

валацугі законна па чарніла без чаргі пруць, а яна, як увап'ецца вачамі ў якога-небудзь, ды такога мярзотнага, на мой погляд, што каб апошні ў свеце заставаўся – на адным гектары "да ветру" разам не села б, – што п'яўка! Нічога не бачыць, не чуе, толькі яго водар уцягвае і пайшла з ім... Раніцою забяжыць на каву і ці то з задавальненнем, ці расчараваннем: "Ой, якая я ўсё ж дурніца!" А вочы блішчаць! А прага не да канца спатолена... І зноў – цікуе, цікуе...

Нядоўга Леся з намі працавала, ёй бацькі трохпакаёўку ў горадзе, дзе і самі жылі, купілі, на работу ўладкавалі. Але яна не магла ніяк развітацца з "наседжаным асяроддзем". Прыедзе на выхадныя, сына мнепадкіне:

- У нас з табой духоўная роднасць, але мне зараз не да гэтага, зразумей.

І бяжыць да сяброўак. Потым хваліцца:

- Выйшла ў цэнтр, думаю, каго першага сустрэну — той і мой! Ну, як ты думаеш, каго сустрэла? — з чорцікамі ў вачах пытаецца Леська.

- Бугая свайго...

- Угадала! Не, ты і ўявіць сабе не можаш, бо такі мужык на мільёны адзін сустракаецца. Ён жа дзевяць разоў за ноч падымецца! У нас заўсёды ў ложку клас быў!

- Ці не шкадуеш ты, што пакінула яго?

- О, не! Адно другога не тычыцца... Розныя мы з ім па іггэлекце.

Сапраўды, Леська дзве замежныя мовы дасканала ведае, гісторык па прафесіі, індыйскую культуру які год вывучае, а Жорж яе так бульдозерам і рые зямлю, нават на шафёра не здолеў вывучыцца. А ён зноў да яе яшчэ гадоў дзесяць прасіўся...

Во дзе ўліп бедалага! Каб так лёс паздзекаваўся з чалавека... Ягоная развядзёнка яму аж тройню падкінула. Яму і сарака няма, а ўвесь сівы, як лунь, асабліва пасля камандзіроўкі ў Чарнобыльскую зону. Тады яго жонка і кінула — зусім спілася, па паўгода ў загулах – міліцыяй вышукваюць, каб да дзяцей вярнуць, а яна яго зарплаты дачакаецца і зноў – "да пабачэння",

збегла з новым хахалем...
Леся скардзілася, што не такім хацела сына бачыцы ледзь пэтэвушку дабіў, адно выфранціцца — і да дзяўчат!

-— Куды ты свайго сына выпраўляеш, калі да цябе кавалеры прыходзяць?

— А навошта? У яго свой пакой, магнітафон, відэа... Ой, мы на днях у карты рэзаліся, — вяртаецца да сваёй тэмы Леся, — дык я прапанавала на стрыптыз. Хто прайграе шмотку скідвае... *Я* зусім прадулася! Уяві сабе: у мяне ж месячныя, на мне такія дзяжурныя панталоны...

Ведала, што яна занялася камерцыяй, пытаюся:

— А з чым ты ў Расію ездзіш?

— Ні з чым, — ухмыляецца...

— Ну нешта ж возіш прадаваць?

— Сябе важу... А! Фігня ўсё, што за гэта вялікія грошы даюць! Скаты яны ўсе! Жмоты! Нічога я не маю з тых рэйсаў... А як мужык здрабнеў! Не паспее штаны распшіліць, як счахне, але абавязкова запытаецца, ці хараша мне... Ублюдкі! О, Жорка мой — палавы гігант быў! Толькі я ўсё роўна не шкадую...

## *Віцька*

На днях да яе завітаў блізкі сваяк, брат стрыечны. Ну завітаў, дук завітаў, не здзівіла б тое — яны ж не зналіся амаль з дзяцінства. Бачыцца бачыліся, нават прыязна віталіся, але здалёк... Ды вось: тук-тук у дзверы.

— Хто там?

— Дзядзька чужы, — жартоўны адказ.

— Дзядзькоў чужых такой парой не пускаем.

— Тады свае.

— Мае ўсе дома, — падтрымліваючы жартоўны тон, хоць і не пазнала па

голасе, хто гэта, ужо адчыняла дзверы. Убачыла і адразу зразумела, што прывяло візіцёра. Упэўнена была: помніць і ён, пакутуе, сумленне непакоіць. Хацела калі-небудзь проста падысці і сказаць: “Люблю цябе, брацітка майго”,—каб выкінуў з галавы... не саромеўся.

Ён старэйшы за яе. Наколькі, не ведаю, бегаў на танцы, калі ёй было гадкоў сем.

Тады ён доўга збіраўся, чысціў да бляску туфлі, апранаўся ў белую кашулю, расчоскай наводзіў штаны “на кант” і далонню настаўляў чуб. Ад яго біла электратокам, такі быў энергічны, узрушаны, вясёлы. Паглядаў у люстэрка, падвешанае амаль пад столлю да сцяны, і адбіваў нагамі вельмі, дарэчы, удала дробат, як зараз кажуць – стэп. Сястра швэндалася ля яго, напэўна, замінала, але Віцька ніколі яе не адганяў. Нават калі быў заняты работай, жартаваў з ёй, дурэў, ён жа і мянушку прыляпіў – Ліса.

Ліса ў той час больш у цёткі жыла, так Віцькава маці ратавала сястру-гараджанку ад бядоты. Забірала малую, каб яе бацькам з братамі старэйшымі было лягчэй пракарміцца. Ліса не адна ў цёткі ад’ядалася на сялянскіх харчах, там яшчэ нскалькі пляменнікаў і пляменніц, ужо з дзядзькавага боку, гасцявалі кожнае лета.

Віцьку не было болып за шаснаццаць, але ён некуды ездзіў на ровары ў заработкі. Толькі з двара даносіўся вечарам лязгат старога всласіпеда – дзяўчаты выбягалі з хаты, і хутар узрываўся радасным крыкам і візгатам: то Віцька ганяўся за імі па садзе, ставіў падножкі, і малыя каціліся па густой траве, то цягаў да чырвані за вушы, круціў “самалёцікам”. “Даўна твая скура не душаная?”— хапаў Лісу і прыдумляў усялякія забаўкі, да гэтай пары ўжо забытыя дзецьмі, раней з пакалення ў пакаленне псрададзеныя “крапіўкі”, “маркоўкі”, “ляшчы” альбо — “лён мяць”, “маку ўсыпаць”. Ліса ганарылася, шго хоць і была самай мсншай, а брат яе больш за ўсіх любіў: не крыўдзіў, не назаляў, ашчадна “душыў скуру”, а нярэдка ж з іншымі даходзіла да снёз. Самую старэйшую, Зіну, не дужа любіў. Яна была ўжо амаль дзсўка, з поўнымі грудзямі, ружовымі шчокамі і пухлымі вуснамі, яна наравіла ўспекліцца да яго на каленкі сваім круглым задам, чым заўсёды злавала. Аднойчы Віцька так начапляў “дзядоў” ёй на валасы, што прыйшлося сапсаваць касу, павыстрыгаўшы пасмы.

А самай цікавай гульнёй было — схаваць якую рэч у хаце, каб іншыя шукалі. Дзядзька ладзіў граблі на сена і ў яго назапашана было спрытненькіх лазовых палачак на зуб’е — вось іх, звязаныя ў пучок, часцей за ўсё і хавалі: то ў пячурку, то на паліцы, пад сяннік, за лаву... Яны прыемна шалясцелі і пастуквалі ў руках. Не было дня, каб не гулялі ў палачкі.

Аднойчы цётка павяла старэйшых дзяўчат на станцыю прадаць масла. Дзядзька дома не сутыкаўся, а Віцька зарана вярнуўся з работы.

— Што, Ліса, сумуеш адна?

Ліса – смелая пакуль людзей шмат – сам-насам з Віцькам зусім сарамлівая аказалася. Брат і есці не сеў...
— Даўна твая скура не душаная? — спытаў, падыходзячы да малой. Яна не адазвалася. Ёй вельмі хацелася гуляць, але штосьці насцярожвала...

— Хочаш пагуляем?

— Канечне.

— У тваю любімую гульню?

— Давай.

Віцька ўзяў малую на рукі і панёс у вялікі пакой, дзе за шафай стаяў ложак. Тая адразу наструнілася, стала вырывацца:

— Пусці, дурань! Не хачу я "душанай скуры"!

— Не, мы ў палачкі будзем гуляць, — лагодна ўгаворваў Віцька.

— У палачкі не так гуляюць!

— Так. Я табе новую гульню пакажу.

Ліса пра штосьці незвычайнае здагадвалася, ёй было ўжо сем гадоў, і нейкае пачуццё трывожыла яе. Віцька пяшчотна настойваў на сваім, цягнуў на ложак – Ліса вырывалася. Ён ускінуў яе сабе на спіну і спрабаваў "пакатаць на коніку", як не раз рабіў, але тады ўсе былі дома – зараз зусім іншае – малая не верыла "жарабцу". Пасля ён сілай паклаў яе на спіну і лёг зверху. Малую калаціла не толькі ад страху — і сорам, і яшчэ нейкае, зусім незнаёмае пякельнае пачуццё агіды расло ў ёй, біла ў скроні да болю ў галаве, перашкаджала дыхаць, стукала ў горле — яна заплакала.

— Ну, што ты, дурніца, я ж пажартаваў, хацеў пагуляць з табою, а ты ў слёзы, — апраўдваўся Віцька.

— Раскажу ўсё пра цябе, — надзьмулася яна. Ніколі б і нікому яна ні за

што не расказала б... Ну як ТАКОЕ расказаць, якімі словамі?

Аднаго разу цётка павяла яе глядзець, як “маладзёж жэніць Цярэшку”.

У вялікай хаце было настаўлена сталоў, а сталы поўніліся living рознымі смачнымі стравамі. Вакол іх парамі сядзелі на лавах хлопцы і дзяўчаты. Бацькі не ўдзельнічалі ў вечарыне, толькі здалёк паглядалі, любаваліся прыгажосцю дачок і спрытам сыноў. У сенцах, у праходзе, паўз сцены вялікага пакоя стаялі дзяды і бабулі з малымі дзецьмі.

Віцька таксама сядзеў з дзяўчынай. Яго рука ляжала на яе таліі. Калі ён убачыў маці з Лісой, адразу паклікаў малую да сябе і, абняўшы за плечыкі, спытаў, пгго ёй падаць са стала. Ліса была вельмі сарамлівая, не папрасіла нічога. Тады Віцька набраў у прыгаршчы салодкіх выпечаных грыбкоў і загадаў скласці ручкі кошычкам — насыпаў прысмакаў. Пагладзіў Лісу па галоўцы:

- Ну, падабаецца табе Цярэшкава вяселле?

- Ага, — кіўнула яна.

- Зараз танцаваць будуць, глядзі, каб табе ножкі не адтапталі.

Ён, як сапраўдны кавалер, выводзіў сваю Марысю на вальс, факстрот, але лепш за ўсё ў яго атрымлівалася полька. 3 яго градам ліўся пот, вочы блішчэлі і зноў біла электратокам. Ён падыходзіў да сваіх і пытаўся: “Ну, Ліска, не стамілася? Ужо вочкі зліпаюцца. Вядзі ты яе дадому — бачыш, спіць малая”, звяртаўся да маці.

Ліса, сапраўды, стамілася, таму заснула як пшаніцу прадаўшы. Ноччу яе штосьці разбудзіла... Яшчэ нічога не зразумеўшы, адчула, што нельга зваць цёцю, як раней рабіла ад боязі, прачнуўшыся адна ў цемнаце... Перш чым здагадацца, Што гэта Віцькавы рукі гладзяць яе там, дзе ніколі сама сябе не разглядала, яе ўсю апякло знутры — жывы агонь гарэў у грудзях, жываце і там, дзе былі Віцькавы рукі. Невядома, што больш стрымлівала Лісу, не давала паклікаць каго ці абараніцца – пякучы сорам альбо яшчэ болып пякучы агонь невядомасці. Яна нават не падала выгляду, што прачнулася, ледзь стрымліваючы дыханне, баялася выдаць тое, што зараз з ёй адбывалася. Віцька асцярожна расхінуў ножкі і вадзіў рукой па мяккіх, гладкіх складачках. Прыкладаўся да тварыка Лісы вуснамі. Яна адчувала побач са сваёй ножкай яго нешта пругкае. Потым Віцька застагнаў і супакоіўся...

Хутка яго забралі ў войска – паніклы, разгублены, ён быў падстрыжаны пад нуль. Высокі, статны і памужнелы вяртаўся ён праз тры гады. Зайшоў у горадзе да радні – перачакаць час да аўтобуса. Перад Лісой адчуваў сябе ніякавата – яна падрасла і глядзела вялікімі разумнымі вачамі, хоць таксама саромелася. Каб не паказаць няёмкасці, ён паводзіў сябе занадта па-даросламу, нават развязна. Быў без гасцінца, таму, як некалі, загадаў скласці рукі ў прыгаршчы насыпаў звонкіх манет. Яны непрыемна апяклі душу Лісы, але пакрыўдзіць — адмовіцца яна не змагла...

Неаднойчы потым маці пахвалялася дачкой перад суседкамі, паўтараючы словы пляменніка: “У свеце няма прыгажэйшай за нашу Лісу...”

Было вяселле, быў развод – жонка Віцькава скардзілася, што ён здзекаваўся з яе, яшчэ пра штосьці шаптала на вуха дарослым. Потым новае вяселле... Віцька шмат стаў піць, буяніў... Яму, напэўна, ужо за сорак...

— Што здарылася, Віця?

— Тое здарылася, што начаваць мне няма дзе.

Ён быў на падпітку – кішэнь адтапырвала бутэлька. Вочы насцярожаныя...

— Адкуль ты?

— Тут, у адным месцы быў.

— Чаму ж там не застаўся?

— Так атрымалася. Пусці пераначаваць.

— Яшчэ аўтобусы ходзяць — дамоў табе трэба.

— Я тут хачу застацца, — жартоўна-нахабным тонам набіваўся госць.

— Не.

— Ну, дзякуй, сястрыца, — злосна скрыгатнуў зубамі.

Ліса зачыніла за ім дзверы, падышла да люстэрка. Але паглядзець сабе ў вочы так і не рашылася...

## *Ты інакш глядзіш на жыццё*

Не спадабаўся ён мне пры першай сустрэчы. Прыгожыя мужчыны наогул мне ніколі не падабаліся, а ў яго мала што мілавідны твар, дык яшчэ чорныя вочы, вялікія і выразныя, прымушалі заўважаць – выгляд быў хлапчукаваты. Не высокі рост, чыжык-пыжык замест прычоскі. (Люблю мужчын, ад якіх нараджаюцца сыны.) Жонка і дзве дачкі, пра якіх я даведалася яшчэ да знаёмства, не дадавалі ў маім уяўленні яму сур'ёзнасці і самастойнасці, хутчэй сведчылі пры яго ўзросце пра легкадумства.

Аўдавелая кватэра Голубавай збірала ў тыя часы наш бамонд. Блізіўся Новы год – стваралася "напражонка" з мужчынскай "особью" — дзеля

папраўкі становішча і быў ён некім запеленгаваны, ледзь прыехаўшы адбываць інтэрнатуру ў раённай бальніцы, так што мог быць запрошаны на свята пасля "ўстановачнага" знаёмства. Трымаўся крыху сарамліва, хоць, больш дазваляў сябе такім лічыць: амаль не размаўляў, задумліва ўсміхаўся, вывучаў прысутных.

Да наступнай, выпадковай, сустрэчы я забылася пра яго існаванне. Дарэчы, да Голубавай ён прыйсці адмовіўся: "Паеду дамоў, у Віцебск", — чым зарабіў тады адзін бал на свой рахунак па маім падліку.

Нехта паклікаў мяне зусім незнаёмым голасам, так па-сяброўску: "Лена!" Аслупянела ад нечаканасці: за руку трымаў мяне той хлапчук... У поўным узбраенні я прыняла апазіцыйную гатоўнасць: асуджальная поза, адзіна магчымы, як мне здавалася, у такім становішчы грэблівы пагляд... Поўны набор, карацей, камсамольска-кіношнага фальшывага выхавання.

- Толькі пажадаў убачыць і вось – збылося!

На ты, так проста і адкрыта гаварыў ён, гледзячы прама ў вочы мне, што я разгубілася, адчула сябе дзяўчынкай, з усіх сіл сілячыся выдаваць сябе на "свецкую львіцу". (Вось толькі не трэба рамантыкі!) У ім гаварыў мужчына, чалавек, які ведае жыццё і ведае, чаго ад яго хоча, і, самае галоўнае, які не баяўся прайграваць – ёсць ТЫ, ёсць Я, ёсць маё права надзеі і тваё права не прыняць.

У яго былі загарэлыя, вельмі прыгожыя рукі. Ён быў выдатны хірург – рызыкоўны, таленавіты і чалавечны. Я з тых, іншапланецян, якія любяць

рукамі. Адкіну філасофствы наконт гадоўнай цікаўнасці для мяне—мозг, інтэлект мужчыны... Гэта само сабой, без гэтага не загарыцца “зялёны”. Я пра іншае – вось ЁН, вось Я – і тут бачу я рукі – не хавай, не хавай, калі ніска, не саромейся, дазволь любавацца імі. О! Гэтак так нггымна, я разумею, прабач, але я хачу дакрануцца да тваіх рук, адчуць шчакою тваю далонь, прыкласці пальцы да вуснаў... (Давайце без адхіленняў...) ЁН быў выдатны хірург — чалавечны, таленавіты, рызыкоўны: бяліў кароўнікі, абкладаў цэглай фермы, іграў на лабухам вяселлях...

- Ты інакш глядзіш на жыццё? Дзяржава не цэніць працу, прымушае быць злачынцам альбо жабраком... Мне пляваць на тое, пгго пра мяне думае мясцовая “эліта”. Яны бяруць хабар і не жадаюць нічога змяніць... Яны саромеюцца бруднай работы, а я — бруднага сумлення... Ты інакш глядзіш на жыццё?

Там павінна быць чацвёртае слова... Ён паклікаў мяне, каб пазнаёміць з братам:

- Вось мая... жанчына...

Так, павінна быць чацвёртае слова... Не падабраў, не рашыўся... (Толькі прашу — без паэзіі.) Яны чакалі касіра з грашыма, а я шукала папутку, каб дабрацца ў свой гэпэ — рэйсавыя аўтобусы на той час хадзілі з перабоямі.

- Лена! Мы таксама зараз паедзем, толькі грошы атрымаем — з намі нарэшце калгас разлічваецца — паедзем разам?

Хвароба, фізічны боль атупляюць чалавека, адбіраюць радасць, жаданне жыць... Тая мая хвароба азадачыла медыцыну — цяпер ніхто не дасць веры, што некалі на працягу двух тыдняў кожную раніцу я рыхтавалася да аперацыі—вось-вось прыедзе па мяне каталка, даставіць маё, ад страху без душы, цела ў прасторны пакой з “іншаземным караблём-талеркай” (асвятляльны прыбор) пад столлю, і людзі ў брудна-зялёным адзенні з дзюркамі для вачэй замест твараў нахіляцца нада мною —гэта будзе апошні кадр майго жыцця, а потым.. І кожную раніцу аперацыя адкладалася на заўтра – пачакаем, што пакажа яшчэ вось гэты аналіз, гэтыя здымкі... І гэта, і тое нічога не паказвалі, акрамя патрэбы тэрмінова ратаваць чалавека. Ад чаго ратаваць – не паказала і жудаснае даследаванне, на якое ішла сама, а вярталася беспрытомнай на насілках з дозай прамідолу ў крыві. Так і не назвалі хваробу. Дзякуй Богу — прайшла безназоўнай. Толькі адбывалася ўсё гэта месяцам пазней, а на прыёме ў яго я сядзела “без пяці хвілін мерцвяком”. Яго вочы трывожна і засяроджана вывучалі квіток з

лабараторыі:

— Ты павінна быць гатовай да аперацыі.

— Няўжо гэта яшчэ магчыма? *Я* сабралася паміраць, — няўдала, вымучваючы кіслую ўсмешку, пажартавала я.

— А вось — бачыла?! — проста пад маім носам тырчэла габарытная фіга.

Ён меў права сказаць: “Гэта мая... жанчына...”, ён выратаваў мне жыццё. (Толькі не трэба эмоцый!)

У яго былі вельмі прыгожыя рукі, і клятчатая кашуля з закасанымі рукавамі не перашкаджала лашчыць іх позіркам.

Яго звалі Андрэй, у яго была цудоўная мудрая жанчына – жонка.

Ясным летнім поўднем ён загінуў у аўтамабільнай катастрофе... *Я* зберагла сваю “прыстойнасць” — не дапусціла дегкадумства, як шкада...

ЧЭРСТВАСАРДЭЧНАЯ СТАРУХА МАРАЛЬ!

Вартуючы лжывае сумленне, пашкадавала для чалавека пяшчоты, цяпла і ласкі.

## *Страчанае лета*

Той год мы ўтрох: Мішук, Санька і я шабашылі ў адным з невялічкіх гарадкоў. На голым акладзе супрацоўніка, няхай сабе і сталічнага, НДІ не надта разжывешся... Адно і была надзея – пабагацець у час адпачынку. Пагода, як на здзек, выдалася цудоўная, стаялі сонечныя, ні хмурынкі, дні, а мы з ранку да ночы выціралі пот з ілба — Мішка падганяў... “Калі прыехалі ў заработкі, дык трэба працаваць, каб марна не страціць лета, хопіць, на рабоце зады адседзелі”.

Мы з Санькам усё ж вельмі спадзяваліся, што такія-сякія забавы, хоць і ўрэзаўшы час сну, але ўнясём у план-расклад нашага тут існавання, дык вырашылі ў выхадны дзень падацца на танцы.

Хутка і Мішку збрыдзела вабіць вечары ў пустым – ні радыё, ні тэлевізара – вагончыку, які прызначылі нам пад начлег, так што ў наступную ж нядзелю і ён “прасаваў шнуркі”.

Местачковая моладзь не зацікавіла нас, нават не зацеплілася жаданне запрнсіць на танец каторую маладзічку... Напэўна, мы адчулі сябе перастаркамі для такіх уцех – проста сядзелі стомленыя і абыякавыя,

разамлелыя на лавах, пастаўленых ўздоўж сцяны і, сашчапіўшы рукі на грудзіне, рабілі выгляд, маўляў, гэта мы так, не звяртайце на нас увагі, як і мы на вас не будзем...

Аднойчы па зале нябачна прайшла Фея (нябачна таму, што, акрамя нас, здаецца, яе ніхто не заўважыў). Фея стала збоку, асобна ад усіх, і безудзельна назірала. Падумалася, што яна нетутэйшая – быць не можа, каб у мядзведжым кутку вадзіліся сапраўдныя феі. Але з ёй віталіся, падыходзілі на хвілінку, каб штосьці сказаць. Мы як зачараваныя не зводзілі вачэй...

“Напэўна, я прапаў”, — нешта накшталт слоў Высоцкага круцілася ў маёй галаве.

Такой улюблівай натуры, як я,у свеце не знойдзеш! І кожную сваю каханку я запрашаў да шлюбу. 3-за такога шчадралюбства свае трыццаць тры гады насіў абцяжаранымі сямейнымі клопатамі. Не ўмеў я выбіраць жанчын – не шанцавала – напэўна, не ведаў нейкага іх сакрэту, трапляў на голы кручок, як той неразумны карась. Першая мая пасія аказалася звычайнай п’янчужкай, якой толькі і трэба было ад мяне рубель на пляшку. Я так і вожкаўся б з ёй, каб нс закахаўся ў тую, якая — не паспеў вокам міргнуць – афарміла ўсе неабходныя паперы і перавезла мае чамаданы ў сваю кватэру, а потым, з той жа хуткасцю, з’ехала з “марскім капііанам” у невядомым напрамку, перад тым выкінуўшы тыя самыя чамаданы за дзверы, бо, “ўчадзелы” каханнем, я запамятаваў прапісацца. Нягледзячы на трагічны вопыт, маё сэрца прагла кахання, і пакойчык, што мне выдзелілі ў

гуртжытлоўцы, напоўніўся гучным смехам маёй цяперашняй жонкі і скрынямі нераспакаванай мэблі аж дастолі... Зараз я імкнуся бываць там як мага менш: з намі пасялілася яшчэ і цешча.

Карацей кажучы, Мішка мяне натхніў: “Калі ты не запросіш яе на танец, гэта зраблю я”.

Такая заява мяне падштурхнула – траціць свой шанец не хацелася.

Як толькі загучала лірычная музыка, я праціснуўся да Феі, а яна быццам таго і чакала, хоць не магла бачыць нас за радамі моладзі. Насустрач мне ўспыхнулі два сонцы СТОЛЬКІ святла і цеплыні зыходзіла з яе вачэй, што я адразу адчуў смелым і годным кавалерам!

Яна та-ак танцава-а-ла! Але як я ні стараўся, не адчуваў яе цела. “Ці не падман зроку? Ці не з паветра яна створана?”— думаў я... Аб матэрыяльнасці Феі сведчылі яс далоні – іх я моцна, аж яна варушыла пальцамі, сціскаў у сваіх руках, каб не згубіць, не даць ёй зусім ператварыцца ў прывід. А яшчэ... О гэты пах! Я потым доўга ўспаміпаў. Лавіў, шукаў, прынюхваўся, хочучы адчуць зноў той водар, хоць бы яго

напамінак. І зараз добра памятаю ўсе адценні яе духоў і не зблытаю іх букет ні з якімі іншымі...

Хутка, як здалося мне, танец скончыўся, і, разгублены тым, што назаўсёды страчу Фею, я спытаў, немы дагэтуль.

— Вы дазволіце праводзіць вас?

— Але я пабягу зараз.

— Яшчэ лепш.

— Вы не зразумелі, я менавіта – пабягу...

— Калі дазволіце...

Толькі сышлі з прыступак — ЯНА ветрам панеслася ў ноч. Я паспяваў за ёй, арыентуючыся па мільгаючым у цемры шлейфе. І не было ў галаве думкі пацікавіцца: “Куды?” — бо ляцеў бы наўскрай свету.

Беглі нядоўга, падняліся на другі паверх невялічкага дома, і Фея расчыніла перада мной дзверы, без слоў і запрашэння правяла ў асветленую віталыпо.

— Яны адпусцілі мяне толькі на дзве гадзіны, — шэптам сказала яна, прыклаўшы палец да вуснаў.

Я ж яшчэ знаходзіўся ў шокавым стане, каб здагадацца альбо спытаць, хто гэтыя ЯНЫ... Праходзячы на кухню, краем вока выхапіў: у другім пакоі два дзіцячыя ложкі, а ў іх круглыя ружовыя тварыкі.

— Я не працую па вечарах — у мяне балетная студыя — сёння сяброўка папрасіла падмяніць, — працягвала яна напаўголаса.

Мы сядзелі за сталом, пілі каву. Мне здалося, што я выйшаў адсюль некалькі хвілін таму і вось зноў вярнуўся — так спакойна і хораша было глядзець ёй у вочы, не казырыцца перад ёй, каб здавацца НЕКІМ, а быць проста сабою — быццам яна ўсё пра мяне ведала і... прымала. І ў ёй не было аніякага какецтва, гульні словамі, напэўна, таксама пазнала цану паказнога.

Яна другі год жыла адна, прыехала з горада дзеля кватэры, пакінуўшы там абжытую мужу.

— Не магу я без кахання — страшна... Не сумелі зберагчы нават павагі

адно да аднаго... Але і адзінота губіць чалавека. Нерастрачаная пяшчота мае ўласцівасць назапашвацца і ператварацца ў іржу — раз’ядае, атручвае і знішчае душу.

Мужа ні словам не папракала, замаўкала, каб зрабіць глыток астылай кавы, а яшчэ каб прыслухацца да сябе — ці не сфальшывіла ў чым. Яе вочы спыняліся на нябачным арыенціры, нібы адтуль лягчэй было прыгледзецца да сваіх думак.

— Жыццё без кахання робіць нас звычайнымі шэрымі істотамі, не прыпомню, які паэт сказаў: “Так і жыву я без кахання, сабою абражаючы жыццё..." Напэўна, перш чым прэтэндаваць на сапраўднае пачуццё, трэба нешта вельмі важнае зразумець.

І мне было ў чым паспавядацца — столькі глупства і непатрэбшчыны нажыў! Як лёгка знаходзіў і траціў тое, што не належала мне. Да чаго ж трэба было ісці — не заўважаў. І нікога ў тым, што наблытана, нельга абвінаваціць: сам кідаўся на знешні бляск (як і зараз, толькі зараз ён выпадкова не аказаўся галоўным і адзіным, а мог жа...)

— Мы любім у людзях адпаведнае сабе, што ж наракаць на тых, каго выбіраем, каб разам пакутаваць.

Я баяўся адзіноты, як дзіця цемры, у адзіноце ёсць патрэба звароту да сябе ўнутранага, да сваёй асобы, напэўна, яна, гэта асоба, не была надта цікавай, калі я так пазбягаў яе, згаджаючыся на любы тандэм.

Яна не слухала – думала маімі словамі, перажывала іх, прымяраючы на сябе.

Жанчына, якая сядзела насупраць мяне, была не проста прыгожай – у ёй

усё было ЯК ТРЭБА: як жадалі мае вочы, сэрца, душа, розум... Але не гэта здзіўляла – упершыню для мяне, як жартам любілі гаварыць калегі, “тэхнічныя даныя” — (міфічная прыгажосць Феі) адышлі на другі план — гіпнатызавала, прыцягвала ў ёй не вядомая мне да той пары здольнасць разумець, слухаць, разважаць. Быццам глядзеўся ў люстра і бачыў сябе. Не трэба ні сіл, ні намаганняў – думка – пагляд – усмешка... Усё жыццё адчуваў я настальгію па такой жанчыне, не хапіла цярпення дачакацца такой, хацелася ўсяго адразу і хутчэй.

Нас разбудзіў гадзіннік – мы як сядзелі, так і засталіся сядзець, толькі апрытомнелі, вярнуўшыся з зорнага неба на зямлю. (Гарачая натура, я нават не памкнуўся за ноч прытуліць, пацалаваць яе... Ні я, ні яна не заўважылі, што за акном мацнела раніца, а мы не звялі вачэй, не спыталі імёнаў.) Яна глядзела на мяне спакойна і крыху адчужана, але глыбока-глыбока, не ў вачах нават, у душы, я ўбачыў здольнасць на самы рашучы крок. У яе стрымлівалася столькі жаночай ласкі, жару, кахання — Фея трымалася, як і павінна феі...

Разбуджаны гадзіннікам, я не сумеў прыстойна абладзіць свае думкі: “Не вярнуся сюды ніколі... Не маю на тое права — такое каханне не па мне... Баюся – зусім прападу... я стаміўся”. Выйшаў моўчкі, развітаўшыся паглядам.

Толькі ёй вядома, як удалося патушыць сэрцу ўспыхнуўшы ў вачах агеньчык надзеі...

Я цягнуўся ў начлежку і прымушаў сябе падлічваць неабходную колькасць будматэрыялаў на тыдзень, старанна ўчытваўся ў назвы вуліц і завулкаў, над якімі “пралятаў” учарашняй ноччу, запамінаў, каб не даць спакою галаве і волі думкам...

Санька памкнуўся падтруніць нада мной і абсекся, не адкрыўшы рот.

Вечарам я з’ехаў у Мінск... Дом сустрэў мяне пустэчай: за час адсутнасці мужа жонка выбіла кватэру, дзе і пасялілася са сваёй маці і яе любімым ратвейлерам. Сам лёс кідаў мне выклік, але я ўжо не верыў яму... хутчэй сабе – не прывык я быць любімым, зразумелым, жаданым, шчаслівым... Гэта патрабавала душэўных намаганняў перш за ўсё ад сябе самога. Куды прасцей – цягнуць лямку пустога воза, чым пачынаць ствараць жыццё наноў.

У інстытуце я больш не працую... З Мішкам амаль не бачымся, а вось Санька, пасля майго прымусовага знаходжання ў “прафілакторыі”, з’явіўся на новенькіх “Жыгулях” і загадаў з парога:

— Апранайся!

— Навошта?

— Паехалі!

— Куды?

— *Я* ведаю куды, апранайся!

Ён вёз мяне ў “былое лета”. Па дарозе я сустрэўся са сваім тварам у

люстэрку і з жахам адхіснуўся, каб не бачыць: на мяне глядзела шэрая істота.

*Я* застаўся ў машыне, Санька пайшоў у разведку. Збянтэжаны, ён праз хвіліну вяртаўся з круглымі, як гузікі, вачамі, за ім, весела раскінуўшы рукі, ішоў наш былы аднагруповец Косцік Патупа. Мы чулі, што ён нейкі час быў у разводзе з жонкай, зараз зноў сышліся... Ён вывалак мяне з машыны, згроб у ахапак і пацягнуў у знаёмы мне дом.

“І як вы, чэрці, знайшлі мяне, адкуль адрас даведаліся?” — не мог наздзіўляцца Косцік.

Мы сядзелі на знаёмай мне кухні, за знаёмым мне столікам і апаражнялі бутэлькі з Косцікавага сховішча.

Некалькі разоў паўз адчыненыя дзверы прайшла жанчына ў дамашнім халаце. Яна кінула раўнадушны пагляд на кампанію мужа... На імгненне яе пустыя, патухлыя вочы затрымаліся на адутлаватым твары аднаго з мужчын, але... так і не засвяціліся ўспамінам. Яна адкінула за вуха пасмачку непрыбраных валасоў і, прычыніўшы дзверы, села на канапу перад тэлевізарам.

## ***Танька***

Танька была яшчэ зусім дзіця, хоць і стукнула ёй семнаццаць. Але і ў семнаццаць людзі розныя: хто хітрэйшы, хто прастакаваты, нехта – пройдоха, іншы – рамантык... а Танька – дзіця – чыстая, шчырая душа. У яе галаве брудныя думкі не затрымліваліся.

Каб у групе пачулі, што яна зведала мужчыну, не паверылі б… Улюблівай – была рамантычна, узнёсла, а ў ложку сябе з хлопцам ніколі не ўяўляла.

Так нялюдска ўсё атрымалася...

Яшчэ ў восьмым класе палюбіла старшакласніка. Сама вучылася добра – светлая галава – любы прадмет на ўроку з лёту разумела, а ўлюбілася ў двоечніка. Ён вершы Ясеніна па памяці чытаў – ніводзін выдатнік такое б не мог, пад гітару песні свае, вельмі прыгожыя, спяваў – нічога хлопец быў, толькі чаму двоечнік?

Таньку ветразем па каханні нёс адзін выпадак на школьным вечары... Яе многія хлопцы класа любілі, толькі не рашаліся прызнацца. “Што б ты выбрала, Таццяна, пыталася ў яе сяброўка,—каб цябе любілі ўсе мужчыны свету, акрамя аднаго, альбо толькі ён адзін, каго любіш ты?” “Канечне,

адзін", — ні хвілінкі не сумняваючыся, адказвала здзіўленай сяброўцы Танька. І вось, калі хлопец з іх класа падышоў запрасіць яе на танец, той АДЗІНЫ адштурхнуў яго і, паклаўшы руку на плячо, вывеў Таццяну ў цэнтр залы. Потым яны танцавалі разам да самага канца вечара. Яна была шчаслівая самым сапраўдным у свеце шчасцем, бо не ведала, што стаяла побач з дзяўчынкай, якую ішоў запрасіць двоечнік, толькі яго апярэдзіў шустрэйшы. Каб не сорамна было вяртацца назад, двоечнік пaспяшаўся да Танькі. Потым назло сабе і той дзяўчыне танцаваў з ёй кожны "мядляк"... То была апошняя вясна школы.

Летам "з васьмі" Таня паспяхова здала экзамены ў вучэльню. І там пакрыўдзіцца на недахоп увагі ад процілеглага полу яна не магла, але хлопцы хутка разумелі: Танька — дзіця, а ім хацелася нечага іншага... Пакрыўдзі такую — альбо замуж трэба браць, дык рана яшчэ, альбо ўсё жыццё сумленнем пакутуй... Дык і Валю, сяброўку Таньчыну, не зоркі лічыць па начах вадзіў Шкунцік — о, той быў зух!, але і не саромеўся пры ёй жа адкрыта на Таньку паглядаць.

На летнія канікулы Таня паехала з патаемным жаданнем сустрэць свайго двоечніка і, можа, нават спадабацца яму. Двоечнік ужо працаваў, развозіў пошту. Дзіва, але так і здарылася! Танька з'явілася на танцы ў чырвонай кофтачцы і кароткай спадніцы. Ногі ў яе — вытачаныя, як, дарэчы, і постаць. Напэўна, чырвоны колер быў ёй да твару, бо і сама ў люстэрка заўважыла, як змяніўся яго выраз. Карацей, двоечнік адразу ўспомніў Таньку і разам са сваёй суседкай, яе сяброўкай, той, што пыталася пра выбар "адзінага з сусвету", павялі яе дадому. Сядзелі на лаўцы да ранку, гаварылі пра ўсё і пра нішто. Раптам Танька нясцерпна захацела, каб ён дакрануўся да яе...

— Якія ў цябе прыгожыя валасы! — пагладзіў ён Таньчыну галаву...

Двоечнік у той час меў густ, добра апранаўся, не тое, што яна. Каб не тая чырвоная кофтачка, невядома, ці заўважыў бы Таньку... Ва ўсялякім разе назаўтра ад яе не адыходзіў, хоць і была яна апранута ў жудасны выраб мясцовага камбіната бытавых паслуг – бякла-ружовы швэдар з рознакаляровымі вульгарнымі кветкамі, што медалямі, на ўсе грудзі. Калі падышла суседка-сяброўка ў Таньчынай чырвонай кофтачцы, жартаўліва-абурана запатрабаваў: "Зараз жа скінь! Навошта чужое апранула?" І мякчэйшым голасам звярнуўся да Тані: "Табе яна больш да твару..." Невядома — больп, чым сяброўцы, ці больш, чым выраб мясцовага камбіната?

Але двоечнік нічога быў хлопец — нібы і не заўважаў, як апраналася Танька, і не звяртаў увагі на тое, што ў яе брудныя пяткі... Любое дзіця

патрабуе выхавання...

Яны хадзілі ў кінатэатр, гулялі ля возера... Лета падыходзіла да восені.

Аднойчы ў дарозе зламалася яго машына, і двоечнік патэлефанаваў суседу, каб той сустрэў Таньку, папрасіў звадзіць яе на "Рамэо і Джульету"—вельмі хацелася паглядзець ёй гэты фільм — білеты куплены... Сусед, хоць і прызнаваў незвычайную Таньчыну прыгажосць, хоць і падышоў на месца сустрэчы, каб папярэдзіць яе, а ў кіно звадзіць не рашыўся — густ у яго быў значна вышэйшы — "брудных пятак і чорных пазногцяў не прызнаваў"...

Гэты фільм ішоў амаль тыдзень, але білеты дастаць было проста немагчыма: моладзь ламалася ў касы, каб паглядзець яшчэ і яшчэ раз. Сёння паказвалі апошні сеанс... На гэты фільм было загадана…Танька ніколі не піла, а тут — угаварылі... Двоечнік страшэнна раззлаваўся, убачыўшы яе хісткай. Дамоў не пусціў, павёў у сквер, трымаў у альтанцы да той пары,
пакуль не прачухалася.

— Як ты перад бацькамі пакажашся? — дапытваўся ён.

Адкуль яму, дамарошчанаму сынку, было ведаць, што ў бацькоў не надта галава балела з-за дачкі...

— Каб я ў такім стане з'явіўся, ты б не падышла да мяне, саромелася б...

Ён не памыліўся — Танька ніколі не падыходзіла першая да хлопцаў, у якім бы стане яны ні былі.

А ў апошні вечар яе канікул двоечнік праявіў нечаканую настойлівасць...

На восеньскіх выхадных ён падыходзіў запытацца, ці не здарылася якая непрыемнасць: "Ты скажы, калі што..." — клапаціўся. Яна з балючай крыўдай адчула — гэта канец... Ён ужо, казалі, праводзіў іншую... Хоць кожны раз на танцах альбо ў кінатэатры абавязкова знаходзіў яе вачамі. Напэўна, і яго густ удасканаліўся...

Ніколі Танька не шкадавала аб тым, што здарылася з ёй, — яна ж любіла двоечніка, але, прыдзіся людзям начыстае перапісваць жыццё — выкрасліла б апошні той вечар...

Яшчэ на першым курсе Шкунціка заграблі ў дэсант. Я ж казала, што ніхто пра Таньку не паверыць... Таму і данеслі яго словы ёй, каб разам пасмяяцца з хлусні: "Шкунцік хваліўся хлопцам, што быў у цябе першым". Не

крыўдавала — зманіў, хваліўся, значыць, за чэсць палічыў...

Яны ў калгасе бульбу капалі, калі Шкунціка на пабыўку з войска адпусцілі. Паехаў не дадому, а праміком у той калгас. Праводзіла ў войска Валя, а толькі дзверы ў сталоўку адчыніў — усе загаманілі: “Жаніх да Танькі прыехаў”. Танцы якраз былі, і, сапраўды, з парога Шкунцік направіўся да яе. Танцавалі —шаптаў на вуха пяшчотныя словы, прасіў прабачэння, каяўся ў хлусні, цалаваў рукі (да гэтай пары ўжо і сама Таццяна “перарасла” брудныя пазногці). А як толькі разышліся студэнты па дварах, не паспела стаць на месца клямка ў дзвярах за апошняй парай — Танька аказалася на падлозе, а дэсантнік зверху. (Рашыў “выправіць памылку”, за якую толькі што прасіў прабачэння.) Яна вырывалася штосілы, але ж ён дэсантнік... Танька не крычала — сорам які! Нядаўна па-сяброўску размаўлялі, усе з зайздрасцю паглядалі на іх, а тут — гвалт! Ёй да слёз не хацелася таго, чаго так прагна дабіваўся дэсантнік, а ён, не зважаючы, шаптаў пра каханне... Яна і не думала, як гэта бывае балюча — слёзы пырснулі з вачэй. Акрамя пранізлівага болю і жадання — хутчэй бы ўсё скончылася, не адчувала нічога. Здавалася, ГЭТА цягнулася вечнасць. Яна больш не супраціўлялася, сцялася ад болю і глухаты да ўсяго. Крыўды на Шкунціка не было — сама вінавата, вушы развесіла, кахання прыгожага захацела!

...Сядзелі адно насупраць аднаго, курылі. Ён глыбока зацягваўся, яна — раўнадушна, у забыцці.

— Хто ў цябе быў першым? — запытаў, ледзь стрымліваючы расчараванне.

— Якая табе розніца?

— Калі пытаюся, значыць — вялікая...

Танька не адказала... Кажуць, жанчыну можна падмануць аднойчы, потым яна сама сябе падманвае... Не думала і не ўспамінала пра яго.

На апошнім курсе яе вучобы Шкунцік дэмабілізаваўся і трапіў зноў на першы курс. З’явіўся да яе з кветкамі, клікаў пагуляць, запрашаў да сябе.

— Не пайду.

— Не бойся, я не зачаплю цябе.

— Не пайду.

— У мяне цудоўныя фотаздымкі, з парашутам... А яшчэ я табе цяльняшку

прывёз, выменяў на маленькі памер... Ён замкнуў дзверы і палез абдымацца.

— Не чапай мяне! — зусім не прывычным для сябе, рашучым тонам сказала Таццяна.

Шкунцік спыніўся на паўкроку...

— Ты зноў схлусіў?

Ён сеў на ложак, уздыхнуў, затрымаў у грудзях паветра...

— Люблю цябе, Таня, давай пажэнімся. Я ўжо ўсё абдумаў: у міліцэйскую школу пайду...

— Паглядзім... А зараз адчыні дзверы — да пабачэння.

Паслухаўся.

— Вось альбом—паглядзііп, калі будзе ахвота, —развітаўся.

Гэта быў верасень, а ў кастрычніку гулялі вяселле: Шкунцік жаніўся з

Галінай Пятроўнай, маладой выкладчыцай тае ж вучэльні. Яна была выхаваcelькай напраўлена з іх групай у калгас... Падзаляцела, казалі. Ён не стаў ды і не змог бы адкруціцца. А дзіця нарадзілася толькі праз год — звычайная жаночая хітрасць... Жонка ела яго поедам з рэўнасці да адной студэнткі, а яны і не спыніліся ні разу з тае пары нават на пару слоў, хоць у яе застаўся дарагі яго памяці фотаальбом.

Дэсантнік паўгода лячыўся ў псіхушцы — сам папрасіў помачы, адчуўшы сімптомы нейкага сур’ёзнага захворвання. У вучэльню больш не вярнуўся, пасля скончыў міліцэйскую школу, з жонкай не жыве.

## *Пацалунак*

Ён ніколі не мяняў думак: лічыў, што нічога ў жыцці не зменіш на лепшае, дык навошта наогул штосьці мяняць, тым больш думкі. А меў іх (думак) багата, і на ўсе выпадкі і з’явы — свае, а не прыдбаныя з чужой падачы. Катэгарычна іх выказваў, калі пыталіся. З упартай недаверлівасцю выслухваў чужыя (думкі), зарання не даючы веры ніводнаму слову. Ён ні ва што і ні ў каго не верыў, найгорш у слова. “Што можа ведаць аб жыцці чалавек, не прайшоўшы вайны?..” Сам Марак ваяваў, зведаў здраду і мярзоцце гвалту, спазнаў на сабе “клопаты” дзяржавы аб сынах-салдатах на

свае вочы пабачыў жахлівую смерць і агіднасць знявечанага ранамі чалавечага цела. Марак назаўсёды запраграмаваў у сваёй галаве, што той, хто не бачыў усяго ГЭТАГА, не можа мець права разважаць пра жыццё, шчасце, каханне, палітыку...

Ён ніколі не быў мараком, хоць з маладосці насіў сваю мянушку. Ён шмат гадоў быў безнадзейна закаханы ў адну жанчыну... Марак занадта рэальна ўспрымаў жыццё, каб мець надзею на нейкі шчаслівы працяг свайго таемнага кахання. І ён і яна мелі сем'і. Мараку было пад пяцьдзесят, а яна — значна маладзейшага ўзросту. Пра ШТОСЬЦІ такое не дазваляў сабе і марыць, бо наогул марыць не прывык. Проста пасля яе з'яўлення жыць яму стала мілей і прыемней ужо толькі ад таго, што ў свеце гэтым, ды яшчэ вось ТУТ, паблізу, існуе ЯНА і калі-нікалі трапляе яму на вочы. Праўда, калі так адбывалася (пры сустрэчы на адной дарозе), калі не было магчымасці збочыць у завулак і заставалася адно — прайсці і павітацца з ёй, Марак ніколі не падымаў вачэй. Яго няўклюдная постаць, і без таго нязграбная, рабілася яшчэ больш непаслухмянай. Нават сівавата-рудыя валасы і барада, здавалася яму, пачыналі тапырыцца. Марак апускаў пачырванелы твар, буркаў неразборлівае “Дзень добры!” і хутчэй мінаў жанчыну.

Бывалі хвіліны — здавалася яму — яе ветлівасць незвычайная: так радасна яе твар свяціўся насустрач яму, так настойліва вочы чакалі сустрэчы з яго позіркам, так цёпла атрымлівалася яе: “Дзень добры!”

Такія думкі Марак гнаў ад сябе прэч. “Не можа быць таго, чаго быць не можа!” Іначай прыйшлося б яму перавярнуць усю сваю маналітную жыццёвую філасофію. Марак цвёрда памятаў — цудаў не бывае!

Па сцежцы, пратоптанай за дзень у шчодра насыпаным першай начной парошай снезе, паўз вокны маленькага кафэ прабягала ЯНА пасля работы дадому, а ў гэты час некалькі мужчын сядзелі за засцеленым газетаю сталом. Стаялі на стале дзве адкаркаваныя бутэлькі “Зуброўкі”, шклянка пачала трэці круг.

— Вось экземпляр! — пхнуў Марака локцем у бок адзін з прыяцеляў і паказаў на акно, за якім мільгала бепае футрачка жанчыны. *Яе* ногі ледзь краналіся долу, тое ўражанне ўзмацнялі высокія абцасы боцікаў, з-за іх танюткай вышыні жанчыне прыходзілася ступаць толькі на пальчыках.

— Палову жыцця аддаў бы, каб мець такую жонку, — адказаў яму Марак.

Ніхто з прысутных, хто пачуў яго словы, не сумняваўся — аддаў бы!

Аматар пафіласофстваваць (мужчына, які паказваў на жанчыну за акном) занюхаў хлебам пякучы глыток і працягваў:

— Такія экземпляры прырода эканамічна размяркоўвае па свеце. З далёкім прыцэлам... Задумка прыроды простая і ясная, як само жыццё, не памятаю дзе чытаў: “Насажденне богов на пустынные землн”. Вось жывеш і

не задумваешся ні аб чым, таўчэш нагамі глебу. А пяройдзе ТАКАЯ дарогу — быццам зерне ў тую глебу кіне. Прарасце яно душой і пачынаеш думаць — навошта жывеш, чаго варта тваё жыццё?

— Ёсць штосьці ў свеце не вымяральнае матэрыяй, — падхапіў нехта аматара пафіласофстваваць.

— Ой-ой-ой! Ды звычайныя яны б... усе жанчыны наогул! — не падумаўшы, уставіў слова хтосьці з мужчын.

...Шмат мэблі паламана было ў той вечар, аднаго з мужчын нават прыйшлося праводзіць у бальніцу...

Крапчэў мароз, не сціхаў вецер, кідаў злосна калючы снег проста ў вочы Мараку. Другую гадзіну Марак не мог злавіць спадарожную машыну — яго выклікалі ў райваенкамат. Хварэць сабе ён не дазваляў ніколі, але тут адчуў, калі не тармазне ў хуткім часе аўто — зваліцца з ног. Выглядаў ён жахліва: чырвоны ад марозу і мокры ад снегу нос, калматыя ў шэрані бровы і барада. Зуб не пападаў на зуб. Настаўлены каўнер не жадаў хоць крыху абараніць шыю і вушы ад сцюжы. Рука, якой прыходзілася ўвесь час галасаваць, прамерзла да касцей. Марак “танцаваў”, б’ючы чаравікам аб чаравік, бо пальцы на нагах змярцвелі. У самы разгар злосці да яго і падбегла ЯНА.

— Ой! Як добра, што мы разам паедзем! Страшна адной... А вы даўна чакаеце, відаць... — зашчабятала яна. — І я таксама зусім змерзла...

Марак маўчаў: не траплялíся патрэбныя словы. Акрамя таго, перашкаджаў дрэнны настрой.

Збянтэжаная яго пахмурым маўчаннем, жанчына зноў загаварыла:

— Цямнее... Няўжо так і не пашанцуе? Што ж мы будзем рабіць?

— Жанчынам нельга ездзіць на выпадковым транспарце! Тым больш вечарам і ў такую непагадзь... гэта ўсім вядома! — ледзь паспеў вымавіць ён між зубным перастукам. Голасу яго ніколі не была характэрна лагоднасць, а як зараз, дык і напалохацца няцяжка — так груба прагучаў. Жанчына разгубілася.

— Быццам я па сваёй ахвоце пусцілася ў вандроўку... Хто нас пытае —

“павінна быць у 10.00” — і ўсё тут! А як і чым дабірацца і вяртацца — нікога не хвалюе...

— Жанчыне трэба дома сядзець і выхоўваць дзяцей! — быццам вырашыў усю сваю злосць вымесціць на ёй, зацвердзіў Марак.

Яна не адказала: прыйшлося б пачынаць, доўгую гаворку, а тут не месца і не час... Зразумела: нядобразычлівасць да яе не магла быць прычынай яго раздражнёнасці, хутчэй прычына таму — дрэнны настрой, холад, доўгае чаканне.

— А вось, пабачыце, зараз спыніцца машына і нас з вамі забяруць, —пяшчотна ўсміхнулася яна, а сама нават спужалася сваёй упэўненасці: такую “адказнасць” на сябе ўзяла. Позна ўжо, транспарту ўсё менш і менш...

І тут мірганулі фары, і проста перад імі спынілася машына.

— Калі хочаце — сядайце ў будку, бо ўсё роўна, бачу, змерзнеце, дык, можа, паспею жывых давезці, — зарагатаў шафёр. Побач з ім сядзела жанчына, так што ў кабіне месца не было. Не было і выхаду іншага, як лезці ў крыты брызентам кузаў. Марак ускочыў першы, падаў жанчыне руку. Яна села на драўляную лаву і паспрабавала глыбей захутацца ў лёгенькае футрачка. Рукамі заціснула вушы, бо белы берэцік на яе галаве не мог прыкрыць іх ад золкага ветру, што свістаў з дзюрак.

Марак сядзеў на скрыні, прыстаўленай да самага борта ля кабіны і пазіраў з ухмылкай на яе. Жанчыну пакрыўдзілі яго ранейшыя словы і гэты непрыемны позірк, а холад прабраўся і ў яе настрой — захацелася плакаць...

— Ідзі сюды! Гэта не жарт — паўгадзіны такой язды — не адкачаюць!

Такой грэблівасці ў голасе нельга было даравць. “Што яму трэба?! Галантны кавалер! Няхай клапоціцца пра сябе...” Яна прамаўчала. І тут моцныя рукі Марака ўхапілі жанчыну, і яна аказалася на яго каленях.

— Не з’ем! Не хвалюйся! — сказаў Марак.

Штосьці ў яго голасе прымусіла пакарыцца.

Спачатку жанчына адчувала сябе вельмі няёмка і няўтульна. Марак расшпіліў кажух і акрыў крысамі яе плечы, так што хутка стала цёпла-цёпла, толькі калола ў кончыках пальцаў.

Ад цяпла і ад язды спінаю наперад закруцілася ў галаве. Прасцей было б пра штосьці размаўляць, хоць бы пра дрэннае надвор’е. Ды Марак маўчаў, а яна, пацярпелая ў няўдалых ранейшых спробах, загаварыць не рашалася.

Моцныя ўдары яго сэрца перадаліся ёй, ад гэтага дыханне страціла спакойны роўны рытм, па целе прабегла хваля млявасці, а галава сама сабою стала падымацца ўверх. Твар Марака аказаўся так блізка, што жанчына сваёй шчакою прыціснулася да яго — вусны знайшлі вусны... Ні марозу ці сцюжы, ні калымагі-машыны... Толькі велізарны сусвет... І ты пралятаеш праз яго...

Вар’яцтвам быў той пацалунак!

Такое бывае аднойчы... Пацалунак, ад якога глухне ў вушах, ад якога

траціш зрок, ад якога мутнее ў галаве... Пацалунак, апраўданы чысцінёй сілы прыцягнення, пабароць якую было б найгоршай здрадай жывой чалавечай плоці.

Пры развітанні жанчына ўзяла яго далоні, утуліла ў іх свой твар і правяла шчакой па шурпатых яго пальцах.

А мароз крапчэў, і не сціхаў вецер, злосна кідаў ахапкі калючага снегу проста ў вочы Мараку. Снег раставаў і збягаў па яго шчоках цёплымі ручаямі.

## *Ракавая жанчына*

Не быў бы я ўпэўнены ў сваёй мужчынскай годнасці, расказваць гэту гісторыю з майго жыцця не стаў бы. Не хвалюся — магу задаволіць любую жанчыну, ні адна на мяне не паскардзіцца... Менавіта з-за той гісторыі з яе фатальным працягам і вымушаны я дадаць да вышэйсказанага пра жанчын: “Амаль кожную”.

У студэнцкія гады я не мог мець такой упэўненасці ў сабе, вядома, з-за адсутнасці вопыту, які нясцерпна патрабаваў удасканальвання.

*Я* быў студэнтам ВНУ, не стану ўдакладняць якога — сэнс гаворкі не ў тым. Здарылася так, што жыць давялося мне не ў інтэрнаце з іншымі студэнтамі-аднагодкамі, якім з тае нагоды (пражыванне ў інтэрнаце) страшэнна зайздросціў... Жыў пастаяльцам-кватарантам у адной пажылой жанчыны, дальняй сваячаніцы, гаспадыні невялікага прыватнага дома на ўскраіне горада.

Акрамя таго, што я мусіў кожную раніцу прачынацца на гадзіну-паўтары раней, каб дабрацца на некалькіх відах маршрутнага транспарту да інстытута, таксама і вяртацца запазна, калі мае сябры гэтым часам весела адпачывалі ў інтэрнаце, акрамя таго, што я меў строгі штодзённы кантроль збоку сваёй гаспадыні — я бязлітасна быў ізаляваны ад маіх равеснікаў, што засмучала мяне найгорш. Толькі ў перапынках між заняткамі мог я забягаць па дазволу вахцёршы ў інтэрнат да хлопцаў на кароткі час...

Недзе на апошніх курсах да нас у групу перавялася з нейкага іншага ВНУ прывабная дзяўчына (як потым аказалася — разведзеная жанчына, яна мела маленькую дачку, жыла тут, у горадзе, разам з бацькамі). Мы хутка

пасябравалі з ёй. Сядзелі заўсёды побач, разам бегалі ў сталоўку, бібліятэку. Як называюцца такія адносіны — я не разважаў — лёгка і проста было нам з ёю. Мае ж сябры пачалі пакепліваць, маўляў, гэта ты, зялёны, шчаслівы аднымі размовамі і дурыкамі, а яна — жанчына, яна чакае ад цябе зусім іншага...

Праўду сказаць, я і сам быў не супраць блізкіх адносін з Алай, так звалі маю сяброўку, да той пары мы з ёю цалаваліся ўжо па кутках пустых аўдыторый. Ала трымалася сціпла і стрымана, і ўся ініцыятыва цалкам зыходзіла ад мяне, улічваючы маю сарамлівасць, гэта значна перашкаджала рухацца наперад... Вось тут і паказалі сябе ў поўным разрэзе недарэчнасці маіх жыццёвых абставін. Пра візіт да Алы нельга было і марыць. Яна не раз намякала на складанасці свайго жыцця з бацькамі: яны дакаралі дачку за легкадумнае замужжа, за развод, за тое, што асіраціла дзіця, карацей, шмат нараканняў было ў іх на Алу.

Мая гаспадыня і да мяне ставілася без вялікай гасціннасці, мякка кажучы (не ведаю наогул, якія запазыкі і абавязкі перад маімі бацькамі прымусілі яе згадзіцца прыняць кватаранта), дык прывесці ў яе дом дзяўчыну мне і ў галаву не прыходзіла.

Неўзабаве нам пашанцавала. Знаёмая Алы запрасіла нас на дзень нараджэння. Сямейных дома не было, гасцей прыйшло не багата. Настрой вечарыны склаўся даволі прыемны, нават інтымны. Кватэра ў сяброўкі аказалася прасторнай—ува ўсіх жадаючых адасобіцца былі на тое ўмовы...

Не злоўжываў я моцнымі напоямі, клянуся! Канечне, для храбрасці выпіў некалькі бакалаў шампанскага... На што і спіхнуў потым прычыну... Карацей, у той вечар далей традыцыйных пацалункаў у мяне не пайшло. Не трэба думаць, што я аканфузіўся: нам і без таго было вельмі хораша, упэўнены, Ала тое самае пацвердзіла б...

Аканфузіўся я ў наступны раз, калі мой прыяцель зжаліўся нада мной і, адцягнуўшы ўвагу вахцёршы, правёў нас з Алай у свой пакой, даверыў мне ключы на некалькі гадзін. Вось тут я, грэх успомніць, нават затаіў крыўду на бедную Алу: “Ну, усё ж, яна пабывала замужам,—думаў я, — мела вопыт

інтымных адносін і... не пажадала дапамагчы няшчаснаму пачаткоўцу. Ала не падала віду, заставалася пяшчотнай і мілай, а я ледзь-ледзь стрымліваў расчараванне: я ж так чакаў гэтага дня, і ад гэтага дня!

Ну, не трэба тлумачыць, што з той пары мая праблема стала для мяне ідэяй фікс, назойлівай думкай. *Н*ейкі злы рок!

Наша група адзначала паспяховую здачу “сапрамата”. Нас запусціла на дванаццаты паверх вахцёрша — пашанцавала: якраз дзяжурыла самая лепшая з чатырох, паабяцала не разганяць да самага канца сваёй вахты,

значыць, да раніцы... Павесяліліся мы выдатна! Шампанскага піць я не стаў, дарэчы, пазбягаў яго яшчэ некалькі гадоў, напэўна, дарэмна... Пасля маіх няўдач між мной і Алай склаліся наўздзіў давяральныя, нават роднасныя адносіны, дык я зусім не хваляваўся. Думалася: нават пры самым непрыемным для мяне завяршэнні сённяшняга вечара, Ала зразумее і не перастане паважаць мяне. Хоць непрыстойнасцей зусім не чакаў, наадварот, адчуваў сябе ўпэўненым і спакойным.

Ну, вядома ж, мы як непаўнапраўныя жыхары інтэрната, дык за поўнач і аказаліся "бяздомнымі" — іншыя нашы парачкі разышліся па сваіх пакоях, а нам з Алай прапанавалі выбіраць паміж кухняй і ванным пакойчыкам. Кухня нам зусім не спадабалася. Ванны пакойчык падаўся больш камфартабельным. Дзверы ў інтэрнаце не заўсёды замыкаюцца нават у жылых пакоях, што ўжо чакаць ад ваннага... *Я* здагадаўся адвязаць бялізнавы шнур ад водаправоднай трубы, пакінуўшы адзін канец прывязаным да металічнага крука ў сцяне, і прымацаваў другі канец да ручкі дзвярэй... Чаму ж мне не зрабіць тое самае, ды толькі наадварот? Адвязаў бы шнур ад металічнага крука і пакінуў бы яго прывязаным да водаправоднай трубы... Ды зноў жа — злы рок!

Няцяжка здагадацца, чаму наракаю на сваю някемлівасць... Менавіта ў той момант, як я ўжо зразумеў, што і сапраўды не было ніякіх прычын перажываць і хвалявацца, камусьці раптам спатрэбілася ў ванную — паблажэла... Ды не, каб здагадацца — нездарма ж зачынены дзверы — ён стаў ламацца, ірваць штосілы ручку на сябе! Крук адарваўся ад сцяны, прыхапіўшы з сабою добры кавалак тынкоўкі, і з усяго размаху выцяў мяне па галаве!

Які тут інтым?! Добра — абышлося без "хуткай дапамогі" — падвялі б вахцёрку.

...Што ж, "лёс спрыяў" нам... З невыказнай радасцю даведаўся я праз нейкі час, што гаспадыня мая мусіць ехаць на тры дні да сваёй хворай сястры. Незадаволеная такой акалічнасцю, хадзіла яна злосная і раздражнёная цэлы тыдзень перад ад'ездам. Ды гэта ніяк не азмрочыла мой святочны настрой. Тры дні і тры ночы кахання! Як дагаджаў я сваёй гаспадыні, як адклікаўся на самы мізэрны зрух яе няўстойлівага настрою, аж

яна занепакоілася, ды, напэўна, штосьці і западозрыла...

Дачакаліся! Ну, канечне, — якія заняткі! Я паехаў, каб сустрэць Алу. Яна сказала дома, што трэба ехаць на практыку ў другі горад на тры дні, і мы, шчаслівыя, нарэшце, засталіся ўдваіх.

Спяшацца на гэты раз не было патрэбы: што мы — неразумныя дзеці? Мы слухалі музыку, я загадзя пазычыў магнітафон і выпрасіў найлепшыя, з

любімых Алай, запісы. Мы пілі пахучую каву, цалаваліся, седзячы ў гаспадыніным фатэлі, потым, абняўшыся, мы падняліся па хісткіх прыступках у маю мансарду.

Ала ніколі не была такой разняволенай і падатлівай... І прыгожай была яна як ніколі! Яе доўгія светлыя валасы рассыпаліся па падушцы, вочы блішчэлі, яе прагныя вусны пакідалі на маім целе пяшчотныя пячаткі... Недарэмна я цярпеў столькі пакут! Ад аднаго прадчування — тры дні і тры ночы кахання! — я ўзлятаў на сёмае неба...

Раптам Ала прыслухалася. Напалохана скруцілася ў куточку канапы. Так, нехта падымаўся па скрыпучай лесвіцы... Ключы маглі быць толькі ў гаспадыні кватэры — што ж здарылася?! (Пасля высветлілася—цягнік не пайшоў! На той дзень адмянілі рэйс. Ці не злы рок?!)

Нядоўга думаючы, гаспадыня ўварвалася ў мансарду...

На ўваходзе, акрамя дзвярэй, вісела вялікая цыноўка, якую я падвесіў, каб не налятала камароў і мух. *Я* імгненна прыціснуў нагою ніжні край цыноўкі, і гаспадыня заблыталася ў ёй. Жанчына, раз'юшаная маім нахабствам, зрывала занавеску з цвікоў і крычала на ўвесь дом: “Каб тваёй нагі не было тут, нягоднік! Не паспела выйсці з хаты, як распусту развёў, панацягваў бл...дзей!” (Яна чамусьці абражала Алу ў множным ліку...)

Нашы пачуцці паступова згасалі... Скончылася вучоба ў інстытуце. Мы рэдка і выпадкова бачыліся... Мінула з той пары нямала гадоў.

Але гэтай гісторыі наканаваны быў фатальны працяг...

Здарылася так, што мы разышліся з жонкай. Я перажываў той парой глыбокі душэўны надлом. І вось у той, складаны псіхалагічна, перыяд жыцця і патэлефанавала мне Ала. Яна даведалася пра мае сямейныя няўзгоды — спачувала, супакойвала, а пад канец размовы высвятлілася, што ў хуткім часе будзе праездам у нашых мясцінах. Я запрасіў яе ў госці. І трэба дадаць: не мог быць з той нагоды засмучоным — я ўжо стаміўся ад адзіноты, я хацеў пабачыць сваю даўнюю сяброўку, нарэшце, мая мужчынская годнасць патрабавала рэабілітацыі перад Алай. Вось і выдаўся шанец даказаць маёй былой каханай на ШТО я здатны! (Не хвалюся — шмат жанчын за шчасце палічылі б правесці ноч са мною...)

Заставалася тры дні часу да яе прыезду — дастаткова і на псіхалагічны трэнінг, і на тое, каб належна абладзіць маё халасцяцкае жытло. А

напярэдадні я надумаў схадзіць у лазню, бо заўсёды любіў папарыцца, а як перад такой сустрэчай і зусім — святы абавязак!

Залез я на палок з дубовым венічкам, дачакаўся, пакуль вызвалілася месца, народу ў лазню найшло зашмат. Разняволіўся пад ціхую гамонку мужчын, тыя абураліся дрэнным сервісам нашай камунальнай гаспадаркі:

— А палок дык зусім згніў! Праваліцца можна!

Мяне іх клопаты не кранаалі, я прадчуваў асалоду заўтрашняй сустрэчы, быў задаволены і сервісам, і лазняй, і асабліва прыемнай парай... Шкада, што не прыслухаўся ўважлівей да гаворкі мужчын. Ай, як шкада! Ды тут, няйначай, злы рок! Я ж казаў.

Калі двое мужчын падняліся з палка, каб выйсці з парылкі, нясцерпны боль скалануў усю маю істоту. Імгненна зразумеў: зараз здарыцца непапраўнае...

— Сядзьце на месца! — закрычаў я, вырачыўшы вочы.

Астатнія мужчыны, якія дагэтуль яшчэ сядзелі, таксама паўскаквалі і ашаломленыя глядзелі на мяне.

— На месца! — дзіка зароў я.

Нехта з іх вымавіў:

— Трэба вынесці хлопца: напэўна, перагрэўся чалавек, каб з галавою чаго благога не зрабілася...

Тут да мяне дайшло, што пра інтэлігентнасць не час думаць, трэба ратавацца любым чынам, пакуль мяне не пачалі адрываць ад дошак... Не памятаю, як хапіла сіл не самлець, як сумеў “адкрытым тэкстам” “культурна патлумачыць” ім, што адна частка майго цела, пакуль яны ўсе сядзелі на палку, правалілася ў шырокую шчыліну паміж дошкамі. Калі ж яны ўсталі—шчыліна рэзка паменшылася ў памеры. І я вымушаны “далікатна прасіць” іх, пакуль не позна (у чым асабіста я ўжо надта сумняваўся), заняць свае ранейшыя месцы на палку... Нарэшце хлопцы зразумелі, чаго я ад іх хачу, і вызвалілі мяне з пасткі...

Назаўтра я сустракаў Алу... Яна прыехала такая радасная, вясёлая і ўсё старалася мяне супакоіць: “Жыццё яшчэ не скончылася... Не трэба так адчайвацца. Не ты першы пацярпеў “крушэнне сямейнага карабля”... Наперадзе яшчэ шмат шчаслівых хвілін!”

Потым яе крыху пакрыўдзіла, што я зачаста выбягаю кудысьці... А потым настрой яе зусім знік. Апоўначы я паслаў ёй у асобным пакоі і пажадаў добрага сну.

Раніцай Алы не было. На стале ляжала запіска: “А Я ЛЮБІЛА ЦЯБЕ”.

## *“Не вяртайцеся да былых каханых... ”*

Ні рай паўднёвага сонца, ні пяшчота марскіх хваляў, ні прыбярэжная кусачка-галька ні на хвіліну не адцягнуць боль ад параненага сэрца, не вызваляць з-пад гнёту згубы збалелую душу...

Там, за сотні міль, на процілеглым беразе гэтага ж мора, у гэты ж момант, можа, ты ўваходзіш у ізумрудныя воды, ахінуты гэтым жа блакітам неабсяжнага неба...

Ні сонца, ні мора, н інеба... без цябе... Толькі Жан Мішэль Жар, адзіны сведка тых бяссонных начэй разумее глыбіню адчаю і пакут.

Там, за лёгкай дымкаю млечна-празрыстых туманаў вільготнага саленаватага паветра, за бязмежжам даляглядзу зіхоткай марской гладзі, можа, і цябе лашчыць гэтае ж сонца, таму так невыносна гарэзаваць у белапені хваль, што нашае каханне і горыч развітання маланкай сігаюць з берага на бераг, узмацняючы сілу пакут.

Ні адзін мужчына, падвергнуты неадкладнаму параўнанню з табою, не вытрымае бязжаласнага выпрабавання... Ці ж знайсці сярод мірыяд усемагчымых адценняў і колераў чужых вачэй хоць бы аддаленае падабенства таго бяздоння твайго закаханага позірку. І не сустрэць напамінку роднай усмешкі ў мільгаценні вясёлых твараў. Ты — там, на далёкім беразе... Тут — цяністая алея, па якой ты не ідзеш... Тут —развітальны гудок белага парахода, на якім ты не плывеш... Пячаткі босых ног на пясчанай касе заліва... не тваіх ног. А ў шэрых высотках жывуць людзі, там не жывеш ты. Шумлівы рой бойкага базару не адзавецца тваім голасам...

Ад стомы звядуцца векі... Ніколі не прачынацца ад подыху паветранага струменьчыка, што выдзьмухала ўсмешка тваіх вуснаў: “У-у-ф-ф-у-у, раніца!”

Святло, радасць і дзень, які існуе толькі дзеля новай сустрэчы, дзеля новага вечара. Ветразь трапяткой фіранкі ў вольніцы расчыненага балконнага праёма, прыглушанае святло месячнай поўні, шархаценне крылцаў паланаванага аконнымі шыбамі матылька — “сплетенье рук, сплетенье ног, судьбы сплетенье”.

І там, на далёкім беразе, не пазбавіцца табе маіх чараў. І тут, на часовым, няўтульным прыстанішчы майго цела, не пакінуць душы тваёй магіі...

Як жыць без цябе з табою ў памяці?

Змучаны мозг запатрабуе адпачынку, правалы ў чорнае небыццё не здолеюць нарадзіць жаданых, такіх чаканых сноў пра цябе... Світанак сутаргай падхопіць думкі, старанна перабіраючы кожную дэталь начных прывідаў —расчараванне пепазбежна — там ні намёку пра цябе... Праз доўгую чараду дзён і начэй, што нанізвае год за годам расстанне, ты прыйдзеш аднойчы, спакойны і засяроджаны, у восеньскі сон, каб павітацца

ў маўклівым паклоне, зазначыўшы гэтым пачатак выратавання, вызвалення — я забываю цябе?

А потым зноў будзе вясна, а ў ёй — ты, але не са мною... Рака спешных мінакоў падорыць знаёмую постаць — ты, а я НЕ з табою... У жыцця свой лад, свае законы, абавязкі і таямніцы. Толькі прыхаваныя ад недасведчаных погляды пільных вачэй і на адлегласці змогуць аб’яднаць “чужыя лёсы”. І торгнецца шчака ад нервовай нястрыманасці, і не захочуць рукі знайсці звыклага месца, сціснуцца напружаныя пальцы. Мроіцца спатканне твар да твару як цуд, як нязбыўная мара, як навагодняя казка. Гэта ты рашучай паходкай у экспрэсіўным тумане музыкі ідзеш да мяне, бярэш за руку і праводзіш ў цэнтр залы?

- Як жывеш?

- Нармальна...

Рука ў руцэ — так прынята ў танцы. На далонях праступае вільгаць — душна. Паветра б...

- А ты?

- Таксама...

Трымценне ў локцях і каленях не перашкаджае музычнай варажбе злучыць сэрцы ў адзіны рытм. Так доўга немагчыма... Так доўга не вытрымаць... Паветра б!

- Сустрэнемся?

Гэта не ўваходзіла у сюжэт мройнага існавання пачуццяў… Яны не атрымалі дазволу на працяг тым, незабыўным часам, не варта ператвараць матылька ў вусеня.

- Навошта…
- Пагаварыць...
- ...?

Нязграбны рух збівае з такту — мелодыя паплыла бокам...

То было каханне... Ацвеpажальна схлыне млявасць. Што ж так зацягваецца танец?! Непрыстойна зліпліся мокрыя далоні... Пуста, холадна, адзінока... Як непапраўна і незваротна скончылася казка.

# *ЭКСПРЭСІЎНЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ*

## *Калідор*

Вузкім доўгім калідорам сунецца чалавечы натоўп.

Сцены калідора нябачныя і ў той жа час непераадольныя. Парушыць яго межы—вялікая небяспека: па-за імі БЕЗДАНЬ... Рухацца па ім — цэлая навука, але калідор гэты — адзінае ўратаванне: крок убок -— пастка, крок у іншы — прорва.

Нахабныя пралазяць наперад, ступаючы прама па людскіх плячах і галовах. Пранырлівыя распіхваюць локцямі сціплых і ціхмяных, нярэдка збіваючы іх з ног.

Дзёрзкія і апантаныя заклікаюць спыніць рух і разламаць сцены калідора...

Безнадзейныя і зняверaныя адчайна апускаюцца долу, прымаюць цярпліва штуршкі і выспяткі, ствараюць сабою заторы і пробкі, яшчэ горш ускладняючы шлях ідучым.

Разумныя і кемлівыя трымаюцца за рукі, каб смялей ісці, доўга намацваюць нагамі крапчэйшыя масніцы, ашчадна разлічваюць кожны крок — яны вядуць за сабой слабейшых...

І ўсё ж знаходзяцца тыя, каму невыцерпна ісці паўз нябачныя сцены. І вырываюцца яны з натоўпу людскога, і прадзіраюцца паасобку...

Адных рызыка завядзе ў тупік, іншыя, збіваючы ў кроў целы і душы, пратопчуць сцежку, роўна на якую пашырыцца потым калідор, і ўжо ідучыя следам адчуюць сябе вальней...

## *Проста ноч на двары*

Можа стацца, у доме пагасне святло...

За вокнамі ноч. Кожны кут зазывае цвярозай бяссонніцай. Натапырыўшы вушы, слых уловіць спачатку аддаленыя, потым бліжэй, бліжэй, бліжэй — крокі... Роўна, упэўнена, неадхільна прыступка за прыступкай па лесвіцы, да кватэры. Ля парога... чорны чалавек. І няма куды дзецца, і стукат у дзверы яго кашчавых пальцаў закладае вушы. Ліпкае павуцінне страху ахутвае ўсё цела, ўпіваецца, усмоктваецца ў галаву, спіну, шыю, плечы...

— Вось я і ў табе...

Магнітная бура раз’юшыць парадак у пакоі. Дыбам уздыме валасы на тваёй галаве, пабягуць мурашкі з галавы да пят...

Рука пацягнецца да ўключальніка запаліць святло — націскае, націскае — святло не загараецца. Бура адносіць прэч тваё цела, не здольнае ўтрымацца

на адзеравянелых нагах і... ты прачынаешся, ідзеш да ўключальніка і націскаеш кнопку... Святло не загараецца па-ранейшаму. Ватныя пальцы не слухаюцца, ты цягнешся ўсімі сіламі — н-націс-ка-еш-ш — дарэмна... Цемра.

Вусны шэпчуць малітву, памяць дорыць ЛІК...

— Ты не са мною? — жудасны адчайны крык працінае страхам усю тваю істоту. — Ты не са мной!

Ён выходзіць на вуліцу:

— *Я* прыйду яшчэ не раз...

Пачынае кружыць пад вокнамі. Прыкладаецца да краю верхняй шыбы, углядаецца ў глыбіню пакойчыка...

Вусны шэпчуць малітву, памяць дорыць ЛІК, і, нарэшце, разумееш, што да гэтай пары змагаўся са сном. Ты ляжыш на ложку, не спяшаешся да ўключальніка, бо не баішся цемры, але не можаш заснуць... На вуліцы ў гэты момант гучна і працягла ўзвывае сабака. Ты падыходзіш да акна, доўга прывыкаеш да цемры за шклом, раптам размыты контур складае абрыс незнаёмай постаці — там стаіць... чалавек... Зусім побач, за лёгкай фіранкай, твар у твар з табою...

Можа, гэта тваё адлюстраванне?

Ноч на дварэ, таму здаецца чорным той, хто так напалохаў цябе...

## *Я—не...*

... і схлынулі воды, вызваляючы паланаваную сушу, адкрылі болькі і язвы зраненай зямной паверхні... агалілі незлічоную колькасць костак і шкілетаў.

Злавонная жыжа, у якую ператварылася за доўгі час некалі квітнеючая зямля, паволі абсохне, патрэскаецца і не хутка перастане чхаць смуродам.

Просячы паратунку, так і застылыя ў агоніі, выцягнулі к небу мнагапалыя рукі-веліканы чорныя ствалы дрэваў...

Не адразу выратавальнай вясёлкай неба здолее апераззаць зямлю — то не адразу... Спачатку доўгія марудныя дні нічым не адрозняцца ад такіх жа бясконцых начэй, бо шэрая імгла выпарэнняў праглыне сонца.

Стварэнні — самкі і самцы — не ўпадабаныя адно адным — выхапленыя выпадкам з мільёнаў падобных чалавечай рукою, нехаця парамі распаўзуцца шукаць прытулку, змушаныя выканаць абавязак — сабою распачаць новае жыццё...

А там, за нябачнай сцяной былога, засталіся каханыя, мілыя, родныя, блізкія, сябры і знаёмыя. Гэта іх косткі і шкілеты дагніваюць раскіданымі па зямлі...

Бязлюдная пустач ва ўсе бакі—як ні кліч — адзавецца толькі сполахам адзічэлага ветру...

А ты б хацеў быць Ноем?

## *Давер*

Запросіць мяне рука твая—мая адгукнецца цяплом далоні... Спакойна і смела рушу я ў вандроўку, даверыўшы шлях свой бываламу лоцману.

Нішто нам водгукі жалобнай імшы (незнарок?), данесенай шалёным ветрам, які так пругка напінае наш ветразь.

Зліюцца сэрцы ў адзіным рытме. Прадчуваннем нязведаных таямніц пакліча далягляд. Хвілю з хвіляю замкне напругай аголеных правадоў узбуджанага нерва.

Чырвоная маланка абярогі марна страціць свае стрэлы, вышываючы трагічныя сюжэты прадвесця... Не спыніць, не застрашыць прагных нават трэск мачты...

Глытаючы пырскі салёных хваляў, хачу перакрычаць гул урагану:

— *Я* не збаюся! *Я* не здраджу! Ты толькі скажы, скажы, што табе вядомы зваротны шлях...

Маўчаць твае вусны ці ўраган забівае словы?

— Я не чую!

Ні гуку ў адказ...

Хто чужы выглядае з-пад тваіх апушчаных веек?..

— *Я* не чу-ю!

Пахавальным звонам адгукнецца стук у борт... вясла аднамеснай выратавальнай лодачкі...

## *Эксперымент*

Калі ваш прыёмнік настроены прыняць усе на свеце існуючыя ўкарочаныя і падоўжаныя хвалі, самыя верагодныя і неверагодныя энергетычныя плыні і сігналы, то ў цёплы летні дождж альбо сумнай морассю загасціўшай непагадзі падыдзіце да акна...

Ці вы лічыце, што такіх прыёмнікаў не існуе? Іх не можа быць у прыродзе альбо яшчэ не прыдуманы навукай? Паверце мне: іх не трэба вынаходзіць, яны існавалі ад самага сатварэння сусвету.

Паколькі космас насычаны разнастайнымі хвалямі і энергіямі, то, запэўніваю вас, абавязкова будзе існаваць і тое, што здольна ўлавіць, адрозніць, успрыняць, спасцігнуць... Інакш навошта тады ўсё?

Не засмучайцеся, калі ў вас не такі прыёмнік. Досыць таго, які маеце, самага просценькага, толькі не забудзьце націснуць кнопку, інакш нічога не

атрымаецца. І мацней прыкладзіцеся тварам да шыбы. Няхай непрыгожа расплюшчыцца нос, непрыстойна разнюняцца вусны: па той жа бок — дождж і нікому не прыйдзе ў галаву, што вы плачаце... Вы не дазваляеце сабе ніколі раскісаць? Тым лепш! Прыцісніце твар да шкла — то ж не слёзы, звычайная вада, толькі кроплі і ручайкі дажджу.

Яны ствараюць сваёй няўстойлівай лінзаю дрыготкі празрысты міраж, і ўжо дамы, слупы, сцены... робяцца не такімі жалезабетоннымі. Трапяткія формы іх не абуджаюць больш ранейшую бездапаможнасць. І становіцца ясна, аб чым пакутуе скрыпка, куды так ірвецца матылёк...

Ты — сам сусвет, ты — яго мікрачасцінка.

Трымценне недзе ў самай сярэдзіне тваёй істоты даходзіць да найвышэйшай крокі, і адчуваеш, што яно не можа не перадацца ўсяму сусвету...

Што так напалохала? Не трэба хвалявацца — не сапсуецца ваш прыёмнік ад перанапругі...

Дый дождж скончыўся — хутка высахне шкло і ўсё зойме сваё месца...

## *Адзінота*

Прастору пустога халоднага пакоя неадчэпна свідруе фальшывы назойлівы гук: “Ад-на н-нота... ад-на н-нота...” Змрочны настройшчык ладзіць раяль, стомлена прыслухоўваючыся, недае веры вушам — “дзынь” —ідэальнае “ля” зыгае з двуязыкага джала камертона, загадваючы: “Раўняйся!”

Хто прыдумаў той камерны тон, па якім пакутліва павінен строіцца кожны... Ці Бог? Ці Бог... У яго свеце ўсё сваё асобнае.

Не слухаюцца астылыя ад нястачы цяпла чалавечых рук струны — не становяцца ў рад...

Непасільнымі намаганнямі майстра ўсё ж змусіць гукі праспяваць стройную гаму, і прабягуцца яго пальцы па бліскучай чорна-белай палітры, ствараючы няўпэўненымі мазкамі праверачны экспромт. Толькі вымучанае яго натхненне не пачуе ніхто ў прасторы пустога халоднага пакоя, акрамя адзіноты...

## *Паклон ветру*

Дзьме бязлітасны вятрына. Усё неба апанавалі нават не хмары, суцэльнае — ні формы, ні колеру — месіва. Які дзень без сонца ў небе і ў жыцці.

Чалавек, які так доўга змагаўся з цёмнай сілаю, што нават паверыў у перамогу над ёй, раптам здаўся... Ператварыўся ў істоту, якая не мае энергіі і жадання жыць.

Як лёгка цяпер з яго кпіць, пагарджаць ім, бо ніжэй упасці нельга. Што можа стаць большай абразай, чым цяперашні яго стан, што можа быць горшым пакараннем за нежаданне змагацца за жыццё?

Паклон ветру. Толькі ён здолен разагнаць хмары, даць волю святлу і цяплу. Ён паспрыяў ацаніць сябе, свае сілы. Маўляў, анічога мы не варты, нават тыя, хто ўзляцеў так высока, у космас.

## *Каўчэг*

Майстра не паглядзеў на мяне — шчыраваў — яго рукі заняты былі работай. Нажоўку ці рубанак трымалі яны, я б заўважыў, каб не быў так захоплены яго тварэннем. На маіх вачах толькі-толькі падагнаныя адна да адной дошчачкі прымалі дасканалы выгляд закончанай формы, нават успыхвалі лакіроўкай, праяўляючы ўсе магчымыя адценні тонаў натуральнага колеру яшчэ жывой і цёплай драўніны...

Што гэта было — тое тварэнне?

Сваімі закругленымі ўнутры бакамі-сценамі і папярочнымі паверх прадольных дошак брусамі яно нагадвала карабель, каўчэг... Мелася столь, ці века, а можа, яшчэ якое замест іх прыстасаванне, толькі неба, нават задраўшы галаў уверх, — не ўбачыць!

Безумоўна, камора гэта, ці каўчэг, абмяжоўвала прастору, аднак упэўнена адчувалася: дастаткова заняць у ёй месца, як адкрыецца брама ў іншы свет, не вымяральны звычнымі меркамі...

Я гатовы быў пераступіць парог каўчэга: так цікавіў і маніў той невядомы прастор...

Майстра спіною адчуў маё памкненне, буркнуў, не адрываючы сваёй увагі ад работы: “Рана табе яшчэ туды...”

## *Надзея*

Умовы былі наступныя: узброеныя строяцца ў рад, выпускаюць арыштантаў і пачынаецца пальба. Той з арыштантаў, каму ўдасца дабегчы да бар’ера і каго (гэта абавязковая ўмова!) з іх перахопіць збавіцель, вызваляецца, яму пакідаюць жыццё і свабоду...

Уся справа ў тым, што не ўва ўсіх ёсць збавіцель... То зразумела: каму карціць лезці пад кулі, рызыкаваць сваім жыццём дзеля смяротніка?

Магчымы варыянт: узброеным вядомы ўмовы. Пры жаданні не браць на

сябе лішніх грахоў, кожны з іх будзе цэліць без асаблівай руплівасці.

Такую надзею ангажавала, напэўна, не адна з арыштантак — так-так, сярод смяротнікаў трапляліся жанчыны...

Напярэдадні падзей выкраліся звесткі: страляць даручана дзяўчатам. Яны ўжо трэніруюцца на пляцы: адточваюць выхад, разварот, каманды, адыход з паклонамі... Знарок дзеля гэтакай імпрэзы набыты стыльныя, чырвонага колеру, падоўжаныя фрэнчы. Адразу з-пад крыс пачынаюцца ножкі, стройныя, у бліскучых панчохах. Заканчваюцца ножкі лакіраванымі чаравічкамі на высокіх абцасах. Дзяўчат падбіралі наўмысна з ідэальнымі фігуркамі — проста нельга адарваць вачэй ад такой дасканаласці вытанчаных форм, ад гэтых мініяцюрных тварыкаў, ад залатых локанаў, прыкрытых элегантнымі капялюшыкамі...

“Да пабачэння, надзея!” — сказалі не толькі арыштанткі, таксама і арыштанты мужчыны. Ад узброенай жанчыны літасці не чакай!

Ты прынёс мне ватнік, сказаў, ён зберажэ ад кулі, сказаў, выратуеш мяне, толькі трэба бегчы, бегчы, бегчы... штосілы! ...А там твая спіна загародзіць мяне...

## ***Жалоба***

Недзе ўвесь дзень іграе гармонік... Незнаёмая мелодыя: то не песня і не танцавальны матыў, не іншы які пэўнай формы і закончанай думкі музычны твор, то — бесперапынны плач-галашэнне.

Ён тым больш здаецца няўцешным, што вясна ўва ўсіх навідавоку дазволіла спраўляць мядовы месяц сонцу з небам, зямлі з вадою, ветру з полем...

Густыя, адвольныя, не падуладныя ніякай музычнай граматыцы сугуччы то запаўняюць усю прастору, то сціхаюць да няўлоўнасці, перацякаючы адно ў другое асабістым парадкам, незнаёмым з тэарэтычнымі ўмоўнасцямі і забаронамі, і лад той патрабуе прызнання сваёй непаўторнай існасці...

Так верхавіна дрэва дыхае, хвалюецца, шуміць, гайдае галінамі ў поліфаніі рухаў — падпарадкоўваецца толькі ўнутранай сіле ствала і карэння. Так пакідае меладычныя гукі вада-непаседа, залежная ад свайго ўладара — рэчышча ракі. І жалоба нечая просіцца, расце, выплёскваецца і знікае ў час нараджэння, слухаючы толькі душу.

Падобна будучыня крэсліць сябе, становіцца былым, і той момант крэслення і ёсць менавіта жыццё.

Адзін глыток з мора вечнасці...

Імгненні, створаныя гармонікам, пераходзяць у мае імгненні і доўжацца праз маю памяць...

## *Не азірайся...*

За дзень стамілася дзіця...

Калматы вечар кіне пад ногі ля дома посцілку з траў — запросіць прысесці... Паветра прахалодай пагладзіць плечы. Гатычнымі купаламі каленкі падапруць мурзаты падбародак. Гулкай струною нацягнецца ціш.

...Тут маці... Заспакоіць хад аяе,калыханкай завісне гамонка.

З усіх бакоў павядуць зоры свае маноклі на запыленую галоўку — ясна-ясна, чыста-чыста адаб'юцца ў здзіўлена расплюшчаных вачах.

...І аддзеляцца некалькі зіхаткіх кропак ад урачыстага рою, паплывуць, як шкельцы калейдаскопа ў спіральным віры кругавароту. Наблізяцца да самых вачэй — нема, заварожана сочыць дзіця, як раздзеляцца зоры на гурточкі, як завядуць між сабою марзянку, падміргваючы, пазавуць у палёт таемнай веліччу.

...І прарасце бязважкае цела дзіцяці сілаю нецярплівых крылаў за спінаю.

— Ты гатовы ляцець?

— То зусім проста, толькі трэба прыўстаць, адарвацца... узнесціся... над шатамі пахучых бэзаў, над ніткаю дарогі, над кропляй возера... над блакітам зямнога шара... Ды не азірацца! Не зводзіць вачэй з цуду!

Не азірацца на дом, на двор, на людзей, так занятых штодзённымі клопатамі, не азірацца... на маму?

# *МЫ ЎСЕ - РАДНЯ*

## *Цётка Ніна*

Адзін з мілых успамінаў дзяцінства: нясе цётка Ніна поўныя вёдры вады на каромысле — так лёгка, паволі, нібы плыве...

Гэтак жа яна хадзіла з граблямі, з даёнкай, несла дровы... Ладная, прыгожая, ды не той красой, што інстынкты абуджае, а той, якой у ногі хочацца пакланіцца.

Досыць дасталася на яе век бяды-гора. Але на ўсе выпадкі адзін адказ: дзве пякучыя слязы і "эт-т" — не то ўздых, не то стогн. І больш нічога. Быццам знала, колькі выпрабавання яшчэ наперадзе, — "беражы сілы!".

Палова з народжаных дзяцей памерла. Пра гэта я даведалася, неяк

знайшоўшы памінальную заіпіску.

— Хто гэта, цётачка: Волька, Зося, Пётра?

— Дзеткі мае, што маленькімі памерлі.

Па той прычыне яблыка ў рот да Спаса не брала. Наліўныя, чырвоныя, салодкія: дакляруюць пазбавіць смагі ў перасохлым роце, вабяць спякотай вока, — з жанчын, каго напаткала такое ж гора, мала хто выцерпліваў, каб не з’есці яблык.

Дзядзька, муж яе, шмат хварэў, усё жыццё лячыўся, але выпіць любіў, пабурчэць. Пра такіх кажуць: цяжкі члавек. Хоць зараз разумею: быў бы ён дрэнным чалавекам — не стаў бы цярпець такую “слату наезджых” пляменнікаў... Хто, як не ён, гадаваў дзяцей сваёй сястры, “адзіночкі”?

Ды ўсё ж Ніна ў хаце была галавой. Дайсці не магу, як гэта ў яе выходзіла, — ніколі не спрачалася, раптам змаўкала, але было відаць, што думкі сваёй не зменіць. Нешматслоўная, ціхая, а столькі ў яе волі, нейкай нябачнай сілы, што экстрасенс можа пазайздросціць.

Бывала, дурэем (я ж казала, што ў цёткі нас, нахлебнікаў, з усіх бакоў радні! Улетку наязджалі — што вытваралі!), і толькі ўжо, калі нельга было не спыніць нашы гульні, яна вымаўляла: “Нявольля так рабіць”.

Мабыць, няма такога слова ў нашай мове, і ўведаць яго паходжанне цяжка, але ў дзяцінстве яно ўсім было зразумелае: азначала не мець усмешкі на мілым твары. Ніхто не енчыў, не капрызіў перад ёй, хоць ніколі не чулі благога слова.

Прыйшоўшы з поля, кожны вечар яна спаўняла рытуал — акуратна даставала з-за абразоў вучнёўскі сшытак і ставіла ў ім новую рысачку — працадзень, гэтак жа акуратна клала сшытак на месца. Здавалася, гэта яе справаздача перад Богам.

Калі ішла ў царкву, усю дарогу маўчала. Жанчыны не загаворвалі з ёй, бо ведалі — дарэмна, суровы погляд казаў: “Нявольля”. Перад вёскай, прысеўшы, абцірала ногі анучкай і абувала туфлі, каб зайсці ў царкву. Выйшаўшы, зноў клала іх у сумку.

Памёр дзядзька, ды трэба ж было “падцэліць” — з хутара ў вёску перавозіцца загадалі. Памёр зяць, пакінуўшы малых дзяцей. І гэтым не скончылася: неўзабаве і нявестка памерла, Верка. Засталіся ўнукі ў такім узросце, калі галавой да гора яшчэ не дараслі, а сэрцам ужо дакрануліся.

Зноў закасвай, Ніна, рукавы! Быццам лёс захацеў дазнацца, колькі ж вытрымае гэта жанчына, калі сагнецца? Не! Тая ж постаць, ні слова пра крыўду.

— Ніна, Ніна, усё жыццё біліся як рыба аб лёд, капейку да капейкі складалі, думалася—дзецям не змаглі, дык хоць унукам дапаможам, — бывае, скажа хто з суседак ёй.—А што з нашымі грашыма зрабілі? Што з нашых грошай цяпер?

— Ат, — уздыхала яна, — было б гэта астатнім горам.

Даўно не бачыліся... А тут, зімою, тэлефануюць: "Прыязджай цётку Ніну хаваць..." — "Як памерла?" — пытаюся. "Быццам сама сабе гады адмерала, пераваліла за восемдзесят пяць — адчула, што слабець стала, хварэць—перастала есці... Ля акна сядзела, глядзела на вуліцу з ранку да вечара... А ў той дзень паднялася з ложка, памылася, памалілася перад іконай і лягла зноў — больш не ўстала. Як жыла ціха, нікому не замінала, так і памерла..."

Аднойчы спяшаюся ў раён. Па дарозе праз лес жанчынка паціху ідзе — высокая, прамая. Такі ж, як у Ніны, поступ, падобны ёй просты адкрыты твар, позірк цёмных вачэй — бясхітрасны і незласлівы. Гэтак жа сабраны ў вузельчык гладка зачэсаныя назад каштанавага колеру валасы, дзіўна для яе ўзросту, не кранутыя сівізной... Нават бабуляй выглядае жанчына вельмі прывабнай і мілай.

Прыпыніліся, загаварылі.

— Адкуль вы?

— З бальніцы, аперацыю рабілі. Выпісалі сёння, дадому іду.

— Пехатою? Адна?

— Трэці дзень рэйсавага няма.

— Няўжо не было каму забраць?

— Няма, дзетка. Сынка з войска ў жалезнай скрыні прывезлі.

Здушыла ў горле...

А мне заўсёды думалася, што такая, як мая цётка Ніна, на ўвесь свет адна...

## ***Прыпынак***

Скурчаны, жаласны стаяў ён, увабраўшы шыю ў адарваны з аднаго боку каўнер пакамечанага, бруднага паліто (некалі яно было ў выдатным стане — чорнага колеру з сінявой дыхтоўная тканіна, каракулевы каўнер, добрага майстра праца. У ім не раз ездзіў у дом адпачынку. Зараз, як і гаспадар, паліто выклікала агіднасць). Даўно не мытыя і не чэсаныя, нават "пяцярнёй", яго валасы выбіліся сівымі пэйсамі з-пад парыжэлай коцікавай шапкі, насунутай на патыліцу.

Хведар марна сіліўся даць думкам напрамак прыемных успамінаў, старанна "рабіў" бесклапотна-бадзёры выгляд — вось-вось ён паедзе некуды, таму і стаіць тут, ля слупа з літарай "А" ў крузе... дзе звычайна выстойвае кожны свой дзень ужо не першы год. Тут, у асвечанай ліхтаром сярод змроку і снегавых ахлопкаў, якія наўмысна датыкаліся да твару і настойліва вярталі да жыцця, пляміне стваралася ілюзія ўтульнасці: снавалі

пешаходы, сядзелі, стаялі, падыходзілі новыя пасажыры — нехта загаворваў, нехта падтакваў, смяяліся, курылі, і можна было ні аб чым не думаць.

Іншым разам Хведар быў бы самым ахвотным на гаворку завадатарам, пераказваў бы кожнаму пра сваіх дзяцей-унукаў. Здаралася, па сваёй няпамятлівасці, некалькі разоў трапляў на аднаго слухача, бо стаяў жа тут з раніцы да вечара, і калі хто выслухаў яго споведзь, едучы на работу, — той мог пачуць яшчэ раз тое самае ў абед... Хоць у гэтым невялічкім горадзе Хведара выслухаў, напэўна, кожны жыхар, і неаднойчы.

Сёння баяўся, каб яго не зачапілі, дробна трэсся ўсім целам. Ішоў другі тыдзень голаду і бяссоння. Раней імкнуўся б набыць "беленькай", ды і распіваць заходзіў толькі ўрэстаран ці кафэ. Апошнія ж гады выбіраць не выпадала—піў што пашчасціць: то сваяк запросіць на шклянку віна, то стары знаёмы пачастуе півам. Калі ж, як і ў гэты раз, "скручвала не на жарт", а швэнданне па суседзях было бясплённым, — у ход ішлі растваральнікі.

"Ажываў" — пэўнай прыкметай было тое, што ў галаву лезла слата

агідных думак, нелітасцівыя, балючыя, яны ўпіваліся прама ў сэрца, і ён па звычцы раз-пораз цёр далонню пад пінжаком, накінутым на голае цела.

У хвіліны, калі думкам удавалася цалкам авалодаць ім, Хведар забываўся "рабіць твар на гледача" і выклікаў невыноснае шкадаванне.

Схамянуўся, яшчэ болып уціснуўся ў каўнер, адвярнуўся — паўз прыпынак ішоў Альбін, сусед, не хапала, каб ён пачаў свае здзеклівыя насмешкі: "Ну што, камуняга, выслужыўся? Дэпутат ср...! Не гэтакі быў каваль, як я? Не гэтакім стаў зваршчыкам, як іншыя?.. "Таварыскі суд, таварыскі суд!.." *Я* — жабрак, і ты — жабрак, а паны твае, якім ты зады лізаў, так панамі і засталіся... Вось табе і "таварыскі суд"!"

Не зачаіпіў, бачыў і не зачаіпіў, чаго ўжо цяпер, сам ледзь клевае.

Паслужлівага Хведара начальства любіла "выдзьвігаць" у дэпутаты розных саветаў. Тады "ў модзе" былі "товарищеские суды", на якіх ганьбавалі работнікаў за парушэнне дысцыпліны, п'янства, выносілі вымовы за прагулы і іншыя хібы ў рабоце... Не раз было, што Хведару прыходзілася "судзіць" сёння тых, з кім учора падымаў чарку. За гэта яго шмат хто не любіў, не паважаў...

Хведар пазбягаў Альбіна дзе мог, бо асцерагаўся, што гэты ўсюдыісны яхідны чалавек здагадваецца і пра яго "інфаркт", хоць мінула з той пары нямала часу. Пры сустрэчы чытаў у яго вачах: "Дык, кажаш, сэрца хворае? Інфаркт? Затое цябе не гоняць на цяжкія работы, ага-а-а... Ну, мне лягчэй — здароўе пакуль што — дзякуй Богу!" І Хведар пачынаў яшчэ больш кульгаць пад яго пранізлівым паглядам. Кульгаў па-сапраўднаму, бо так прывык, што нага скрывела...

На вайну яго, напэўна, не ўзялі б: таму што малады, але, каб больш надзейна, параілі пчоламі наджаліць нагу, пусцілі пaслаўку — знявечыўся... Ляжаў доўга, "кульгаў", думалася — вось-вось не спатрэбіцца — вайна ж скончылася, а тут, хто ні вернецца са сваіх хлопцаў, здаецца, касавурацца на яго. Так і прыйшлося "кульгаць". Звыкся, ужыўся, інакш цяпер і не атрымлівалася.

"Інфарктам" жа пад п'яны язык нават любіў пахваляцца: "У мяне паўсюль — блат! Дактары знаёмыя — паважаюць... Я ім ласку зрабіў, яны — мне. Вось на групе хаджу — інфаркт..." — і хітра падміргваў, маўляў, — "жыць трэба ўмець!". Яго "ласка" заключалася ў тым, што галоўны ўрач бальніцы спісваў на Хведара, па дамоўленасці, наркатычныя лекавыя сродкі.

Толькі ніколі не ўспамінаў Хведар, якяго забірала "хуткая".

...Перад гэтым ён лёг на цэментаваную падлогу, паклаў на сябе драбіну, быццам лез рамантаваць электрашчыт, ды вось зваліўся, раскідаў са скрыні інструмент і закаціў вочы...

Не ўспамінаў, бо надта шчыра напалохаліся і перажывалі за яго тыя, хто прыбег ратаваць.

Далонь зноў палезла пад пінжак...

Калаціла яго, вядома, не ад сцюжы, дый надвор'е было мяккае, ціхае, а вось рукі акалелі — прыціснуў іх пад пахамі. Шурпатыя, чорныя, з пакурожанымі пазногцямі, хоць даўно не зналі амаль ніякай работы, так навечна ўелася ў іх жалеза... Такім рукам нехта прыдумаў назву — "залатыя". Такім! Няма работы не па іх: печ скласці, зруб рубіць, хату ставіць, тэхніку адрамантаваць, абутак — ці ўсё пераелічыш? А якія аградкі рабіў! Толькі да яго і звярталіся. Хведар было ўжо рашыў, што нарэшце прымусіў думкі настроіцца на прыемны лад, як раптам новы ўспамін, нібы здзек: "А дзе магілка нашай бабулі?"

Некалі запрасілі яго ў родную вёску на могілкі агароджу прыладзіць. Меншая дачка напрасілася ехаць разам. Па-гаспадарску агледзеў ён клады: "Вось гэтуварыў... і тая—мая. Во яшчэ, помню. Ды тут, лічы, усе аградкі я рабіў!"

— А дзе бабуліна магілка? — запыталася малая.

Ён пахмурнеў ад таго, што на сэрцы, за "непралазнай сцяной" ныла... Добра ведаючы, ШТО трывожыць — даўно забыўся на тыя словы, з якіх складаюць такія думкі...

Незадаволены—закранула і спудзіла добры насгрой, Хведар прыжмурыўся, прабурчэў:

— Вунь, здаецца, ля таго куста, і малы там жа, побач.

Сам адвярнуўся, не хацеў "будзіць" тое, што было "за непралазнай сцяной".

Колькі разоў рабіў агароджу, папярэдзіўшы сямейных:

— Калі што — маці і сыну!

Будзіў малую раніцай, загадваў сачыць за дарогай, ці не пойдзе хто падазроны, а сам, накінуўшы на электрычныя правады прыстасаванне, прыварваў розныя фігуркі адну да адной у роўны арнамент. Сям'я ледзь перабівалася, і "лішняя" капейка ого як спатрэбілася б, але легкавернай жонцы наўрад ці перападала што з "калыму".

— За жалеза — паўлітра, за падвозку — паўлітра, за апарат — таксама патрэбна!

І атрымлівалася, што пачынаць такую рызыку не было выгоды. Але жонка верыла, хоць і падцінала вусны, а ён пускаў зноў і зноў грошы "на свой одум", кожны раз знаходзячы апраўданне.

Малады піў, каб адчуваць сябе больш шчаслівым, а зараз — каб не такім няшчасным.

У маладыя гады любіў фанабэрыста запрасіць каго з начальства ў рэстаран, з тых, хто не грэбаваў выпіць за кошт падначаленага. Любіў з'ездзіць амаль кожны год у санаторый — "хваробы" знайсці яму было не цяжка, зноў жа, дапутату пуцёўку ў прафкаме заўсёды дадуць, ды і дарма, бывала... А там грошы шмат для чаго спатрэбяцца... Хведар вяртаўся дамоў заўсёды "прыгледжаным": абшытым, абмытым, прылашчаным. Не раз жонка знаходзіла па кішэнях дрэнна прыхаваныя фотаздымкі, пісьмы, адрасы каханак і палюбоўніц.

Спрабаваў ён аднойчы пачаць "новае" жыццё, у вялікім горадзе, з маладой адукаванай жанчынай, пакінуўшы сваю жонку з дзецьмі на волю лёсу... Ды толькі каханне ў час адпачынку, пад плёскат марскіх хваляў—гэта адно, зусім іншае — каханне ў паўсядзённых клопатах і турботах... Такога, "паўсядзённага", Хведара не ацанілі адукаваныя жанчыны, і прыйшлося яму зноў вяртацца да сваёй жонкі.

...Тут, толькі тут Хведар здольны перацярпець навалач брыдкіх успамінаў. На гэтым прыпынку... але хутка ён апусцее. Як звечарэе — разыдуцца людзі па дамах, прыйдуць сюды маладзейшыя, вясёлыя, шумлівыя... Сцямнее — тут не вытрымаеш...

Ёсць у яго дом, не кватэра-шпакоўня ў шматпавярхоўцы, а асобны, драўляны. Толькі ён ніколі не быў ДОМАМ — так, месца, дзе збіраліся паесці, пераначаваць, дзе век сварыліся з жонкай, крыкам вырашаючы ўсе пытанні — ад сур'ёзных да нязначных. Бывала, пасля бойкі, калі і шыбы ў вокнах прыходзілася замяняць, ніяк не маглі ўспомніць, з чаго ўсё пачалося?

Раней такія ўспаміны суправаджаў скрыгатам зубоў, асабліва ноччу. Варочаўся ў ложку без прасцін, мармытаў штосьці і скрыгатаў, скрыгатаў...

Жыццё яму здавалася часовым прыпынкам — заўтра зварухнецца, само-сабой зменіцца, здарыцца нейкі цуд, і будзе ўсё па-іншаму... Прыходзіла заўтра змрочным, бурклівым, з бясконцымі жончынымі слязамі і папрокамі. Санлівы, крочыў ён на работу і не ўспамінаў пра іншае жыццё...

Не так даўно, па старой звычцы, сцяў сківіцы і — дастаў з рота чатыры акрываўленыя ўстаўныя зубы.

Не былі прытулкам і кватэры дзяцей, дзе паслухмяна-пакорліва налівалі яму чарку “адкупнога ад смерці”, дзе пры яго з ’яўленні рабіліся салдатамі перад генералам, але якога ўжо не баяліся і не паважалі, а толькі, шкадуючы лядашчага, трымаліся так, як ён прывучыў іх з сабой трымацца.

Адчуваў і ведаў, што не шаноўны госць у гэтых кватэрах, — не надта “ставіў іх на ногі”, не адразаў ад свайго кавалка, каб аблегчыць дзецям будучыню, не хваляваўся іх поспехамі-няўдачамі. Запытацца мог: “Колькі ж зарабляеш?”, — каб потым пахваляцца: “Во як дзяцей папрыстройваў!”

Любіў маленькіх, як забаўку, — гушкаў, казытаў, дурэў, пакуль яны былі не болып за ляльку, а як падраслі ды пачалі пытацца пра штосьці сур’ёзнае, – адказаць не ўмеў. Рабіліся яны незразумелымі, надакучлівымі, лезлі з пытаннямі, на якія і сам не ведаў адказу, а здавалася, некалі знаў...

Здагадваўся, ці не дзеля таго і жыў, каб успомніць?

Не ўспомніў, не зразумеў, больш і не сіліўся зразумець, бо даўно ўжо нічога не хацеў, нічога, нават смерці. Яна як ніколі страшыла, упаўзаючы змяёй у галаву: “А раптам і ТАМ прачухаешся з поўнай свядомасцю аб пражытым...”

## ***“Некралог”***

...Хавалі Сцёпку...

Вяртаўся дамоў, як штодзён, глынуўшы, пераходзіў пуці і заваліўся ля бярэзіны. Знайшлі раніцай. Падумалі — замёрз, бо хоць стаяла восень, а маразы зямлю ўкавалі. Потым дазналіся — сэрца хворае не вытрымала. Не дацягнуў і да трыццаці шасці. Можа, добра, што не меў жонкі з дзецьмі?

Праўда, жыў з “развядзёнкай”, але зусім нядаўна сышліся з ёй — дужа не забядуе “маладзіца”.

Дзяўчынка, якая сядзела ля дагніваючага плота на бервяне (пгго пасля буры, калі заваліла старое дрэва, Сцёпка прыцягнуў на дровы, а парэзаць так і не дабраўся), была яго пляменніцай, Галінай дачкой.

Дзівіла б, калі б не было яе на гэтым месцы, — мяркуйце самі, чым было для Надзейкі паўпустое бервяно: калі яшчэ не хадзіла ў школу, а “сценюгалася па заўголлі”, як казала баба Маня, бо на садок маці грошы

шкадавала, на ім гуляла з лялькай, якую недзе знайшла выкінутай за калецтва. Тут “пякла” з гліны хлябок. Калі ў хату нельга было траіпіць, бо дарослыя знеслі ключ, забыўшыся за гарэлкай пра малую, сядзела тут, застылая, у адной позе, і, адключыўшыся ад усяго, блукала ў толькі ёй знаёмым свеце. На гэтым бервяне чакала, пакуль не скончацца сямейныя разборкі, тады яе бачылі тут да цемнаты.

Сёння на бервяне сядзець не было як — людзей ішло ды ішло, чужых, малазнаёмых, яны пра штосьці пыталіся ў Надзейкі, а ёй не хацелася гаварыць, таму прыйшлося стаяць у хаце і слухаць перашэпты і гаворку...

— ...старая дагэтуль трымалася, а цяпер і яна не жылец...

— Глянь, прыйшла-ткі Тамара, адпусцілася... Ці, можа, каб пабачылі, што і без яго не прапала?

— Бацюшка адпяваць будзе Забалоцкі.

— Ці не той, што на Вялікадня з прычасця пахмяляўся?

— Той, той. Якая пахмелка! Ужо на ўсяночнай выбягаў перакуліць чарку, а як сталі памочнікі яйкі свянціць, так і сербануў з чашы тут жа, не адыходзячыся, у Царскіх Варотах.

— Галя з удавой... Неўцярпелі...

Галя з Нонкай, удавой, сядзелі ў маленькім пакойчыку, абняўшыся за шыі, спачувалі адна адной. Галя так расчулілася, стала біць рука аб руку, дакляруючы Нонцы хату. Ад труны адазвала старую Марыю:

— Матка, стаўлю яшчык гарэлкі — апішы хату на Нонку!

Нібы забылася пра тое, што сельсавет выдзеліў шмат пітва на пахаванне і самагонкі нагналі поўныя слоікі, —наўрад гэта абяцанка цяпер уразіць старую, калі толькі дні праз тры?

Марыя, хоць і добра “кранутая”, моўчкі кінула касым вокам на дачку, нягледзячы на гора і хмель, сцяміла, што тая вярзе... Жарт — хату апісаць?! На каго, на прыблуду? Месяца тут не жыла, ад няпершага мужа ўцёкшы. Свая ўнучка як дзічка ў чыстым полі — ані бацькі, ані маткі. Бывала, жалячыся, Марыя пакруціць пальцам ля скроні: “Адзін — во, другі — во!” — шчоўкне па глотцы.

Папівала і сама частавата, але вярталася да розуму — есці наварыць, У хаце прыбярэ — усё ж прытулак малой унучцы. Дачка ж яе, Галя, піла — не прасыхала. Некалі прыгожанькая, жвавенькая, цяпер сівая, лічы, без зубоў выглядала адных гадоў з маткай, а была ж маладзей за нябожчыка. Гадоў сем, як не адыходзіла ад хмелю. Надзейка яе другой і не памятала.

Сяброўкі старой “набраліся” з раніцы і цяпер хто з іх спаў, хто галасіў на прыход новага чалавека ў хату, але ля печы было каму круціцца. Люду, да

дармавой гарэлкі ахвочага, заўсёды хапала. Той, хто не хадзіў у сваяках ці суседзях, рупна завіхаўся, каб падхапіць кветкі ці вянок — “заняцца справай” — шчыра адрабіць чарку. У сенцах, яшчэ да вынасу труны , “грэлі” хлопцаў, якія капалі дол. Яны падрабязна і заклапочана распавядалі, як было неўкапацца ні ломам, ні лапатай, але справіліся — ад душы!

Надзея ўпершыню блізка бачыла мерцвяка, яе апаноўваў страх — не магла заснуць ноччу, хацелася зараз прылегчы — каб было дзе...

Людзей паменела толькі пасля жалобнага стала. К вечару засталося некалькі сваякоў і прыяцеляў. Яны наладзілі песню, апраўдаўшыся Сцёпкавай весялосцю. Што праўда—то праўда! Жартаў, прыпевак знаў — роўні няма!

— Надзея, нясі трохлітровік з кладоўкі!

Дзяўчынка, дагэтуль нікім не заўважаная, сядзела на ложку, як вяровачкі, рукі ляжалі на каленцах, вочкі, адвыклыя ад слёз, углядаліся ў штосьці нябачнае.

— Надзейка, бягом!

Яна як цень прашмыгнула каля жалобнага стала, што ператварыўся ў застолле, прыпынілася на хвілінку ля кладоўкі і пайшла з хаты...

## *Шалёны*

Што ёсць конюх на сяле, ведае кожны, у каго хоць бы сотка зямлі ля дома...

Шалёны ў гэтай справе талковы: яго і бацька конюхам быў, як памёр у няпоўных пяцьдзесят гадоў, дык сын яго і замяніў. Па папшарце ён Васіль, але і ў вочы нязлосна завуць Шалёным — за характар, за працавітасць. Як

возьмецца за работу, здаецца, талака запрошана — усюды ён і ўсё ў ягоных руках нібы гарыць.

Вось толькі ж у хляве чысціў, ужо праз плот з суседам лаецца:

— Зараз усіх тваіх курэй — на калоду, пасяку! Грады раскапалі.

Тут, бач, сядзіць на дрэве, прыладжвае шпакоўню, а міне якая хвіліна, і Шалёнага дома не знойдзеш — у полі ці ў лесе...

Рэдка ўбачыш яго “пешаходам” — больш на кані ці на ровары. Калі ж ідзе, то “прысяддзю, урасцяжку”, як кажуць, а галава яго аж круціцца ва ўсе бакі, каб не прапусціць чаго ці каго, такі цікаўны, такі задзірысты: заўважыць якую “зачэпку” — здалёк зыгуе:

— А-а-а! Уладак, прачухаўся ўрэшце... Сонца зараз зойдзе, а ён ледзь вочы прадзірае...

— Андрэй! Што, вераб’і твой калодзеж абярнулі? За вярсту па ваду

ходзіш.

— Бачыў, бачыў, Донька, з чыіх вокан па начах вылазіш... чыю пасцелю аблюбаваў...

Пабайваліся яго: мог сапраўды адным жартам зняславіць на ўсю вёску. Самога ж чапаць не насмеліваліся: характар у Васіля “круты”, ды і як з ім варагаваць, калі не сёння – заўтра спатрэбіцца... Церпяць, “падладжваюцца”, прывыклі, а папраўдзе, дык і проста любяць яго такога, які ёсць.

Васілёк, конь, у Шалёнага дагледжаны — гладкі, дужы, адным словам, мае выгляд. Сам жа Васіль — учарнелы. На досвітку пахмеліцца, цыгарэта набаку — ці вымаў, ці з ночы ў роце? Хоць якая ноч вясною — тое развезці-растрэсці, тое абараць-перагнаць, тады барануй-акучвай, потым сена — ад святла да святла... Высах Васіль у костку! Ідзе за плугам — як не кульнецца? Не-е-е, сіла ў руках жалезная! Пот змачыў кашулю, ледзь не гарохам па шыі коціцца. Валасы зліпліся. Вочы свету ня бачаць — ралля і ралля...

— Па цалым! — кіруе Шалёны.

Роўненькі шнурочак адводзіць плуг.

— Усклад ці ўразору, — не пытаецца Васіль, разважае, што хірург над аперацыйным сталом: “Скальпель, пінцэт!”

— Раўняй! Н-н-но-о! Васілька, — падбадзёрвае каня Шалёны.

— Сыходзіць на клін, — заўважае спехам...

Акрамя звароту да каня і тлумачэння па ходу, ніводнага слова — ні сіл, ні часу на лішнюю гаворку. Па яго прыехалі ўжо, чакаюць на другім полі. Няма аддухі. Нашча. У жываце з раніцы пячэ, рэжа — толькі чарка супакоіць. Вады глыне, а ежа ў горла не лезе.

Галосіць Васіліха: “Прапаў мужык! За работай выцягваецца, як вуж, а прыбытку ні на зуб”.

У хаце — пустэча, убогасць. Няма моды ў сяле даваць грошы за помач, паўлітра — адна падзяка. І некаму гэтую моду змяніць...

Папершасці, як нарадзіліся дзеці, сам Васіль, бывала, працверазеўшы, сатрэ слязіну са шчакі: разумеў, у якой галечы і жабрацтве яны гадуюцца. Потым перастаў... цверазець. Ён ніколі не быў п’яны, каб валяцца, проста заўсёды на падпітку — без таго ногі б не ішлі. А так — “прыме” столькі, каб і ў галаве надга дурнаты не было, і каб цяжкія думкі не апаноўвалі.

Абавязкова разы два на год Васіль з жонкай павучаюць адно аднаго, тут штосьці ў прыродзе, як затлум які на чалавека! Счупяцца пасярод двара, сабяруць людзей— “наш ціятар”. Хто і сапраўды “тэатр” прыбег паглядзець, хто сочыць, каб своечасова папярэдзіць бойку, хто так — ішоў, прыпыніўся.

Дочкі Васілёвы паз’язджалі з роднае хаты што найдалей, ад гора, ад сораму. Не відно, каб калі наведваліся. Хоць... ці ў іх адных такое жыццё?

— Па цалым! Васілёк, — і сам паспяшае за плугам. Ногі ў халявах што алоўкі ў шклянцы, але боты ходкія, прыступныя. Нельга, каб абутак замінаў—увесь дзень на нагах, а то і нанач не скіне; дадому прыйдзе, пакуль каня спарадкуе, ногі не трымаюць — так і заваліцца на ложак, звесіўшы боты.

— Па цалым! — “свісне” пугай толькі для страху.

Скончыць работу і абарэ поле па краях, як мастак, астатнюю рыску падвядзе. Моўчкі, не выцершы поту, перапрагае каня. Глядзець на яго збоку любата! Усе прылады ў яго як цацкі, нічога магазіннага, самім даведзенае, прыстасаванае, бо казённае хліпкае — асцерагайся, каб у дарозе не разваліласяя. Рукі хуценька, упэўнена папраўляюць хамут, зацягваюць, звязваюць падпругу. Толькі неабходныя рухі — майстра!

— Дзякуй, Васіль! (У паўлітэрцы глуха боўтаецца сівая вадкасць.)

— Не трэба! Не трэба! (Рука ж Васілёва звыкла суне бутэльку ўкішэню галіфэ.)

## ***Талян***

Праз шчыліну ў дзвярах было відаць, што хавацца не мела ніякага сэнсу. Нават тут гэту “навалу” не пераседзіш!

Талян не першы год хадзіў “у пазыкі”, дык добра ведаў усе мае “схованкі”... Так і аказалася — ён абышоў кожны пакой, зазірнуў у кладоўку, сабраўся было лезці па драбіне на гару, як вока яго прыкмеціла дашчаную прыбіральню за кустом бэзу — напэўна, здагадка падказала яму ці ўбачыў, як я выглядала яго ў шчыліну...

— Вылазь, котачка мая! — жыццярадасна гукнуў ён.

Талян рагатнуў на ўвесь двор, ашчэрыўшы рэдкія жоўтыя зубы, і ўпэўнена рушыў насустрач мне.

— Ты што — вяроўку праглынула? Паўгадзіны з “ачка” не злазіш, — як заўсёды, “вольны на язык “, запытаўся ён, радасны, што і на гэты раз не ашукаўся ў пошуках.

Пры паглядзе на саракагадовага бесклапотнага дзецюка з устойліва сінеючым носам, які бульбінай расплываўся на круглым твары, на змену абураючай злосці ў мяне вырваўся нясцерпны смех...

(Тут пішы — прапала! Бо азначала маю поўную бездапаможнасць перад сваяком-валацугам.)

— Адзін рублёк... — Талян зухавата выкідваў палец і зноў хаваў яго ў кішэню. Было дарэмна напамінаць, колькі іх набегла — “пазычаных” рублькоў, як дарэмна ўшчуваць ці звяртацца да яго сумлення.

На доказныя і пратэстуючыя прамовы Талян без усялякіх пераходаў пачынаў дэкламаваць вершаванае прызнанне ў мужчынскіх поспехах сярод жаночага “брата”. Прычым ён ні на каліва не дапускаў сумнення наконт свайго артыстычнага таленту і яго ўплыву на “субяседніка”.

Ад такога нахабства і сапраўды траціліся неабходныя словы. Большага Таляну не трэба! Выбрыкнуўшы дробную чачотку дзюравымі атопкамі — спадчына нейкага сваяка — Талян кідаўся ў наступ:

— Адзін рубялёк, мая галубка, і я расцалую цябе ў знак удзячнасці.

Гэты ход быў астатнім і самым надзейным козырам, бо пры набліжэнні менш як за тры крокі ад Таляна чохала ТАКІМ смуродам-перагарам, а твар яго нёс ТАКІЯ сляды многагадовай непрытомнасці, пгго сам заплаціш “чырвонец”, абы хутчэй скончыць размову.

...Благога Талян не зробіць, калі толькі хапане ўвачавідзь, з гвалгам, флакончык французскай парфумы на пахмелку, а так чалавек не дрэнны...

Ёсць у яго недзе сынок, аліменты на якога праз суд выплочвае Талянава маці...

## *“Тундра”*

Паспела Анюта абегчы палову двароў, пакуль апамяталася, што давала сабе зарок... Ды і не апамяталася б, не пачні Зіна Хадорчыха дзякаваць: “Малайчына, Тундрачка, ай, малайчына!”

Учора ноччу нават на паперу запісала: “Больш не буду Тундрай — клянуся!” Заснуць не магла — ушчувала, дакарала сябе за тое, што ніяк не здолее перабароць свой характар, залішне шчыры, даверлівы, за жаданне ўсім дагадзіць, нават услужыць, за тое, што не ўдаецца ёй спакойна слухаць чужыя разборкі — абавязкова “ўлезе” памірыць...

Раніцы дачакалася, забылася бяссонная ноч, і зноў за сваё... Калі нарадзіўся ў багне — усё жыццё смярдзець будзеш...

Пашклэмала дамоў, праглынуўшы крыўдную Зінчыну падзяку. Пайшла, кульгаючы, бо, як шукала яе ў хляве, адламала абцас з выхадных туфляў, цяпер адлічы на іх рамонт з таго, што трэба было б неяк “дацягнуць” да авансу.

— Нікога не папярэджу болып — няхай сядзяць без цукру!

Лета на адыходзе — ягады абсыпаюцца, без цукру варэння не зварыш, а яго другі месяц не завозяць у магазіны. Сёння ж “выкінулі”, каб атаварыць

талоны... Культурныя жанчыны атрымалі свае "нормы", за якіх мужыкі атрымалі і пайшлі паціху к сабе дамоў, яна ж, цяжкой торбай абрываючы рукі, пабегла па дварах — хацела папярэдзіць знаёмых, каб спяшаліся ў магазін — канчаецца цукар...

Такой і маці яе была — утрапёная баба, скандальная — усюды нос уточыць! Дык яна ж і невукам была, а Тундра на медсястру вывучылася. А ўсё той жа пароды — дварняга. Дарэчы, з дварнягі мянушка і прыліпла...

У суседа ў двары маленькі сабачка на прывязі сядзеў. Ланцуг вакол шыі абкруціўся — ні з месца Цуцык. З астатніх сілачак скуголіць, на дзвюх лапках выцягваецца, лічы, вісельнік! Ці на вуха іншыя людзі тугавацей, ці ўсе скрозь такія занятыя, але кожны дзень вызваляла Цуцыка Анюта. Стоцьгалавой ляціць з другога паверха, рукі калоцяцца, хапае ланцуг з крука і — аб зямлю — "не-нармальная!" Тады яе толькі так яшчэ называлі. К вечару Цуцык зноў на прывязі... Аднойчы сабака ледзь не аддаў канцы — Анюта зашчаміла вушы, сама плача. "Не пайду, няхай гаспадары ратуюць". Не дачакалася, кінулася ў двор, схапіла шчанюка, стала трэсці — ачуняў, адляжаўся і пабег...

Трэба ж было такому нарабіцца — у той дзень сабак адстрэльвалі (іх страляюць сярод дня ля садкоў, ля школ, у цэнтры... адной жанчыне, было, нагу прастрэлілі...) — забілі Цуцыка.

Вось тут сусед за свайго ўласнага сабаку стаў гарой: кулакамі перад носам круціў, абяцаў з кватэры выселіць. З таго дня пры сустрэчы станавіўся рукі ў бокі і, гледзячы на расчыненыя вокны двухпавярховага дома, крычаў: "Тундра беспрасветная!"

Так і прыляпілася. Сяброўку п'яны муж пабівае — яна да Анюты:

— Тундрачка, пасядзі ў мяне, пакуль "азіят" засне, ён пры табе не адважыцца.

Сядзіць Тундра, аблабуньвае "азіята" да поўначы — брыдкі ён, але шкада сяброўку, вось і ківае ў знак згоды з яго трызнёй.

— Нельга так жыць, Валя, у цябе сыны растуць, якімі яны стануць, гледзячы на тваё папушчэнства?

— Разумная! Няўжо як ты: мужа вон, самой у воз упрэгчыся і цягнуць адной...

— Ты ж горшы воз цягнеш, лайдака ў ім вязеш, а ён яшчэ цябе — пугай!

Аптымізму ў Валянціны ад прыроды зашмат: раніцай яна ўжо вывешвае вымытыя штаны, якія муж збадзяў, валяючыся "ўзагрудкі".

(Адной папулярнай газеце некалі модны артыст даваў інтэрв'ю...

“Жанчына павінна быць цяплічнай раслінай. Не іншай якой кветкай, не бярозкай, а менавіта цяплічнай раслінай, якая прападзе без падтрымкі дужага мужчыны. Расліне гэтай неабходна хварэць, гінуць, каб было што абараняць, выхоўваць, вызваляць і пеставаць...”)

І пашанцуе ж некаторай нарадзіцца слабай і бездапаможнай — на яе адразу пакладзе вока абаронца, каб яна за ім — як за каменнай сцяной! А тут нарадзіўся — сам сабе не рады — на ўсё здацен, усё разумееш, не горш мужчыны дукрыш — каму такая патрэбна? І не тое што здароўя задужа багата — ого, як скруціць часам, — няма як хварэць... Не прыдумалі абаронцы нашы ў дзяржаве ладу такога, каб не трэба было здавацца слабейшай ды дурнейшай за сябе, а каб іх, мужчынскі, розум ды іх сіла адразу відаць былі...

Тундра, праўду сказаць, даўно забылася пра сваю належнасць да жаночага полу, столькі цяжару ўзваліла на свой жыццёвы воз, што некалі пра гэта ўспомніць. Калі-нікалі сціснe ў грудзях жаль да сябе: “Няўжо я горш за астатніх, што не найшлося талковага чалавека да пары?..” А потым сама ж і супакоіць сябе: “Паглядзі, за кім бы ты пайшла на край свету — за тым лайдаком? За тым п’яніцам? А можа, за гэтым чысценькім халуйком?.. Не гаруй, Ганна, не губляй надзеі, няма пакуль пгго табе адпаведнага”. Дзякуй Богу, што паспела дзяцей нарадзіць да таго, як у людзях змагла разабрацца, а так — у старых дзеўках сядзела б пры цяперашнім розуме.

— Макараўна, чаму стараной абходзіш? Цябе ж да мяне чаравікі вядуць.

Ледзь зразумела за змрочнымі думкамі, што да яе звяртаюцца.

(Хацела сама дзеля эканоміі падбіць... цяпер сорамна адмаўляцца — з акна мясцовага КБА выглядаў стары шавец.)

— Дазволь хоць памаліцца на тваю прыгажосць.

Засмяялася весела, амаль па-сапраўднаму, пераступаючы парог маленькай каморы, наскрозь прапахлай ацэтонам.

— Такія, як ты, родзяцца паштучна, не гуртам — на вялікую населеную плошчу па адзінцы. Каб людзі не забыліся пра дабрыню, каб не азвярэлі, — гаварыў, не падымаючы галавы, зашчаміўшы ў вуснах цвічок, шавец.

— Скажыцэ тожа...

— Кажу, бо знаю... Цяжка табе, Макараўна, сярод нашай “пушчы”...

Дзівосны ты чалавек. Людзям колькі месца ні давай — цесна на зямлі, сваяк сваяку залішні, а ты — во і з торбай гэтай па небе здольна ляцець...

Яго блакітныя вочы ўсміхаліся з-пад калматых броваў.

— Прымай работу — як новыя!

— Колькі з мяне, Раманавіч?

— Не грэбуй — у ласку да цябе набіваюся, можа, калі добрым словам мяне, старога, успомніш.

За якую хвілінку нібы надвор’е перамянілася... Пасвятлела.
Ганна цяпер ужо з натуральнай усмешкай на ўвесь твар роўненька цокала абцасамі.
— Дзяўчаты, бяжыце ў прадуктовы — варэнне будзем варыць!

## *Прыдуманая гісторыя*

Пра тое не ведаю сама, але казалі: была дзіўная сустрэча, і ён трымаўся перад нетутэйшым мужчынам, як юнак, паслухмяна і стрымана. Доўга слухаў яго, не пярэчачы ні словам, а калі нетутэйшы знік няведама куды, як і няведама адкуль з’явіўся, моцна напіўся, быў непрывычна злым і пахмурным і ўрэшце ўчыніў дзёрзкі мардабой, праўда, раніцай перапрасіў па-сяброўску ўсіх пакрыўджаных...
Самых “смелых і здагадлівых” гэта сустрэча навяла на думку: “Ці не звязаны ён з бандай?..”
Наўрад ці... Ды і не веру я ў чуткі пра “дзіўную сустрэчу”.
Пра ўсё іншае знала! Нават сама не ведаю, адкуль і як, мабыць, чуццё, здагадкі — усё сышлося, усё менавіта так і было... сваёй фантастычнай крымінальнасцю непраўдападобна.
Той, пра каго вяду гаворку, з’явіўся ў нашых мясцінах у “перыяд пажараў” (быў такі перыяд у гісторыі нашага горада...) — кожную пятніцу, лепш сказаць, з пятніцы на суботу наваколле невялікага гарадка пурпурна асвятляла вогнішча ў палову неба, падкідваючы пад купал ночы залаціста-чырвоныя іскры: гарэлі спачатку пакінутыя, нічыйныя будынкі наводшыбе, потым хлеўчукі ў завулках, пасля дамы, сенабаза... “Якраз у перыяд пажараў”, — сказаў бы той, хто не ведае, а я кажу — напярэдадні

загадкавых падзей.

Ён вярнуўся, трэба было б сказаць, дамоў, толькі гэта не будзе пэўным: дзе яго дом, не ведае ніхто, як, напэўна, ён і сам... Людзі, па маіх назіраннях, дзеляцца на тых, для каго ДОМ —гэта вёска, іншым — горад, некаму—дзяржава, а ёсць такія, каму ўся планета — родны дом, нават — СУСВЕТ. Праўда, больш тых, чый дом умяшчаецца ў чатырох уласных сценах, а ёсць і такія, як ён, — бяздомныя, бо ДОМ — тая прастора, за якую здольна балець і адказваць твая душа...

Тут ён нарадзіўся, скончыў васьмігодку, тут жыве яго маці, засталіся аднакласнікі. Прыехаў ён пасля развода з жонкай ці то з Уральска, ці то з Чэлябінска, кім і дзе працаваў—кожнаму хваліўся па-рознаму, і ўсе шчыра верылі, бо яго пранізлівыя вочы ўпіваліся слухачу ў самую душу і нават цераз шкельцы модных дарагіх акуляраў гіпнатызавалі і, пакуль не насмокчуцца ўдосталь падатлівага даверу, загадвалі: “Стаяць смірна!” Ён увесь быў такім імпазантным, самавітым, што расчуленыя настаўнікі школы пры сустрэчы сарамліва хавалі за сябе сумкі, напакаваныя “выкінутым” у магазін пад канец месяца для выканання плана прадуктам: вось якія мы прыземленыя, прыбычаныя (ад слова быт) — дапякалі сваё сумленне — а ЁН! Яго аблічча так і вымаўляла — ДИРЕКТОР! — чаго, дзе — ні для каго, здаецца, не мела ўжо ніякага значэння, ці не ўсё роўна, галоўнае — дырэктар! З ім першыя віталіся знаёмыя і незнаёмыя — ТАКАЯ АСОБА! І нікому не прыходзіла ў галаву зацікавіцца глыбей гэтай “асобай”...

Нават яго былая класная, якая лічыла сябе не звычайным выкладчыкам — УЧИТЕЛЬ! — яе місія, галоўная ж справа жыцця, на якую гэта жыццё і паклала — збор матэрыялаў пра Уладзіміра Ільіча Леніна: выразкі з газет, часопісаў, кнігі, фотаздымкі, значкі, медалі — займалі ў школе асобны, так званы Ленінскі пакой... нават класная абдымала яго за плечы і, трапяткой рукой перагортваючы перад ім пажухлыя старонкі сваіх каштоўных папачак-экспанатаў, з гонарам прамаўляла: “Ты адзіны мой паслядоўнік!”

Я ведала... па-першае, ён мой аднакласнік, па-другое, у мяне “нюх” на такіх “асоб”, а па-трэцяе — яго акуляры на мяне не дзейнічалі: свае маю...

На гэты раз згарэла канюшня пры пажары! Ён па-геройску аказаўся на папялішчы першым. Ноччу! Са шкадаваннем глядзеў на разбухлую, амаль бязногую тушу Варанка, ледзь не праслязіўся.

Трэба было недзе раней патлумачыць, што ён ужо займаў пасаду інспектара райпажнадзора і быў у форме ды пры партфелі.

Цудоўна! Цудоўна форма ляжала на ім і была так да твару і постаці, што

нават у мяне, не кідкай да знешніх прыманак, на імгненне збілася з такту кволае жаночае дыханне -— ар-рол!

Потым ён намякаў на ўласнае даследаванне — маўляў, яму вядома, хто ўчыніў злачынства...

Выпадкова я стала сведкай яго візіту да суседзяў. Узбуджаным голасам ён агітаваў гаспадара бегчы тушыць лесанарыхтоўчы цэх — цэх пакуль што быў цэлы — проста ў гэты дзень яго з маім суседам чакалі вясёлыя дзяўчаты ў жаночым інтэрнаце. Цэх гарэў у наступную пятніца-суботнюю ноч, і я ўжо здагадвалася пра тое...

Кожны пажар суправаджаўся анекдатычнымі "з'явамі": то "нехта" напоіць дзяжурную каманду пажарнікаў, то загоніць машыну з вадой у балота, і яшчэ доўга пасля пажару яе будуць даставаць цягачом...

Злавілі майго "героя" на гарачым — хацеў "прыкурыць" у чужое сена... Хтосьці запрасіў яго на сваё вяселле "свадебным генералом" — піў, еў, весяліўся, удосталь нацешыўся ўвагай да сваёй асобы. А калі захмялелых гасцей паклалі спаць на вышках, ён паспрабаваў падпаліць сена, ды, відаць, было сярод гасцей шчаслівчыкаў: заўважылі і сумелі затушыць... І яму нічога — абышлося... Пасадзілі пасля на два гады за рабаўніцтва сельмага.

Спынюся перадыхнуць — "адбываў" ён, запазычыўшы мне крыху грошай. На мой страх, аказаўся сумленным даўжніком: праз два гады стукаўся ў мае дзверы. Месцазнаходжанне яго не афішавалася, нікому не хацелася выяўляць свае веды, бо, па яго расказах і па таму, як па-ранейшаму "важна" трымаўся, ён заставаўся ДИРЕКТОРОМ.

Гэты чалавек насцярожваў мяне не толькі як злачынца — манія вялікасці і самазначнасці прымушала здагадвацца пра цяжкую хваробу, якую ў нашым грамадстве амаль не пазнаць у чалавеку з-за таго, як прывыклі сябе паводзіць людзі... У маім доме сядзеў не іначай МІНІСТР! — так па этыкецы ён трымаў галаву, рукі, меў "глыбакадумную" складачку між броваў... зноў жа, дырэктарскія акуляры... пазіцыя капрызных вуснаў давяршала партрэт засяроджанай "высокапастаўленай" асобы. Такіх людзей паважаць прывілі нам ад нараджэння, такі сацыяльны вобраз глядзеў на нас з кожнага партрэта ў газетах, дошак гонару, экрана тэлевізара, з трыбун пад час дэманстрацый. Ён расказваў мне, якой важнасці іспыты праводзяцца на іх "сакрэтным прадпрыемстве", канечне, ні горад, ні месца работы, па вядомых прычынах, удакладніць ён не меў права... Жонка яго — кропля да кроплі — Сафія Ратару, а тая, з якой разышліся, у пачатку гаворкі мела двух дзяцей, а пад канец "нараджала" аж пяцёра.

Рэзкія перапады настрою, хуткая змена тэм гаворкі, недасказанасць думак, а галоўнае, пафас і патэтыка — вось такім і павінен быць сапраўдны піянер-камсамолец-камуніст — “патрабавалі дыягназу”...

— Я говорю ей, говорю ей... дайте, говорю, мне... Ей говорю — дайте ситро... Ситро или пиво, спрашиваю... У неё спрашиваю, пиво или ситро...

Гэты чалавек нейкі час працаваў дзесьці на вёсцы міліцыянерам!

Зараз ён знаходзіцца ў пошуках... Дзіўна! Бачу яго ледзь не кожны дзень ідучым “на рыбу”. Неаднойчы пагражаў разабрацца з падзельнікам, за якога адбываў тэрмін пасля сумеснага крадзяжу. Знайшлі таго бедалагу з праламаным чэрапам. Напярэдадні, вечарам, іх бачылі разам... Да гэтай пары не могуць знайсці забойцу. Ідучы зімой з рыбалкі, часта “грэўся” ў мясцовага ліхвяра, той, здаючы пад працэнты і пашпарты бутэлькі з белай, нажыў, казалі... якая ўжо розніца, што там нажыў скупы ліхвяр — у сваёй пахілай хаціне нядаўна знайшлі і яго з праламаным чэрапам — той самы малаток. Зараз прыводзяць у аддзяленне непрытомных ад алкаголю і дэбільнасці жанчын на допыты, дарэмна падазраючы нявінных у запазычанасці нябожчыку — яны тыя пляшкі атрымлівалі зусім пад іншы працэнт...

ДИРЕКТОР па-ранейшаму ходзіць сярод нас і паблажліва ківае на паклоны... Такіх любяць і паважаюць…

Можа, хто папракне мяне за несумленнае маўчанне, за тое, што непаведаміла ў адпаведныя органы... Я маю шмат чаго ў апраўданне: баюся помсты, ды... апраўдвацца не збіраюся! Маўчу, бо прывыкла маўчаць. Маўчаць жа людзі, несучы з мясакамбіната каўбасу, масла з малаказавода, крадучы спірт, бензін, будматэрыялы, замест таго, каб змяніць законы, пры якіх красці не будзе патрэбы... Маўчаць, калі сусед збівае жонку, суседка — роднае дзіця. Маўчаць, слухаючы бязглуздзіцу з экранаў тэлевізара, маўчаць, калі дзяржава не плоціць за работу, пасылае маладзенькіх хлопцаў на смерць... Маўчаць, калі на нашай зямлі будуюць заводы, якія атручваюць паветра, калі ў нашых пушчах хаваюць чужыя ракеты... калі загадваюць: “МАЎЧАЦЬ!”...

Так што і я бязмоўная...

## *Інтэрв’ю*

Ён поўніўся нянавісцю да ўсяго свету. Нясцерпна раздражняла ўсё: і гэты

велізарны горад, прынізіўшы яго да нікчэмнай кузуркі, і танныя туфлі з

магазіна “Детский мир”, сашчэмленыя паверх, як “запрасілі кашы”, звычайнымі ў чатыры столкі чырвонымі ніткамі, і палец распухлы, азызлы (тады ж, зашываючы, і ўкалоў), што ныў, торгаў і раздражняў болып за ўсё. Цудоўная сонечная пагода жудасна раздражняла! Бо прымусіла пераапрануцца ў плашчык, куплены на кошт райана яшчэ ў восьмым класе, і, нават перашыўшы гузікі на самы край борціка, выглядаў Віталь у ім як напханае саломай пудзіла.

Злосць укаранялася ў кожную клетку яго кволага арганізма і высмоктвала сілы і спакой, пакідаючы ўзамен штосьці моцнае, халоднае, неабсяжнае і не падуласнае яго волі.

Перайдзі праз Маскоўскую вуліцу і на процілеглым баку ў падвале невыразнага пяціпавярховага будынка паясі з алюмініевых дэнцаў-талерак пакручанымі шчарбатымі відэльцамі. Невядома, мае той падвал якое дачыненне да шыльды над цэнтральнымі ўваходнымі дзвярамі — Міністэрства мяса-малочнага харчавання, а то і Віталь пры жаданні мог бы з понтам фарсануць, як гэта робяць многія з групы дзеля пыхі: “ништяк пахавали в миннстерской” альбо “в цэковке”. Гэтыя сталоўкі праз два прыпынкі, калі ехаць метро. Працуюць па сістэме рэстаранаў — з афіцыянтамі, сурвэткамі, сталовымі прыборамі. Віталь не ездзіў туды, заўсёды хадзіў у падвал і з пагардай пазіраў на тых, хто, як і ён, дзеля эканоміі запраўляўся ў гэтай мярзотні—грэбаваў імі таму, што яны былі такія ж самыя кузуркі, а яшчэ таму, што былі сведкамі яго беднасці.

Калі ісці праз вуліцу — рукой падаць, а па правілах пешаходаў—праз далёкі падземны пераход метраў семсот ісці. Раздражняе!

Раздражняў аўтобус і той дурань, які загарадзіў ім тратуар.

Тэлебачанне здымала нейкую маладзёжную перадачу. Вывернуўшы на пляцоўку змесціва свайго нутра — металічныя чорныя скрыні, чахлы і чамаданы з кабелем, шнурамі і правадамі, аўтобус напамінаў, што хутка зноў усё гэта праглыне.

Хлопцы і дзяўчаты, модныя, рухавыя, з прафесійным спрытам слугавалі гэтай апаратуры. І яны страшэнна, да нянавісці, раздражнялі Віталя. У той жа час пад лыжачкай уключыўся пыласос, ствараючы ўнутры яго вакуум — ці то цікаўнасць, ці тая самая злосць, ці яшчэ штосьці іншае падбухторвала яго прайсці бліжэй ля самых скрынек: “Вось я, ёсць”, “Ці такі, як усе?”, “Ці спытаеце ў мяне?” І сарамлівасць, і ўпэўненасць у тым, што не спыняць, а найгоры, што і пары слоў не звяжа ў адказ, калі спытаюць, перапляліся вяроўкай і цягнулі, як упартага барана, няведама куды...

Сінявокая бялявая дзяўчына спыняла прахожых і торкала да вуснаў мікрафон-эскімо. Пра што пыталася, з-за гулу машын чуваць не было. Людзі па-рознаму рэагавалі на яе зварот. Хто з задавальненнем, быццам усё жыццё

правёў перад кінакамерай, артыстычна прапаноўвалі ракурсы, вольна разважалі і тлумачылі штосьці сінявокай, некаторыя губляліся, іншыя толькі адмахваліся рукой ад яе—адчаіпіся. Сінявокая падбегла да Віталя.

— Якія станоўчыя рысы характару вы перанялі ад сваіх бацькоў? — павітаўшыся, спытала яна і паведаміла, ад якой праграмы працуе.

Віталь пастаяў хвілінку, засяроджана шукаючы нешта ў кішэні, скасавурыўся, падняў плечы і таропка збочыў з ходніка, напрасткі, па газоне даўся прэч і хутка схаваўся ў падземным пераходзе.

На месцы пыласоса запякло — разгаралася радасць: такі ж, як усе!

“А чаго ж уцёк?” — тут жа гэтая радасць была з’едзена чымсьці халодным-галодным, моцным і неабмежаваным...

“А што я ім скажу, пешчаным і бесклапотным? Як гадаваўся ў дзіцячым прытулку? Як да прытулку тыднямі галадаў і бадзяўся па заўголлях, а яшчэ раней круціцца ў памяці карцінка, як уподбег угаворваў бацьку не хадзіць тапіцца? Перад гэтым бацька “клаўся пад цягнік”, а яшчэ раней страшыў павесіцца на гарышчы. Як не начаваў дома, хаваючыся па хлявах ад п’янага, а потым цярпеў здзекі на ўроках: “Што, соня, падушку прынесці?” Як саромеўся крыклівай маці, калі яна выбягала паведаміць наваколлю пра новую бойку з мужам?.. Што саромеўся кашулі, пашытай са спісанай гасцінічнай — там працавала маці прыбіральшчыцай — шторыны? І што меў адзіную цацку — гумовага з далонь негрыцяня (ц. 10 к.) на ножцы? Ці сказаць пра сваю пажыццёвую “кар’еру” хабзайца- пэтэвушніка?”

Начамі ў сне халоднае, моцнае і безназоўнае брала Віталя за руку і вяло за сабою яго бязвольнае цела. На самым апопшім паверсе высокага дома стаяў кулямёт. Віталь залазіў у патаемную камору і “страляў, страляў, страляў...”. Па капелюшах рознага калібру, па пляшывых інтэлігентах, па тупарылых пузанах, хіпі, прыгожых дзяўчатах, для якіх ніколі не існаваў нават проста як чалавек, па жоўтаскурых цётках, што сядзелі на лавах у скверы і, трымаючы кашчава-кіпцюрыстымі пальцамі з чырвоным лакам на пазногцях дарагую цыгарэту, выпускалі праз гідліва складзеныя вусны выкарыстаную порцыю асалоды. Цэліў у нахабных гандлярак вулічных ларкоў, у наўючаных, як вярблюды, прыезджых, у самазадаволеных іншаземцаў. А апошнюю ленту пакідаў на “літаратарку”. “Сегодня вновь у Литвина двойка...” Колькі б ні паўтарала, а ён ніяк адразу не дацямліваў, пра каго гэта, бо прозвішча яго гучыць іначай...

Мара Віталя – стаць міліцыянтам. Каб на сцягне “гумовая дубня”, у кабуры такі “ўвесісты, гладзенькі пісталецік”, каб “формачка з пагонамі, фурашачка” прыгожанькія на ім і кожны перад гэтай амуніцыяй дрыжэў, каб хоць раз аддушы адпярыць “мамчынага сынка” з іх групы, што прыстроіўся да самай класнай дзяўчыны…

Рукі дранцвелі, стома напаўзала, і танюткае белае, як пергамент,

вуха-лапух складалася ўдвая паміж інтэрнацкай падушкай і яго галавою...

> Гутата-а-а, гутата-а-а. Дома нетуці
> ката-а-а. Пайшоў коцік на ўсю ноч Ад
> хлопчыка проч...

...Яшчэ доўга ўсхліпваў, як малы, енчыў і нешта мармытаў, а па бруднаватай шчацэ каціліся слязіны...

Халоднае моцнае і безназоўнае даўно непакоіла Віталя. Здаралася, ЯНО цалкам авалодвала ім, запаўняла злосцю ўсю яго істоту, штурхала на неабдуманыя, бязжаласныя ўчынкі, на грубасць і жорсткасць да ўсяго жывога... Такія хвіліны забіралі радасць і здароўе, пакідалі душу пустой. І вось ЯНО пачало ўкрадацца ўжо нават у Віталевы сны і там уладарыла, палохала, не давала адпачынку.

Віталь разумеў, як небяспечна пускаць у сэрца злосць, ён памятаў словы, якімі маці заўсёды супакойвала яго, калі прыбягаў да яе пакрыўджаны, з разбітым носам ці сіняком пад вокам:

— Выкінь злосць з сардэчка, сынок. Гэта не болька табе баліць, а крыўда і злосць у душу ўеліся, спакою не даюць. Даруй усім... Успомні, што і ты бываеш не заўсёды харошым. Вось табе твая злосць і вяртаецца. Дык не зарабляй жа большай... Выкінь злосць, і адразу як стане лёгка дыхаць, убачыш, як у вочках пасвятлее... — гаварыла маці і гладзіла, гладзіла яго ільняныя валосікі, а ад яе рукі, нібы ўсё “гора” ад галавы адвальвалася. Пра ўсё сумнае забываў Віталік і бег зноў на вуліцу гуляць з сябрамі.

І зараз, дарослы, Віталь, прачынаючыся сярод жудасных сноў, адчуваў, што тыя матчыны словы бароняць яго ад безназоўнага, халоднага, моцнага. Віталь выціраў потны твар аб прасціну і ўспамінаў, як матчына рука абводзіць над яго галавою крыжык — спакойна засынаў да раніцы.

Віталь змахнуў рукою смецце з пліты — вавёрка нацерушыла ці вецер гуляў. Гэты грудок зямлі быў дагледжаны, з уцэментаваным крыжам, а той,

што побач, свежанасыпаны, з драўляным крыжам.

“Гутата-а-а, дома нетуці ката-а-а...” — чулася матчына калыханка, а бацька строіў “казу” з двух пальцаў і лез у падпашкі — смяшыў.

“Пайшоў коцік на ўсю ноч ад хлопчыка проч”.

Віталь абцёр мокрую шчаку — жаласны ён, па маці. Тая, бывала, на ўсе пахаванні сходзіць, зрумзаецца.

— Чаго дарэмна сэрца рваць?! Усе будзем там, — папракаў яе бацька.

— Самі слёзы бягуць, нейкі жаль забірае. Не так жудасна людзям, не так дзіка, калі праводзіць нябожчыка народу збіраецца.

Лічы, адмалку без яе... ужо не дзіця, а ўсё адно – сіратліва перад велізарным светам.

Не прападзе — да любой справы здацен, куды хочаш прымуць: па бацьку ўдаўся. Калі работа і незнаёмая — не збаіцца, толькі пачні — сама да толку даходзіць.

Квітнеў бэз, і паветра было насычана яго мяккім водарам, ад гэтага лёгка і прыемна дыхалася. Сінь вясновага неба паланавала вочы, забіраючы тугу і змрочныя думкі, выратаваннем ад іх заставаўся выведзены матчынай рукою крыжык над яго галавой.

## *Паверылі... Даруй...*

### **Замест эпілога**

Усяночная пачынаецца, калі зірнуць на зямлю з неба, мноствам цёмных ланцужкоў-струменьчыкаў, якія імкнуцца да маленькай цэркаўкі з навакольнага абшару, блізкіх вёсачак, пасёлкаў і сядзіб.

Паверыў люд...

Першымі прыходзяць самыя далёкія, у каго няма болып надзейнага транспарту, чым свае збалелыя, маларухомыя ногі, што раптам увабралі ўсю моц, прызначаную на год ды ашчадна прыхаваную да Вялікага Свята — выстаяць ноч.

Як і ў штодзённым побыце, кожны жадае і тут заняць сваё месца: бліжэй да выхаду, каб пры патрэбе бліжэй было выбрацца, сесці, калі няма даверу нагам, на дзе-нідзе пастаўленыя лавы, хто праціскаецца да Царскіх Варот—чутно лепей, іншыя залазяць на вярхі, адкуль можна за ўсімі назіраць...

Вось і свае, мясцовыя, збіраюцца...

Ледзь упхнулася праз дзверы Валя, знайшла-ткі хвілінку адарвацца ад гаспадаркі—шэсць парсюкоў! Не жарт—сонца не бачыць. Перахрысцілася, няздольная перавесці дых, далёка не пайшла: доўга не вытрымае сваіх дзесяць пудоў, але, убачыўшы побач кучаравага дзецюка, артыстычна адсунулася, не жадаючы ў святым месцы стаяць побач з былым турэмшчыкам. Упэўнена пралезла наперад тутэйшая прыгажуня, пакінуўшы за сабою моцны пах дарагой парфумы і рух сярод гурта мужчын, якія адразу ўпёрлі вочы ў палымяны вадаспад расплеценых валасоў. Наперадкі бегла сюды Ася — рупная кабета, усюды лідэр: у парт’ячэйцы на рабоце, у перабудове, у чарзе па дэфіцыты і да Бога, каб лепшае месца заняць... Тут і Вася-бядак стрэсавае становішча ўраўнаважвае: прыйшлося патрэсці кішэню, каб адкупіцца ад ОРГАНАЎ. Жонка яго, Вольга, шчыра ўглядаецца

ў лік Маткі Боскай, па шчацэ коціцца срабрыстая стужачка — пэўна, успомніла, як міліцыянт “апароў” у шафе цэлы мех норкавых шкурак, “збеглых” са звераферы.

Цясней і цясней мусяць туліцца адзін да аднаго прыхаджане: большае тых, хто жадае далучыцца да Свята Уваскрэсення.

Точыцца да Варот Соня — “ні кроплі ні ў адным воку”. Відаць, што і напярэдадні не ўжывала — дай ёй, Божа, паратунку, вярні да дзяцей...

Асобна, збоку ганарліва стала Калістратаўна, мясцовага гандлю ўладар. Строга сабраныя вусны вызначаюць вялікую занятасць – ні хвілінкі вольнага часу: усё дзеля людскога дабрабыту! Яна прывезена службовай “Волгай” пасвянціць яйкі: выстойваць ноч няма часу. У маленькім кошычку, прывабна аформленым кветкамі, сярод яек адлюстроўвае прамяні царкоўнага асвятлення куфэрачак з залатымі пярсцёнкамі і завушніцамі — ва ўсім адчуваецца прафесійны густ.

Асабліва набіваецца люду перад світаннем.

Машын — як вокам акінуць!

Навакольная інтэлігенцыя: урачы, настаўнікі не паляніліся раней устаць з ложкаў, каб сесці за стол са свянцонай каўбаскай...

Пад раніцу зацінае дыхаць, ногі дранцвеюць, шыбае пот... І я ж тут — усяму і ўсім “суддзя”...

Многа нас! Усім месца хопіць...

Ударылі званы. Хрыстос уваскрэс!

Хрыстос уваскрэс!

Хрыстос уваскрэс!

Гасподзь магутны! Уладар адзіны! даруй нам грахі нашы, выведзі з багны, павярні на шляхі твае! Ратуй нас, Божа...

# *КАЗКІ-ПЕРАКАЗКІ*

## *Забытая казка*

*О, вялікая мудрасць народная*

У адным гаротным паселішчы даўно-падаўна завёўся дракон. Ён прыляцеў нібыта ахоўваць народ ад злачынцаў, за гэта яму павінны былі плаціць вялікую даніну, але хутка збяднелыя людцы не мелі чым

“аддзякаваць”. Сталі чутны думкі: “А ці патрэбна нам такая ахова?”

Тады дракон пачаў знішчаць народ. Перш па прынцыпе: “Хто не за мяне, той — супраць!” Калі амаль нікога не засталося, стаў ён забіраць кожнага, хто патрапляў на вока.

Аднекуль тут Бог паслаў няшчасным добрага малайца. Даў яму зброю цудадзейную, а галоўнае — храбрасці!

— Не хадзі на пагібель, дзетка, яна сама за табой не забавіцца, прыйдзе. Не ты першы ваяваць асмеліўся — колькі нашых сыноў палягло перад д’ябальскім адроддзем! — казалі яму людзі.

Не паслухаўся юнак, пайшоў у пячору драконаву.

А народ той хоць і ведаў — дарэмна, але ўзрадаваўся, абнадзеіўся: “А раптам пераможа?!”

Здаецца, і сонейка ўсміхнулася на небе, па якім вякамі толькі хмары блукалі.

Прыйшоў юнак у пячору, сабраўся з сілаю, папрасіў у Бога помачы, ажно раптам чуе:

— Не забівай мяне, добры маладзец, я — не дракон... Ты думаеш, сілы ў мяне нязгасныя? Не-е-е, стары я, хворы. Сілу людзі ад страху ўбачылі. Думаеш, бессмяротны я? Што ты! *Я той* юнак, які забіў дракона перад табой! Казаў і мне ён гэтыя словы, што зараз табе кажу, — не паслухаўся... Не трэба сілы вялікай ды зброі цудадзейнай, каб забіць мяне. Увесь сакрэт у тым, каб не пакваліцца на тое, чым у адначассе авалодаеш... Як толькі ты, Пераможца, зазірнеш у скарбніцу, як адкрыецца табе багацце незлічонае і пазнаеш ты смак улады — у той жа момант ператворышся сам у ДРАКОНА.

## *Казка пра дзіўны народ*

Усякіх людзей па свеце ёсць: адны — працавітыя, іншыя прыгажэй за ўсіх песні спяваюць, а некаму шчасце чужое спаць не дае.

Чула: некалі жыў дзіўны народ. Не было ў яго ворагаў. Хто б ні завітаў у хату, сябрам завуць. Не крыўдзіліся гаспадары на свавольствы гасцей. Што гаварыць! Было, нават іконы з вуглоў павыносяць, а назаўтра ж паклон ім даюць.

“Хай іх! — з усмешкай махалі рукамі людзі. — Не збяднеем, абы сонца ў небе свяціла ды паветрам лёгка дыхалася”.

Празналі аб такіх дзіваках суседзі ды пачалі пацiху зямлю з-пад іх адразаць.

“Нічога, усім месца хопіць”.

Не маглі надзівіцца чужакі, разбіраў іх драпежніцкі азарт. Адабралі хаты, скаціну, палеткі — мала! Паветра забрудзілі, сонца засланілі, а ўсё цярпення ў бяскрыўдных не канчаецца.

Раззлаваліся захопнікі, пачалі пытаць людзей, чаму такімі на свет нарадзіліся? Старых, малых на допыты забіраюць, а тыя і самі не ведаюць, не разумеюць — ЧАМУ?

Знайшоўся адзін: “Ды не трэба нам усё гэта! Забірайце палацы, стравы, адзенне — дробязь нікчэмная! Чым больш страціцца на зямлі, тым болып на небе знойдзецца... Пакіньце толькі нас у спакоі, душы нашы не мучайце...”

— Дык мы па гэта і прыйшлі!

## *Бацькаў запавет*

Яблык ад яблыні не далёка падае, ды не ў тым справа... Якія розныя на адным дрэве плады растуць! Адзін аж свеціцца, паказваючы сваю годнасць, іншы ў самым зародку зморшчыцца, счарвее. Так і ў сем’ях дзеткі...

Паміраў бацька, наказваў:

— Слухайцеся, дзеці, малодшага! І ты, Міхалка-дурань, і ты, Сцёпка-злодзей, ты, Мар’я-гаспадынька, ты, Ганна-весялуха, — усе яго слова трымайцеся!

— Як жа так?! Не справядліва! — абурыліся браты. — Ён меншы з нас, дый нічым, акрамя дудкі, не валодае!.. Хош бы каго са старэйшых?..

Непаспелі адказ атрымаць —памёр бацька. Так прыйшлося слухацца,

напавер.

Сям'я невялікая, ды ў кожнага свой спрыт. Жонак, мужоў папрыводзілі, гаспадарку наладзілі. Аруць, сеюць ды багацеюць! Міхал нават паразумнеў, Сцяпан красці кінуў.

Але "вужака" між імі таілася... Пачалі па кутах шапярыць:

— Не справядліва! Старэйшыя мы, работнікі ўмелыя, майстры слаўныя, а слухаць меншага вымушаны, які, акрамя дудкі, нічога ў руках не трымаў.

Выказалі брату злакрыўду — выгнаць не выгналі — сам з хаты пайшоў...

Навалілася на іх пагуба: сварацца, спрачаюцца. Рабіць работы некалі: чубы адзін аднаму рвуць, кулакі з пахмелля дыхтуюць. Цесна ў хаце стала, хоць і паменела іх. Гоняць брат брата з двара.

Збяднелі, жабракамі па свеце пайшлі, і нікому не прыйшло ў галаву, чаго бацька сказаць не паспеў...

"Не па ўзросце розум даецца, не араным вымяраецца".

# *ДАРОЖНЫЯ ГІСТОРЫІ*

## *Апошняя дарога к дому*

Пякельным летнім поўднем аўтобус вёз сваіх пасажыраў звычайным рэйсам Полацк — Глыбокае. Сонца смаліла ў вокны, вопратка прыліпала да цела, ногі зацякалі, а на пыльным твары прабіваўся пот. Яшчэ добра, што пасажыры былі толькі "сядзячыя" — будні ж дзень.

На першым месцы за шафёрам сядзела бабка, амаль што звычайная, якіх сустрэнеш — не здзівішся, толькі чамусьці яна выклікала болып ціхага жалю. На першы погляд, усё ў яе як у астатніх жанчын таго ж узросту і жыццёвых абставін. Адзенне жабрачкі: штапельная хусцінка, даўных гадоў спадніца, зрэбны світэр. Худыя вузлаватыя рукі, наіўны выгляд твару... вось! Ды найболып выклікала жаль бабчына наіўнасць. Відаць было, што яна не выязджала "ў свет", што жыла ў нейкай маленькай вёсачцы, бо даўно ўжо людзі ў гарадах, дый пасёлках не звяртаюцца адзін да аднаго з гэткай даверлівай адкрытасцю — як да знаёмых альбо родных. Цяпер рэдка хто наогул зачэпіць суседа, каб проста пагаварыць, без патрэбы. А бабка ціхенька, па-дзіцячаму, ні з кім, але ўвесь час размаўляла, надакучліва звярталася то да аднаго, то да другога пасажыра. Тыя адразу адварочваліся ці раўнадушна глядзелі паўз яе, старая не заўважала крыўды, пэўна, і не здагадвалася, чаму яны так робяць, бо, па яе жыццёвым вопыце, людзі не маглі за такое крыўдзіцца. І не было ў іх таксама прычын крыўдзіць яе.

— Піць крэпка захацелася, але не было вады, дык далі піва. Ап’янею, пакуль даеду, — хіхікнула яна і некалькі разоў зрабіла па глытку.

Дзве бутэлькі стаялі ля разутых ног. Тут жа, пад сядзеннем, стаялі нейкія клуначкі, вандзэлкі. Старая ўвесь час корпалася ў іх, і ўрэшце бутэлькі паваліліся, а піва расцяклося па гумовай падлозе. Яна збянтэжылася, стала, седзячы, выціраць яго газетаю. Каб у той час маўчала, было б падазрэнне—глынула лішку, але яна ўсё штосьці гаварыла, хоць ніхто яе не слухаў, і голас быў ясны і мяккі.

Падобна паводзяць сябе людзі, калі жадаюць за бясконцай гаворкай “ні аб чым” схаваць нешта ў сваёй душы, баючыся застацца сам-насам з думкамі.

Калі пад’язджалі да апошняга прыпынку, бабка папрасіла шафёра, каб той завёз яе ў Петрунова. Ён, па ўсім відаць, хлопец дабрадушны, некалькі разоў цярпліва адказаў, што гэта зусім не па яго маршруце.

— Сынок, дык казалі — недзе тут, ля Глыбокага.

— Што ты, бабка! У мяне — час, расклад, паліва казённае. *Я ж* пасажыраў вязу.

— Людзі не пакрыўдзяцца, а я ж заплачу табе...

Уразіла, што шафёр не траціў цярпення, жартаваў:

— Няхай сын раскашэліцца на таксі, пэўна ж, да ўнукаў спяшаешся?

Пашукай такога!

Мала што адказаў на кожнае пытанне, дык пачаў яшчэ распытваць пасажыраў:

— Дзе тое Петрунова? Ці далёка, ці па дарозе?

— Не, не па дарозе. У другі бок, за Глыбокім, хоць і недалёка.

Старая не здавалася, падміргнуўшы ўсім:

— Ну, дык, можа, падкінеш?

— А да каго ты гэдак едзеш?

— Дык там жа прыстарэлы дом. Запісалася я туды.

Нікроплі жалю не адлюстраваў яе па-дзіцячаму наіўны твар.

## *Білет*

Заўсёды, вяртаючыся з сесіі дамоў, пакідала грошы толькі на дарогу, бо хацелася прывезці больш радасных дробязей ці ласункаў. Калі апошні трояк ператвараўся ў білет, прарэзваўся здрадніцкі апетыт. А пончыкі, якія скрозь прадавалі, здаваліся духмяна-залацістай марай. У гэтым было нешта ганебнае і прыніжаючае, але й прымешвалася асалода перамогі над плоцццю.

Перацярпеўшы вакзальную мітусню, урэшце села ля акна. Летам дарога

цягніком не цяжкая. Мяняюцца пейзажы, сонца высока — можна моўчкі глядзець у акно і разважаць. Дый не такі дальні шлях той Мінск — Падсвілле.

Ужо заставалася некалькі прыпынкаў, як па вагоне пайшоў шорах: “Кантралёр!”

Людзі пачалі поркацца ў сумках, шукаць па кішэнях. Добра ведаючы, дзе мой білет, нервавацца не стала, ды — ці лёгка ж знайсці маленькі кавалачак кардону сярод мноства папер і дробязей?

— Не ведаю, дзе ён мог дзецца...

Погляд кантралёра быў не злосны, але са скептычнай усмешкай.

Падняла збялелы твар, было ўжо няёмка доўга корпацца ў сумцы.

— Ну што ж, дзяўчына, плаці.

— У мяне няма ні капейкі...

— Тады будзем афармляць паперу. Як прайду вагон, — зойдзеш у правадніцкі пакойчык.

Калі падала пашпарт, яго твар выяўляў не так казённы, як звычайны чалавечы інтарэс. Спачатку раскрыў той ліст, дзе прозвішча. Змераў адпаведнасць асобы, году нараджэння, здзіўлена прамовіў:

— Думаў, зусім дзяўчо.

Паволі перапісаўшы адрас, паглядзеў у лісток аб грамадзянскіх даведках. Яго бровы палезлі ўверх, калі ўбачыў запіс трох дзіцячых імёнаў:

— Вось дык зайчык! А дзе працуеш?

— У музычнай школе.

— Прыйдзецца начальству ліст адсылаць, — няўпэўнена сказаў ён.

Пахітаўшы галавой, вярнуў дакумент:

— Добра, ідзіце, калі ласка.

Сеўшы на месца, было сорамна мне павярнуць галаву, бо адусюль глядзелі цікаўныя вочы, быццам жадаючы разгадаць нейкую таямніцу.

Кальнула думка: “Я ж мыла рукі—ці не вываліўся ён з кішэні там?” Пабегла ў канец вагона. Так і ёсць, ляжыць на падлозе. Падняла, абцёрла насоўкай і, свецячыся радасцю, прынесла ў той самы пакойчык.

— Вось ён! — працягнула кантралёру білет.

І яго твар упрыгожыла ўсмешка.

— Не памыліўся... Даўно тут раблю. Па вачах людзей бачу. Добра, я і так не адаслаў бы ліст, але трэба ж было паглядзець, што за чалавек, можа, прайдзісветка якая? Не памыліўся...

Вярнуўшыся да свайго акна, адчула на душы лёгкасць і ўтульнасць. Захацелася скруціцца клубочкам, як малому дзіцяці, і падрамаць. Добры

чалавек, думалася, не абразіў, не чапляўся і не раўнадушны.

Але людзі заварушыліся, цягнік прыпыніўся, трэба было выходзіць.

# *Памылка*

Не трэба быць вялікім псіхолагам: пара на пероне — не муж з жонкай (у такім узросце мала каму пашчасціць хоць знешне захаваць такую пяшчоту ў адносінах) і не палюбоўнікі (вульгарна няслушны сучасны сэнс гэтага слова вытрымлівае толькі інтымнае значэнне). Тут — КАХАННЕ! Яно выдавала сябе з галавой...

Мнагалюдны перон быццам не існаваў для іх. І не было патрэбы ў гаворцы — цёплыя позіркі, поціск рукі, нахіленыя адна да адной галовы... І ўсё ж жанчыну штосьці трывожыла...

Яна вагалася ў неабходнасці зрабіць нейкі выбар, кусала адарваны ад ружы пялёстак... Да апошняга (ужо аб’явілі адпраўку) было не зразумела, хто каго праводзіць.

У тамбуры, між іншым, чуліся ціхі плач і ўсё больш настойлівае патрабаванне: “Пакіньце вагон!” Безбілетнага ўлавілі?

...Жанчына рашылася, яны селі ў першым да выхаду купэ. Вочы ў вочы, рука ў руцэ! Шчаслівыя...

Ці кожнаму Бог дарue такія пачуцці? Хутчэй, мы самі, на памылках вучоныя, не рупімся даверыцца: вымяраем, прыцэньваемся — скупімся пусціць у душу “чужога” — так і чарсцвеем, старымся.

Адпраўка затрымлівалася, вэрхалу ў тамбуры не было канца. Па ўлоўленых фразах высвятлялася: квіток куплены за паўцаны, а студэнцкага пасведчання няма. Пляцёнка ў руках дзяўчыны поўная канспектаў і падручнікаў, твар — шчырасці, вочы — слёз...

“Зараз жа пакіньце вагон!” — бязлітасная прынцыповасць пераважае здаровы розум.

Зацікаўленыя пасажыры не хавалі сваіх думак: хто спачуваў правадніцы, хто дзяўчыне, большасць іх проста злавала затрымка цягніка.

Мужчына, што сядзеў у першым купэ, таксама стаў прыслухоўвацца, нервова пагладаў на гадзіннік... Яго суседка ўважліва гладзела яму ў твар, нібы чагосьці чакала... Яна паднялася і выйшла з купэ, няўжо перадумала ехаць? Не, вярнулася, села...

Цягнік здрыгануўся, залязгатаў — рушылі.

Шыі пасажыраў павыцягваліся да тамбура — чым жа скончылася разборка?

Хутка па праходзе важна пранесла грудзі гордая выкананым абавязкам

правадніца. Праз хвіліну — чакала, пакуль спыхне-абтухне твар, — выйшла і парушальніца парадку, яна некага шукала...

Звярнулася да пары: “Гэта Вы! Дзякуй Вам, дзякуй!” Учапілася рукамі за локаць жанчыны: “Адразу ж вышлю грошы, скажыце адрас... Так спяшалася, мне неабходна быць дома... усё згубіла... я вышлю абавязкова... скажыце адрас, дзякуй вялікі!”

Мужчына нічога не разумеў, глядзеў разгублена на абедзвюх, а жанчына, саромячыся так не патрэбнай ёй зараз увагі, як мага цішэй супакойвала: “Ну, што Вы. Кожны мог апынуцца ў такім становішчы... Якія грошы... Не трэба... Я прашу Вас. Калі ласка...”

Дзяўчына нарэшце адышлася. Пасажыры супакоіліся, задаволеныя вычарпальнай інфармацыяй...

Мужчына не звадзіў вачэй з каханай:

— Якая ты ў мяне! — вымаўлялі бязгучна яго вусны. — Усе прайшлі міма... толькі ты адна... Ніхто не здагадаўся... Такія людзі навокал! Бяздушныя, жорсткія! Такі крык паднялі, а ніхто не здагадаўся дапамагчы... — Ён памкнуўся пацалаваць руку — жанчына адхіліла...

Нечакана на першым прыпынку яна выйшла, ледзь чутна кінуўшы: “Прабач...”

## *Філосаф з Мядзвёдак*

Сёння быў кепскі настрой — так, беспрычынна, з космасу прыйшло.

Хацелася схавацца ад людзей у куточак купэ і ўпівацца сваёй тугой-маркотай, ды дзе там! Некалькі разоў “абляцеўшы” вагон, пэўна, выбіраючы “аб’ект” па гусце, бо месца хапала скрозь, гэты занадга “паджылы” кавалер гопнуўся насупраць.

Не цярплю дарожных заляцанняў, штосьці ёсць у іх легкамысленае, хаця, наогул, не адмаўляюся — былі ў жыцці цікавыя сустрэчы, дзякуючы толькі ёй — дарозе, таму, калі побач садзіцца мужчына, нейкі час не пакідае напружанне, пакуль не ўпэўнішся, што той і не меў на ўвазе “клеіцца” ці адмовіўся ад гэтай думкі, сустрэўшы непрыветлівы погляд.

— Паненка, ці не ўзнагародзіце цікавай размовай?

У звароце, акрамя шчырасці, не было нічога.

Ён, безумоўна, быў селянін: характэрны загар, асаблівыя зморшчынкі, неадмытыя рукі ды і непрывычная шчырасць у голасе... Але вочы! Яны ніяк не адпавадалі асобе. Такая глыбіня, яснасць і спакой... Ну, чыста філосаф...

— Я ад прыроды філосаф.

Ледзь не чмыхнула знянацку—такое супадзенне маіх думак і яго слоў.

— Люблю паразважаць, ды рэдка знойдзеш субяседніка.
— Чаму? Вы ж, напэўна, не хутаранін?
— Не ў тым справа. Вось і Вы з усмешкай, з недаверам, а відно, што не рукамі корміцеся, а як той, хто не прывык “галавы ламаць” — зусім за неразумнага лічыць... Не бянтэжцеся, я і сам ведаю, што смешны: сумяшчаю не сумяшчальнае. Бог паджартаваў — акрамя філасофіі, ні на што не здольны. Ці мне ў Мядзвёдках трэба было нарадзіцца? Ні да адной сялянскай справы не зручны, ад усіх работ адлучаны. Ледзь з пастухоў не пагналі, гэта калі прыйшла ў галаву тэорыя аб хуткасці зроку...
— Чаго?
— Мыслі, зроку! Нідзе не чытаў пра гэта. Ёсць жа падлікі хугкасці гуку, святла, а зроку? Няма! А кожны ж у неба глядзіць, дзе зорка, святло якой стагоддзе ідзе да нас, адлюстроўваецца ў нашых вачах і думках у адзіны момант... Ой, паненка, ёсць над чым падумаць у гэтым свеце! Шмат цікавага і ў гэтай тэорыі... Пакуль разважаў, карова некуды сышла — усю ноч па лесе шукаў — зблудзіла, што ж я замест каровы свае філасофскія распрацоўкі вярну? Ну, тады і дасталося! І гультай, і дурань!
— Цікава, што ж Вы там распрацавалі? — зрабіла сур’ёзны вып'лад, утоіўшы ўсмешку.
— А хоць бы вось гэта: якраз з той тэорыі... Нарадзілася дзіця, глупства, што ў яго вачах усё перавернута дагары нагамі, гладзіць! Разумна пазірае, ды прама ў вочы! Не на вушы, не ў рот, адауль пяшчотныя гукі ліюцца, — у вочы! Хто кіруе гэтым тэлескопам? Што, як не думка, ёсць менавіта наша істота, наша “я”?
— Калі так, чаму Вы не вучыліся далей, не набылі сабе справы па душы і здольнасцях? Вы б тады ведалі, што не зоркі нашы вочы бачаць “так хутка”, а толькі святло ад іх, якое дайшло да нас праз доўгі час, зоркі, магчыма ўжо і няма на тым месцы.
— Нешта я не чуў, каб на экзаменах пра ўласную філасофію дапытваліся, а што датычыць ведаў існуючых філасофій... дык мы з сябрукамі ў нашай школе да шостага класа лічылі, што Зямля як блін. Чулі, што круглая, дык і блін жа круглы. Калі я сам дацяміў, што яе форма падобна кулі, рашыў на ўроку аб’явіць, настаўніца кажа: “Во, адкрыццё зрабіў!”
— Дык сама ж і вінавата, што не растлумачыла як след усяму класу.
— А які клас той — пяць чалавек. І што з настаўніцы патрабаваць — яна не мела адукацыі.
— Не можа быць!
— У нас па сённяшні дзень геаграфію і біялогію трудавік выкладае.
— Як так? Няўжо не хапае спецыялістаў?

— Хапае, ды хто ж паедзе ў Мядзвёдкі — у нас вясной і ўвосень адзіны від транспарту — гумовыя боты.

— Жывуць жа людзі ў вашай вёсцы, няхай бы вывучыліся.

— Таму і жывуць, што не вучоныя, каб вывучыліся — у сталіцы падмятаць двары засталіся б, абы дамоў не вяртацца. Вось яно, знішчэнне мяжы паміж вёскай і горадам. Што знішчаць? Няма той мяжы, ёсць крыж як сімвал сувязі духоўнага развіцця, што імкнецца ўвысь, і вечнай асновы жыцця, — сэнс і аснова...

(Я не зразумела, як стасуюцца яго словы з становішчам у вёсцы, але не стала перапытваць.)

Кажуць, нібы існуе паралельная цывілізацыя. Вынаходнікі аб'яўляюцца. А што яе шукаць? Усё наша грамадства ёсць шэраг паралельных цывілізацый. Ад першабытнага да найвышэйшага ўзроўню.

Каму — хвост ад селядца са сметніцы ды ватоўка пад ацяпляльнай батарэяй — за шчасце, а каму — уласны палац "не ў нос"... Вось вы на вакзал перапоўненым трамваем дабіраліся, час трацілі на здабытак білета, натоўп уціснуў вас у гэты вагон, а прадстаўніка іншай цывілізацыі за пару хвілін да адпраўкі падвезлі, ды не ў наш цягнік ён сеў... Што — ГЭТА? Ёсць куды больш супрацьлеглая паралель...

Каму ад нараджэння не выпадзе і вузкакалейкі з маленькім паўстаначкам, а ён глядзіць — быццам увесь свет бачыць і разумее, другому Бог дасць шырокі шлях, толькі кроч па ім — ён жа, акрамя свайго кута, не здолен далей зазірнуць. Вось тут з адной у другую ні якім чынам не трапіш, перавадзі стрэлкі, мяняй дарогі — побач блукай — а зразумець адно аднаго не здолець! Розны ўзровень палёту мыслі...

Гэта ж я тым тыднем на вяселлі быў... Венька наш—на ўвесь раён "музыка" —дарагі японскі апарат мае!

Падыппоў да яго, пытаюся: "А гэта кнопка навошта, а тая?" — "Не лезь, дзядзька, што ты тут поймеш!"

Яно так, не пайму, але і японцы тыя — не дурні, каб дзеля яго чатырох ладоў, што толькі здолеў вывучыць, гэдакую машыну выдумляць!

"Здаецца мне, Венька, што ты набыў касмічны карабель агарод паліваць?" — смяюся яму ў вочы... "Абы, — кажа, — "капуста" добрая расла!"

Няхай сабе і капуста, ды добра было б, каб такія прылады мог мець і таленавіты музыкант, не толькі той, у каго грошы ёсць.

Ён задумаўся...

— А сям'ю Вы маеце?

— Сын прыязджае. Жонкі няма... прыгожая жанчына была —дзе ёй у вёсцы ўседзець, развароту няма. На цаліну падалася — раней жа з калгаса інакш не вырваўся б. Так і не зразумела, што шчасце не абы-дзе, не навокал, а ў нас, у душы. Не вытрымала выпрабавання.

— Што Вы маеце на ўвазе?

— Жыццё. Краса даецца як талент — нясі, даруй людзям святло. Але яна і найгоршае выпрабаванне, а інакш дык і кара — куды больш шанцу памыліцца, не вытрымаць спакусы, зайздрасці...

— Вы ў крыўдзе на яе?

— Не. Кім чалавека лёс узнагародзіць, таго ён і варты.

— За нешта пакараў?

— Як паглядзець... Многія аб ёй і марыць баяліся, а мне дык жонкай была, сына нарадзіла, лепшыя гады ўпрыгожыла...

Ён забраў са століка сваё “кепі” і стаў развітвацца.

— Вось мне і пара, але да Мядзвёдак яшчэ пехатой і пехатой!

Гэта быў маленькі паўстаначак ля бярозавага гаю, з якім сталічны парк не йшоў ні ў якое параўнанне.

Ён азірнуўся — філосаф з Мядзвёдак, — трэба было перачакаць ход скорага дальняга следавання. А ў вокнах вагона-рэстарана мільгалі прадстаўнікі “паралельнай цывілізацыі”. Яны ніколі не выйдуць на гэтым паўстаначку — скоры тут нават не спыняецца. Ён для іх не існуе...

## *Зберажом!*

Навокал шмат прыгожых людзей, ды прыгледзьцеся, ці многія з іх надоўга ўтрымаюць ваша зачараванне? Адзін смаркане ў руку, другі пачне лузаць семкі, дастаючы іх з кішэні, а трэці, наогул, як адкрые рот што сказаць, дык здзівішся: як можа так форма не адпавядаць зместу?

А гэты чалавек быў прыгожы. Хоць яму, напэўна, ужо за шэсцьдзесят.

Далікатны погляд задумлівых вачэй, гладка выгаленыя шчокі. Ён адразу кідаўся ў вочы сярод прывакзальнай таўкатні, сярод мноства сонных, апухлых, грузных людзей... на фоне нашага анекдатычнага сервісу: па білеты чарга — дыхнуць нечым, паўсюль бруд, смецце, прысесці няма дзе, папіць нечага, зрабілася блага з сэрцам — нават валяр’янкі не купіш...

Гэты — як з экрана тэлевізара. Усё ў ім сведчыла аб высокім гусце і ведах этыкету, і не толькі па адзенні (хоць і па ім таксама), бо апрануты ён быўне ў

агульнаспажывецкі прыкід, дзе ніякай навізны не адшукаеш, а ў СВАЁ паліто, СВОЙ капялюш.

Не ў чысцюткім абутку быў сэнс яго прыгажосці. Уменне трымацца, глядзець, адказаць, нават проста павесці галавой — усё гаварыла за тое, што ён увесь час быў навідавоку, “на людзях”, але не з артыстаў, бо ў твары адсутнічала нервовасць, характэрная ім. Можа, ён займаў у жыцці вялікія пасады? Тады здзіўляла, што гэта не патушыла ў вачах жывога святла, не надало ім халоднага раўнадушша.

Пакуль назірала за чалавекам, ён ужо зайшоў у аўтобус, ціха павітаўся, запытаў дазволу сесці разам, і неяк між намі адразу завязалася гаворка. Слухаць яго было не менш прыемна, чым назіраць. Заварожвалі не толькі голас, прыгожая руская мова, а душэўнасць тону, быццам мы былі даўнімі знаёмымі.

Як высветлілася, сапраўды ён займаў высокія пасады. Мог паездзіць па свеце, пабачыць людзей.

— Адразу пасля вайны надоўга застаўся ў Нямеччыне — службовыя абавязкі.

— Во дзе людзі спрыт у працы маюць! — працягваў ён сваю гаворку. — А лад які! Анічога не прападзе. Зарэжуць парсюка — усё да справы: і скура, і поўсць, і косткі, нават брудная вада на ўдабрэнне агароду пойдзе. А ў нас? Нічога не беражом!

(Як да той гаворкі, за вокнамі праплывалі зацярушаныя снегам сады. Ледзь не кожнае дрэва “ўпрыгожвалі гірлянды” сасмяглых, падмарожаных яблыкаў. Сям-там, ля хлявоў “гаспадарскай рукой” на скорм свінням былі падгрэбены ў кучу ападкі.)

— А як нашы людзі ставяцца да набытага, праўдзіць пагаворка: “Не дай, Бог, свінні рогі, а мужыку — панства!” Калі й удасца што, дык будзем “сала есці, салам закусваць і яго ж пад ногі!”.

— У такіх атэлях пабываў і рэстаранах!.. Ці паверыце, яны ж не саромяцца захінуць у сурвэтку недаедзены кавалак. Няма таго, каб сталы ламіліся, а потым усё — вон... — працягваў ён, не дужа звяртаючы ўвагі на тое, ці падзяляю я яго думкі: занадга захапілі ўспаміны і разважанні...

— Вось нашы вяселлі — Божа! Божа! — хто перад кім, каб казырнуць, выбрыкнуць, пахваліцца. Забыліся на тое, што спаконвечна было, а толькі — повен стол і гарэлка — ракой.

Кожны раз ён заканчваў думку аднымі словамі: “Нічога не беражом!”

— Паглядзіце, калі ласка, тут я ваяваў. Знаёмыя мясціны. І брат мой тут жа партызаніў. У Мінску яго партрэт знаходзіцца ў музеі айчыннай вайны —

загінуў... Кожны ручай знаёмы, — не адрываючыся ад акна, гаварыў ён. — Вунь за тым ляском — возера, бегалі ў дзяцінстве купацца. За такую далеч! — сам з сабой разважаў сусед.

— Дык Вы адсюль родам? — запыталася я.

— А як жа? Да сястры еду, даўно не бачыліся.

— Але ж Вы размаўляеце на рускай мове...

— Дык усе ж гады, лічы, на ёй размаўляю, палова жыцця па чужбінах. Мусіў выконваць загад партыі і ўрада... — з непрыхаваным гонарам у голасе дадаў мой субяседнік. — А вось Вы як сюды трапілі?

— Чаму так пытаецеся? Я карэнная беларуска, дадому еду.

— Беларуска? Ніводнага слова... ніякага акцэнту... Нават мовы не зберaглі...

— Нібы Вы і не ведалі, як да нашай мовы ставіліся тая партыя і ўрад?

Гаворка прыпынілася. Толькі цяпер я заўважыла, як страшэнна змярцвела шыя: я ж увесь час сядзела, павярнуўшы да яго галаву.

Было няёмка абрываць такую доўгую размову раптам, але гаворка больш не клеілася. Добра, што Плешчаніцы паказаліся — суседу трэба было выходзіць. Мы развіталіся, шчыра падзякавалі за прыемнае суседства, пажадалі шчасця.

“Не можа быць, каб мы дарэмна сустрэліся з гэтым чалавекам, —разважала я, застаўшыся адна. — Не можа быць! Жыццё — такая геніяльная сістэма, што, сутыкнуўшы на імгненне чалавечыя лёс да лёсу, нешта павінна было падказаць. Штосьці дадзена нам зразумець у гэтай кароткай сустрэчы...”

Я бегла прыгадвала нашу размову, але натыкалася на яе рэфрэн: “Нічога не беражом!” Толькі ў яго гэта гучала так: “Ничего не можем уберечь!”

## *Сіндром адзінокай жанчыны*

Дрымота паступова авалодвала кожнай клеткай маёй істоты, не хапала жадання весці з ёй барацьбу. Негледна спяць людзі ў транспарце, так і я боўтала раз-пораз галавой, фіксуючы яе ў той момант, калі суседка раздражнёна ўтаймоўвала маленькую дачушку:

— Наста, супакойся!

Сталы чалавек паспрабуй выседзець доўгі час нерухома, а для дзіцяці гэта проста пакаранне! Дзяўчынка ва ўсім шукала забавы.

— Наста, цішэй! — будзіў мяне не дзіцячы голас...

На прыпынках цягніка холадам абдавала ногі і на імгненне дрымота

адступала, пасля ж, як новыя пасажыры пасядуць на свабодныя месцы, я зноў нырала ў плынь непрытомнасці.

У Маладзечне людзей найшло зашмат, і мы мусілі пацясніцца.

Хлопцы-дзецюкі, шумныя, рухавыя, абселі наш столік — нехаця расплюшчыла я вочы і толькі зараз заўважыла, якая маладзенькая мая суседка, па голасе здавалася інакш: зайздросна пышнавалосая, мілатварая, толькі ўсё добрае ўражанне крыху псавалі не адпаведныя ўзросту маршчынкі.

Студенты разгадвалі красворд, бесцырымонна звяртаючыся да ўсіх па дапамогу. Суседцы не заўсёды ўдавалася падказаць, але гатоўнасць была заўсёдная. Яна смяялася з няўдалых знаходак, какетліва адкідвала пасмачку з ілба, жартавала непазнавальным голасам.

Наста таксама ажывілася, адчула свабоду: няўмела торкалася ў гаворку, дражніла хлопцаў, сумысна дапякала маці — “зацягнула нуду”:

— Намалю-ю-юй, намалюй што-небудзь!

І жанчына лёгка малявала зайчыкаў, коцікаў, прынцэс...

Насце надакучыла выпрабоўваць яе настрой, і дзяўчына, падпершы кулачком галоўку, паглядала змірана і задаволена то на вясёлую маці, то на гаманкіх суседзяў — над паружавелымі шчочкамі зыркалі хітранькія вачаняты: цікава ж назіраць, слухаць — не сумна, спакойна.

Студэнты ехалі недалёка, праз нейкую гадзіну зрабілася зноў ціха.

Жанчына павярнулася да акна. Наста трохі пасядзела нерухома і зноў пачала дурэць, уважліва ўглядаючыся ў мамін твар — шукала былой спагады. Патузала за рукаў — тая не пачула.

— Глу-ха-та!—яшчэ гарэзліва абурылася дзяўчынка і адразу ж закапрызіла: — Намалюй Каспера, вось тут!

— Адчапіся, Наста, бачыш — кепскі настрой.

Бруднае люстэрка ваконнага шкла не здолела ўтаіць шчымлівую самоту яе вачэй.

Наста надзьмулася, хацела пакрыўдзіцца, але маці ашчапіла яе, прытуліла да сябе...

Хутка дрымота апанавала нашае купэ.

## *“Лёгкая ” жанчына*

Пазнаёмілася з Мілай выпадкова, у замежнай турпаездцы, не сучаснай мяшочна-камерцыйная, а колішняй, якую можна было вымергаваць са

сціплага заробку і тыдзень-другі адчуваць сябе казачна шчаслівым чалавекам.

Такую нельга было не прыкмеціць! (Заўсёды любуюся красунямі. Мужчынская прыгажосць увасабляецца, для мяне, толькі з сэнсавай напоўненасцю, здольнасцю трымаць сябе ў руках. Жаночая прыгажосць неабавязкова патрабуе абцяжаранасці сэнсам, мэтамі, ідаямі — яна здольна існаваць толькі асабістай гармоніяй, як прыгажосць сама *ў* сабе, нібы мастацкі твор, якому не заўсёды стае "сэнсавага апраўдання" — у ім божая іскра: альбо яна ёсць, альбо яе няма, колькі б ні тужыўся ўкладаць значнасці.)

Міла апраўдвала сваё імя: "...так усё ў ёй гожа, вабна, міла". І нічога лішняга, і ніводнай фальшывай рысачкі, ніякага падробку — трэба ж было такой нарадзіцца — зірнеш, і сэрца цеплынёй займаецца!

Я, жартам, сама-сабой, называла Мілу "датэктарам зла" — па ёй можна было вымяраць чалавека на наяўнасць адмоўных думак, бо адразу кідаліся ў вочы нешчаслівыя: каго грызе зайздрасць, той ніколі не зведае шчасця, бо заўсёды знойдзецца прычыша зайздросціць. "Не тое ім гора, што свая кішэня пустая, а тое, што сусед багаты. Няма бяды, што жонка благая, але чаму ж суседу так падшанцавала? Нічога, што свой муж б'е, ды вось гора — іншыя жанчыны не бітыя!"

Хто хутчэй адварочваўся з непрыхаванай непрыязнасцю ад Мілы, атрымаў у маіх думках ярлык носьбіта адмоўнасці. Я чытала ў іх вачах: "Як Бог няроўна дзеліць!"

Мілу паглядамі залічылі ў "лёгкія" жанчыны: каля яе "гужам" віліся мужчыны на любы выбар: ад маладых да сівавалосых, ад прастачкоў да "саноўных асоб" — усе яны праглі той цеплыні, якая патыхала ад Мілы нават на адлегласці.

У яе сапраўды быў лёгкі характар — не зласлівая, не дапякала настаўленнямі, людзей не цуралася і ў сябры не набівалася... Лёгка прымала ўвагу ўхажораў, лёгка адмаўляла ім у болып сур'ёзных адносінах, адчувала сябе, нібы рыба ў вадзе, там, дзе астатнія "канфузіліся".

Амаль два тыдні "плячо ў плячо" зблізілі нас, яна першая спытала мяне "за жнзнь". Мы былі аднаго ўзросту, яшчэ маладога, ды патрабавальнага ўжо. *Я* пералічыла свае "заслугі" — што ўдалося, чаго не паспела. Як раптам на няўлоўны момант вочы яе ператварыліся ў чорныя дзіры касмічнай тугі. Хутчэй адчула, чым убачыла, я такі зрух яе душы, нават не адразу здагадалася, якія словы адазваліся ў ёй балючай глыбінёй... *Я* пахвалялася

самым вялікім сваім багаццем — дзецьмі...

Пасля маўчання Міла зноў загаварыла першай:

— Гэта такая выдумка жанчын, што нас выбіраюць па прыгажосці! Прыгожымі любуюцца, а любяць... кожны і кожнага па-рознаму.

Ты ніколі не думала пра тое, што пару сабе людзі выбіраюць, як тавар у краме? Усіх прываблівае лепшы, каштоўнейшы, больш дасканалы, а набыць пакупнік здолен толькі тое, што яму па кішэні. Так, здавалася б, і павінна быць, інакш многія аказаліся б незадаволенымі. Аднак, мне здаецца, быць шчаслівым тым, што "паціхеньку прыдбаў" — страшная рэч. Урэшце чалавек прывыкае не жадаць, не марыць. Прывыкае задавальняцца толькі тым, што мае, і любіць толькі тое, што "дазволена". Калі падумаць пра гэта не абстрактна, а на прыкладах сяброў і знаёмых, са свайго жыцця — зразумеем, як страшна баяцца марыць, баяцца дасягнуць, баяцца любіць, баяцца... жыць.

Нам звычней жыць па кімсьці адбітых узорах і правілах, нават калі гэтыя правілы памылковыя, прыдуманыя... "Калі багаты, то абавязкова злодзей, калі прыгожая, то прастытутка. Як начальнік, то дрэнны чалавек!" (Сама ведаю, што часцей так і бывае, толькі нельга жыццё прымаць як дадзены раз і назаўсёды стэрэатып, дзе для тваёй галавы і патрэбы не знойдзецца...)

Школу заканчвала — мае аднакласнікі прафесіі і спецыяльнасці выбралі "па сабе": каб выгадней, дзе больш плоцяць, дзе лягчэй вучыцца, ды не надта цяжка працаваць... А я ў прэстыжны вуз паступіла, таму што марыла аб навуковай рабоце ў галіне медыцыны. Сваімі сіламі паступіла — я ж дзесяць гадоў вучылася шчыра і самаадданa, аднак адразу адчула на сабе папрокліўыя ўхмылкі аднакласнікаў і іх бацькоў: "Чаму ж ЯНА, ды каб не паступіла! Гэта нашы, бедненькія, вымушаны ісці працаваць, а ёй бацька заўсёды месца купіць". І не дакрычышся, не датлумачышся, што я да паўночы над падручнікамі "сядзела" ў той час, як мае сябры на танцы бегалі, на лаўках у скверы магнітафоны слухалі. *Я* аказалася па-за межамі маральнага "дазволу" агульнапрынятых правілаў: мае бацькі даволі вядомыя ў навуцы, выбітныя людзі, толькі сям'я ў нас вельмі сціплая, і выхоўвалі нас, дзяцей, на самых светлых, чыстых і дабрачынных ідэях...

Бачна было, што ў Мілы назбіралася што сказаць, і яна, напэўна, не адкрывалася раней, таму і думкі не адразу "афармляліся" ў словы і пачала занадга здалёк, ды і баялася, ці зразумею яе, ці не прыму ўсё літаральна і "прыватна", хаця я адразу зразумела, што боль яе зусім не ў гэтых дробязных крыўдах "на не справядлівае да яе жыццё".

— *Я* закахалася ў аднаго хлопца. Ён з вёскі, такі своеасаблівы, ведаеш, крыху хітранькі, нават куркуляваты, занадта сціплы, занадга маўклівы — ну як для іншых, дык проста ніякі, а для мяне—лепшых не бывае! Было штосьці ў ім такое сапраўднае, глыбока інтэлігентнае -— не паказное, як у многіх —

“на калена прыпадзе, ружамі дарогу высцеле”, а на справе — жлоб жлабом! Паказуха адна. Ён зусім іншы: ніколі нічога напаказ не “выдаваў”, затое ў вачах — такое роднае штосьці!

*Я* ўпэўнена была, пгго і ён мяне таксама любіць... У пачуццях я памыліцца не магла, бо да той пары не раз магла “спазнаць”, што ёсць мужчынскае каханне: глядзяць на цябе, як на ляльку, і “да лямпачкі” ім, што ў тваёй душы, што ў думках. Бачыць ляльку і жадае пагуляць з ёй. Не хачу пра гэта! Ён жа...

Сама падышла да яго, першая, бо ён па сваёй сціпласці так і не рашыўся б. Пачуцці нашы разгарэліся на пачатку трэцяга курса. *Я* знаю, што такое сапраўднае каханне, тады зразумела... Вось ты змагла б зараз адказаць коратка і проста, што гэта за пачуццё? Не? А я магу і ніколі не адкажу інакш...

Мы паехалі за горад. Была самая, што ні на ёсць, залатая восень, цёплая, мяккая, з павуцінкамі, з дурманам верасу і багуну, са слодыччу пераспелых ягад, з напятай звечарэлай цішшу. Мы хадзілі ў абдымку не ў сілах разняць рук... Тады я зразумела, што нічога ў свеце не жадаю так, як жадаю дзіця ад гэтага чалавека. Вось гэта і ёсць сапраўднае каханне, калі ты жадаеш дзіця менавіта ад ЯГО...

Не ведаю, каб склалася ў нас шчасліва, можа, і я змагла б так раўнадушна вымаўляць — “заниматься любовью”, — а зараз дык гэтыя словы абразай здаюцца мне для такога высокага пачуцця.

Мы ні хвілінкі не маглі адзін без аднаго. Як апантаныя беглі пасля заняткаў у парк, каб пабыць разам. На імгненне не магла адключыцца ад думак пра яго — ён, і толькі ён, і ўдзень, і ўноч, і ўва сне... Я зацяжарала. Здарылася тое пад канец чацвёртага курса. Тут са мною стала адбывацца штосьці не зразумелае, можа, з-за гордасці, з-за глупства я палічыла, што выходзіць замуж таму, што “так здарылася”, атрымаць мужа “па прымусу” — гэта так непрыстойна, такі падман, хітрасць у адносінах да яго! Якая дурніца! Ні кроплі мудрасці не знайшлося—не сказала яму пра цяжарнасць... Затое рашылася “жартам” запытацца — ці хацеў бы ён мець такую жонку, як я... Што пачула... умомант ацверазіла маю галаву!

Ён сказаў, што любіць, што я яго мара, нязбыўная казка, яго боль на ўсё жыццё... Толькі жонак выбіраць трэба “па сабе”...

“Кім буду я пры табе? — пытаўся ён. — Твае бацькі багатыя, вядомыя людзі, а я — “папіхайлам” пры вас усё жыццё? Ты гараджанка, я — вясковец. Тут, у горадзе, я так і застануся апошнім, нікім, а на вёсцы буду першым, адзіным спецыялістам. Ты не для мяне... Ты каралева! А я звычайны чалавек. Мне нельга і думаць было пра цябе, пра такую таленавітую, разумную, прыгожую... Ды я і не падышоў бы да цябе ніколі, каб не ты сама... У цябе такіх, як я, могуць быць мільёны... А яна прападзе там без мяне... Так, мяне чакае дзяўчына. Яна такая маленькая, нязграбная...

Куды ёй да цябе! Мне шкада яе...”

Мы болып не сустракаліся. Ён таксама горды чалавек: стаў стрыманым, як толькі адчуў перамены ўва мне.

Напэўна, ты здагадалася, так, я зрабіла страшнае, непапраўнае.

Вось калі жанчына перастае быць дзіцём... Не тады, як аддаецца каханаму, не тады, як зацяжарыць, выношвае, народзіць, нават не тады, калі стане мацерай... я была бязгрэшным чалавекам да самага таго жудаснага дня, проста шчаслівым дзіцём. Шчасце жыло ўва мне і пасля яго страшных слоў... А як злезла з халодных жалезных “казлоў” — зразумела — шчалівай ужо быць нельга. Нельга быць вясёлай, бесклапотна смяяцца нельга, нельга радавацца раніцы...

Бачыла яго пасля заканчэння інстытута. Мы збіраліся на дзесяцігоддзе выпуску. Ён па-ранейшаму глядзеў на мяне як на абраз, але... вярнуўся к сабе дамоў, прайшоўся, напэўна, па сваёй спраўнай гаспадарцы, палюбаваўся на дагледжаны гародчык, зірнуў на мілых дзяцей, жонку... і... супакоіўся.

*Я* зрабіла недаравальную памылку... шкадую. Нельга было ТАКОЕ вырашаць адной, без яго. Павінна была сказаць пра цяжарнасць. Затое і пакарана жыццём — не магу мець дзіця.

А я згодна была б ехаць у вёску, даіць карову, выносіць на грады гной... толькі б з ім разам... напэўна, ды хутчэй за ўсё, я не стала б сабою, але і гэтым ахвяравала б...

Ты не можаш ведаць... Дзякуючы маім навуковым даследаванням знайшлі прэпарат, які дапамагае выратаваць немаўлят ад вельмі складанага захворвання ўжо ў першыя дні жыцця. Дык, можа, гэта лёсам было наканавана — мая памылка, мой часовы затлум... каб іншых жанчын зрабіць шчаслівейшымі... я гэтым супакойваюся...

Мне вось што крыўдна. Здагадваюся, што яго тыя словы пра каханне, пра мару, казку, каралеву... таксама не болып чым кароткачасовы затлум, а любіў ён і тады ўжо сваю “шэрую мыппку”. Бо і каханне, як талент, як розум, як мроі... даецца з разлікам на адпаведны размах крылаў, на здольнасць чалавека лятаць... так што не за прыгажосць любяць, а за роўнасць сабе.

Міла гаварыла, а твар яе быў, як звычайна, вясёлы, вочы іскрыліся, голас — смяшлівы...

Якой жа глыбіні быў той боль, што, нават адважыўшыся адкрыцца, яна

так і не адважылася зноў перажыць усё... на ёй была маска “лёгкай” жанчыны.

# *МАНАЛОГІ*

## *Дай, браток, закурыць*

— Дзякуй Богу, прадаў хату...

Як уздумаю, колькі нажыляўся з ёй — гара з плеч!

Што ты, зіма неўзабаве — печы патрэскаліся, абсыпаліся, які год да поўдня дым глытаеш, пакуль выпаліш... Страха — ліло руччом! І о ж дурніло-о! Было наскладана грошай якраз на шыфер. Дык не-е-е! Няхай паляжаць, дарагавата... Тфу! Цяпер ідзі, купі за іх паўлітра!

Нічога, маладыя гаспадары паправяць, агледзяць. Добра, пгго прадаў. Як толькі купілі людцы?

Не, хата неблагая! Не пакрыўдзяцца. Сам думаў, дзе вокны зрабіць, каб усе на сонца: прачнешся — ясна, увесь дзень светла і нанач да сну лепш адысці.

Адзін дом ставіў: старую бацькаву перасыпаў, але трысцен — мой; столь, вокны, падлога — усё маё, свежае.

І як з месцам удалося! Вада ў студні—круглы год, а ў падполе — няма. Той-сёй з гэтым гаруе: вясной ваду з пограба сіляюць вёдрамі — бульбу гнілую выцягваюць, а ў мяне суха. Угадаў...

Сад, канечне, састрэў. Вішанькі памяняць трэба было б. Э-э, не паспеў яблыні прышчапіць маладыя — было б людзям на радасць. Але, здаецца, новы гаспадар да гэтага не цягнецца.
Сабраўся прыбудову рабіць — выкарчуе мае грушы, а я ж іх здалёк вёз, ледзь прыжыліся... Ды яму відней.

І яшчэ. Якраз у гэту ж хату Таццяну сваю прывёў. Не скажу, што жылі душа ў душу — усяк было. Толькі азірнешся — няма раднейшага чалавека... Не было... Адправіў яе. З гэтай хаты.

Не ведаю, можа, і пашанцавала ёй, што не дажыла да сённяшняга дня, але як ні цяжка, а жыць трэба.

## *Што ж ты зробіш?*

— Я гэтых катоў не пераварваю! Здаецца б, за ногі — ды аб вугол! А што ж ты зробіш? Гадую...

Была кошка прыблудная, панаводзіла кацянят — дзікія, не ласцяцца, а ў хату лезуць, пішчаць. Ды такія здураныя — каб мяса! Ні малака, ні бульбы не будуць есці — толькі мяса! А дзе ж яго ўзяць?

Катоў завялося чорт ведае якога памёту: і леташнія, і восеньскія — а каб іх халера! Мышы вуглы патачылі, затое на кожным ложку па тры каты...

Калі тут узяла, паскладала ўсіх у мех ды пад мясакамбінат, кажуць, там не прападуць, нешта ж схопяць, абрэзак які. Вытрасла за агароджу — меха шкада, новы яшчэ, а што ж ты зробіш...

Пакуль дацягнулася дамоў — ах, каб вас парвала, нягоднікі! Сядзяць у радок пад дзвярамі, чакаюць. Яны сваімі сцежкамі перш за мяне дабеглі.

Так і засталіся, а што ж ты зробіш?

## *Паслухай, Чэсік...*

— *Я* — малец біты “от” і “до”! Нічым мяне ўжо не застрашыш. Так ім і разануў на адыход: “Страляць вас усіх трэба! Развалілі дзяржаву, куды ні сунься — усюды мафія...”

Адразу ж казаў ім:

— Стаўця мне дыягназ — язва!

А яны: “Панкрэатыт, гастрыт...”, хрэніт! Мяне дурнем рабіць! *Я* сам каму хочаш дыягназ пастаўлю, як і любога дыпламаванага сапыля — на месца!

Паслухай, Чэсік, мне — як вучоны — так — бар-р-ран! Народ, во хто разумны. Яны думалі, народ абманяць... А мы ім дулю пад нос суганулі—цяпер свій малец наверсе, о! Адразу знайшліся дзяшовыя папіросы.

Страляць, страляць усіх!

Распусцілі інтэліге-е-е-нцыю!

Была строгасць, як цяпер помню, прыйшоў са школы, а ў нас на кватэры энкавэдыст быў пастаўлены, і кажу:

— Наша тэхніка горш за нямецкую...

А ён за аловак ды на паперку.

— Хто табе сказаў? — пытаецца.

— Настаўніца.

Маці мне з-за печы мірганула... ледзь выкруціліся — дзісціпліна!
Цяпер плявузгаюць што хочаш, проці самага вярхоўнага ў газетах пішуць.
Нада, нада Сталін!
Нас жа раней усе баяліся. Ого! Перад Саюзам — шапкі далоў!

## *Як жывеш, бабулечка?*

— Добра, саўсём добра! Во на днях дзешавога віна выкінулі — узяла. Аж шэсць бутэлек узяла! Праўда, не ведаю, што з рабрыной будзе — пэўна, зламалі.
Хадзіць — пакуль чакаеш — цярпіма, хош я і ў гумовіках, але мароз не вялікі — патупаю, патупаю — і нічога, адойдуць ногі, а вось як адкрыоцць у восем, ды як рынуцца людзі ў дзверы — тады гора!
Мяне ў гэты раз так да вушака прыціснулі — ні войкнуць! Зламалі рабрыну, точна! Так баліць — дыхаць зацінае. Але ж узяла!
Я хош і старая, ды пашукай "круцейшай" — ого!
На адну бутэльку прас выменяла, праўда, ручка адбітая, але мне мальцы тут жа і заматалі ізалентай — прасуіць. На дзве бутэлькі слоічак мёду прынеслі — гэта ж ад жонак-дзяцей крадуць, алкаголікі... Чаго хочаш намяняеш. Адзін раз пярсцёнак залаты давалі, але навошта ён мне здаўся? Гадзіннік трэба, на яго бутэльку трымаю...
Ого! Як я за гэтае віно жыву — прапала б, каб не яно. Хош рэбры павыламваюць, затое — не гарую, усё ў мяне ёсць: бульбы восенню пананашвалі, цукру...
Абы віно было, дык жыць можна.

# *ДУМКІ*

*

ДОМ — гэта тая частка прасторы, за якую здольна балець і адказваць твая душа. У каго — за свой куток, вёску... У каго — за дзяржаву, планету, а ў каго — за СУСВЕТ... Толькі, на жаль, большасць з нас зусім бяздомныя...

*

Не магу паважаць палітыка, які не разумее глыбінь свайго народа, як не магу зразумець святара, які не паважае чужой веры.

*

Каб ісці, вядома, трэба зрабіць першы крок, але ці не лепш раней падумаць: КУДЫ? ЧАГО?

*

Знішчаючы няўвагай законы, мы рызыкуем не заўважыць той, які загадае знішчыць нас.

*

Як нам прагнецца ўсяго дармовага і таннага, на жаль, не толькі ў базарны дзень...

*

У картавага караля ўся світа з прыкусанымі языкамі.

*

Каму не ў гонар і каралеўская карона, а каму за чэсць і чаравік каралю паднесці.

*

Няма розніцы, на якой мове размаўляюць, абы людзі разумелі адзін аднаго. Сябе ж зразумець магчыма толькі на роднай мове.

*

Памылкова думаць, пгго за кратамі турмаў сканцэнтравана чалавечае зло — там сканцэнтравана людское няшчасце. Сапраўдаыя злачынцы чалавецтва рэдка трапляюць за краты...

*

Сярод маіх аднагодкаў, каму прыйшлося прайсці пекла вайны, на жаль, сустракала людзей, якія з грэблівай высакамернасцю, а то і з нянавісцю ставяцца да тых, хто не ведае “сапраўднага” жыцця. Няўцям воінам, што іх трагічны вопыт забойстваў, гвалту, крыві... — паталагічны вопыт. Далёка не кожны, зазірнуўшы з такога “нізу” на свет, здолее паглядзець на свет зверху...

*

Ці ёсць што больш нуднае, чым празмернасць цудаў?

*

Шмат людзей без галавы, без сэрца, без сумлення... Без чаго толькі не прызвычаіўся існаваць чалавек!

*

Каб заўсёды пачувацца “выбітной асобай” без турбот і намаганняў, іншыя знайшлі надзейны спосаб самазадавальнення: падбіраюць у сваё асяроддзе сяброў і знаёмых толькі са “свінства”, параўноўваючыся потым з імі, маюць выдатны вынік!

*

Ёсць звычайныя шэрыя людзі, а ёсць незвычайна шэрыя людзі!

*

Тое, што ў семнаццаць ад наіўнасці, у трыццаць ад глупства.

*

Праз палову веку ў Вас аслабеў зрок — зрабіце рэвізію, ці ўсё бачылі, ці не прапусцілі галоўнае? У Вас нешта са слыхам — можа, ён і не патрэбен: чулі толькі сябе? Баляць ногі — а ці туды хадзілі, рукі — а ці тое рабілі? З нервамі не лады — а не папсавалі іх іншым? Калі ж са здароўем у Вас—поўны парадак! — Вам ужо нічога не дапаможа...

*

Не прапануйце брыльянт таму, хто здавольваецца бутэлечным шклом.

*

Ніякая філасофія не пасягае на ісціну, а існуе толькі дзеля таго, каб іншыя не прысвоілі чужыя думкі, шукаючы свае.

*

Думка пераходзіць у перакананне пасля згоды сэрца з розумам.

*

У прароцтве шмат юродства, ды не кожны дурань — прарок...

*

Апроч здольнасці нараджацца ў словах і вобразах, думкам уласціва прасіцца на паперу.

*

Паветра насычана думкамі, якія нахабна лезуць у галаву. Прад такой

небяспекай трэба ставіць заслону: карыснае дзе папала не бадзяецца. Сапраўдныя мыслі патрабуюць доўгага выношвання і нараджэння.

*

Хто жадае стаць філосафам, павінен увесь час думаць, хто ж ім нарадзіўся — давай галаве адпачыць!

*

Веліч асобных зорак, якая здаецца відавочнай у небе сярод мірыяд ледзь прыкметных, зусім не адпавядае іх сапраўдным памерам пры параўнанні, а таксама ж і людзі... Як, бывае, ззяюць імёны!

*

Не дзеляцца людзі на харошых і дрэнных, дзеляцца на розных. Але гэта пярэчыць біблії – будзьце гарачымі, альбо халоднымі, не шукайце "паміж…"

*

Маюць розум тыя, хто старанна ўладкоўвае свой побыт, яны добра ведаюць: жыццё даецца адзін раз. Каму ж карціць адшукаць сэнс быцця, вядома пра сваю бессмяротнасць...

*

Ёсць адзінае ўратаванне ад усіх і ад усяго, адзінае ўва ўсім свеце — гэта ТЫ САМ. Навучыцца заўсёды жыць побач з сабою, сваім сумленнем... Адчуваць сябе, паважаць, саромецца — роўна прыручэнню БОГА.

*

Ніякая рэлігія не ёсць шлях да Бога, а толькі адзін з напрамкаў культуры грамадства.

*

Цяжка згадзіцца, але жаданне жыць па біблейскіх законах не гарантуе боскай літасці, прыцягвае да новых выпрабаванняў...

*

Нават калі перад вамі Іуда, гэта не азначае, што перад ім Хрыстос...

*

Бывае, так прыемна адчуць сябе ахвярай, пацярпеўшай за праўду, а

сумленне пярэчыць: “Не звяртай увагі на дробязную крыўду... Такую здраду, як прадалі Хрыста, трэба яшчэ “заслужыць”!”

*

Здаецца, іншыя лічаць, што талент даецца дзеля таго, каб зручней было пры дапамозе яго торкаць фігі.

*

Творцу неабавязкова ведаць, чаго ён хоча, галоўнае знаць як гэтага дасягнуць.

*

Каб можна было ўсё патлумачыць, не патрэбна было б мастацтва.

*

Творца “памірае” ў ноч, калі, не пакінуўшы ложка, адкажа свайму азарэнню: “Пачакай да раніцы...”

*

“Жыццё — багна, сусвет — цемра, грамадства — смурод!” — даводзіў філосаф-чарвяк, точачы кучу гною.

*

Гляджу на эстэтаў-чыстаплюяў: “А што, як і праўда — у іх целе менш натуральных прыродных дзюрак, чым у іншых?..”

*

Ні што так не выдае сутнасці мужчыны, як яго жонка.

*

Чаму продаж цела прастытуткамі абурае нашых мужчын?

Даўно ператварыліся ў тавар — і сумленне, і інтэлект, і душа, і натхненне... Бадай, з пералічанага, цела —найменшая “згуба”. Ці не таму, што грошай у іх небагата?..

*

Каб сапраўды існавала адзінства формыі зместу—усё было б вечным...

Адзіна магчымыя адносіны формы і зместу — барацьба. І барацьба гэта - ЧАС.

ЧАС — бясконцае разбурэнне, пераўтварэнне матэрыі. Рост энтрапіі.

ЧАС — доказ няўстойлівасці формы і бяссмерця ідэі.

ЧАС — брама, прайсці праз яе мусіць кожны.

*

Хварабліва пазбягаю натоўпу, з якой бы нагоды ён ні стварыўся. Толькі адзін “натоўп” інстынктыўна прыцягвае мяне — ўсяночная на свята Уваскрэсення.

*

*“Я* не дая хору нарадаіўся...” — з гонарам паўтарае знаёмы, быццам само гэта гарантуе кар’еру саліста.

*

Ёсць людзі, роўныя багам, а ёсць багі, якія нарадзіліся людзьмі, каб несці разам чалавечы крыж.

*

Самалёты, спадарожнікі, ракеты – гэта не тыя інструменты з якімі чалавек можа звяртацца да Неба. Светлыя думкі, чыстыя памкненні, высокія пачуцці – вось ключы, у якіх нам дазволена стасавацца з космасам.

*

У дзіцяці каля трох гадоў ёсць кароткі перыяд, калі ў вочы яму немагчыма зазірнуць – пырснуць слёзы ад нейкага невыноснага святла, што ліецца з глыбіні вачэй малога. Як нельга зірнуць адкрытымі вачамі на сонца. Гэта той час, калі падрослае дзіця, аддаліўшыся ад маці, пачынае “падключацца да космасу”, у той нядоўгі момант сам Бог пазірае на нас праз яго вочы. Лічаным адзінкам людзей удаецца зберагчы і пранесці гэтае святло ў сваіх вачах праз усё жыццё.

*

Вечнасці не патрэбна будучыня. У вечнасці няма страху за будучыню, толькі пачатак і прысутнасць. Як у шчасці, кожнае імгненне – пачатак і прысутнасць.

*

Цемра, як фізічная, візіянерская з’ява, усяго толькі, – адсутнасць святла. Накіруй прамень – цемры не існуе.

Цемра, як метафізічная катэгорыя, як вобраз, – страх перад невядомым. Даведайся, даследуй – “цемры” няма.

Сапраўдная цемра – ірацыянальная субстанцыя, у якую няспынна пагразае чалавецтва праз злачынную спробу падвергнуць падмене – ЛОГАС, выкрадаючы першародны сэнс СЛОВА і ўсіх сыходных ад слова паняццяў і законаў светаўтварэння.

*

Святло – не сінонім лямпачкі пад абажурам і не трапяткі пялёстак полымя на свечкай, нават сонца – не абсалют святла. Святло – здольнасць не ператварыцца ў цемру.

*

Вера – не сляпое пачуцце, уласцівае экзальтаванай асобе. Не можа тугавухі стаць музыкантам, тугадум не назавецца філосафам, хтосці ледзь адрознівае тры колеры, другому дадзена бачыць сотні адценкаў і паўтаноў, адзін ледзь складае пальцы рук у лічбу, камусці дадзена адкрываць законы светаўтварэн-ня. Вера – вышэйшая ступень ведаў, натуральны водгук душы на відавочны свет. Душы, здольнай бачыць, чуць, адчуваць, разумець, прымаць гэты свет аб’ектыўна, тонка, з большай паўнатой уражання, чым на тое здольна асоба з неразвітымі органамі ўспрымання асяроддзя.

*

Чым вышэй арыенцір, тым прасцей не збіцца з дарогі.

*

Няхай кепска, але там, дзе БОГ- Ойца Хрыста, чым весела, сытна і хораша з д’яблам.